

Літаратура і мастацтва

газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

14 ЛІПЕНЯ 2000г. № 28/4060 КОШТ 95 РУБ.







# О Беларусь, мая шыпшына...

Словы гэтыя, як гаючы бальзам на душу. Яны, як тое запаветнае, што прыходзіць да цябе аднойчы і застаецца ў табе назаўсёды. І нейк неўпрыкметку з'яўляецца адчуванне, што яны жылі ў табе пастаянна і толькі чакалі моманту, каб выліцца ў шчырыя, кранальныя, непаўторныя радкі, якія гучаць самой песняй душы, ускалыханай харaством і напоўненай ім:

***О Беларусь, мая шыпшына,***
***зялёны ліст, чырвоны цвет!***
***У ветры дзікім не загінеш,***
***чарнобылем не зарасцеш.***

Напісаў іх Уладзімір Дубоўка ў 1925 годзе, маючы за плячыма ўсяго 25 гадоў. Заўтра ж яму спаўняецца 100! Час прабег маланкава хутка, непрыкметна. Не адно пакаленне змянілася, а верш застаўся гэткім жа па-маладому ўзнёслым, светлым, аптымістычным. Не зважаючы на тое, што на лёс Беларусі паўплываў іншы, страшны Чарнобыль.

Такая яна, сіла сапраўднай паэзіі. Жыць у сваім часе і жыць па-за гэтым часам, з'яўляючыся надзіва сучаснай для тых, хто быў сучаснікам самога паэта, і сучаснай для нас сённяшніх. Верыцца — так працягнецца назаўсёды. Бо і нашы наступнікі будуць любіць родную Беларусь гэтаксама самааддана, як любім яе мы. Як любіў яе Уладзімір Дубоўка.

*Матэрыялы, прысвечаныя юбіляру, чытайце на стар. 6—7, 14—15).*

*Фота з архіва Гарэцкіх.*



# КОЛА ДЗЁН

***10 ліпеня споўнілася 6 гадоў, як грамадзяне нашай краіны выбралі першага Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь. Ім стаў Аляксандр Рыгоравіч Лукашэнка.***

### *ПУБЛІКАЦЫЯ ТЫДНЯ*

У друку з'явіўся "Выбарчы кодэкс Рэспублікі Беларусь", які быў прыняты Палатай прадстаўнікоў 24 студзеня 2000 года і адобраны Саветам Рэспублікі 31 студзеня. Да ўсяго надрукаваны Закон Рэспублікі Беларусь "Аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у Выбарчы кодэкс Рэспублікі Беларусь". Змяненні і дапаўненні былі прыняты Палатай прадстаўнікоў 22 чэрвеня 2000 года і адобраны Саветам Рэспублікі 30 чэрвеня. І ўжо ў гэтым месяцы Прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь павінна быць прызначана дата правядзення парламенцкіх выбараў. Паводле Канстытуцыі яны павінны адбыцца не пазней чым за 30 дзён да сканчэння паўнамоцтваў дэпутатаў парламента, якое прыпадае на 27 лістапада. Такім чынам, выбары пройдуць не пазней 27 кастрычніка гэтага года. Словам, спадарства, рыхтуемся да цікавай восені.

### *ПАМЯЦЬ ТЫДНЯ*

Апоўдні 10 ліпеня ў цэнтры Мінска, каля сумнавядомай "Ямы", пачалі збірацца сотні жыхароў нашай сталіцы. Тут, на месцы былога яўрэйскага гета, дзе 2 сакавіка 1942 года гітлераўцы знішчылі каля 5 тысяч чалавек, адбылося адкрыццё мемарыяла ахвярам халакосту. Ва ўрачыстай цырымоніі прыняў удзел Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка, а таксама дэлегацыі з Ізраіля, ЗША, прадстаўнікі яўрэйскіх арганізацый з СНД і іншых краін.

### *КЛОПАТ ТЫДНЯ*

Беларуская армія адна з самых вялікіх і баяздольных у Еўропе. Праўда, пакуль што не прафесійная, таму ў адпаведнасці з Указам Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь на працягу ліпеня праходзіць адпраўка маладога папаўнення ва Узброеныя Сілы і іншыя сілавыя структуры. Усяго пад ружжо ў гэты прызыў плануецца паставіць каля 18,5 тысячы навабранцаў. І для таго, каб хлопцы вайсковую службу праходзілі як належыць, трэба каб яны былі здаровыя. І тут адбор сур'ёзны. Толькі ў час гэтага прызыву з 50 тысяч прызыўнікоў, выкліканых на прызыўныя ўчасткі, каля 23 працэнтаў прызнаны непрыгоднымі да вайсковай службы.

### *ЛІЧБЫ ТЫДНЯ*

Кіраўнік прадстаўніцтва ААН у Беларусі Ніл Бунэ на прэс-канферэнцыі, якая была наладжана з нагоды выхаду ў свет глабальнага Даклада аб развіцці чалавецтва за дзве тысячы гадоў, паведаміў, што па ўзроўні чалавечага развіцця наша краіна за апошні час перамясцілася з 60-га на 57-ае месца. З былых рэспублік СССР па гэтым паказчыку нашу краіну апярэджваюць толькі Эстонія (46-ае месца) і Літва (52-ое). Латвія — на 63-ім месцы, Расія — на 64-ым, Украіна — на 78-ым, Азербайджан і Арменія падзялілі 90-ае месца. Туркменістан — на 100-ым, Малдова — на 102-ім, Узбекістан — на 106-ым, Таджыкістан — на 110-ым. На прэс-канферэнцыі былі прыведзены дадзеныя, згодна якім па колькасці зняволеных на душу насельніцтва Беларусь уваходзіць у тройку сусветных лідэраў — 477 на 100 тысяч чалавек. Наперадзе нас толькі Расія (580 на 100 тыс) і ЗША (554 на 100 тыс.). Затое Беларусь займае 10-ае месца ў свеце па колькасці ўрачоў на душу насельніцтва: 379 на 100 тыс. чалавек. І, як гаворыцца ў лічбах, як у люстэрку, бачна наша жыццё...

### *ПРЫЗНАЧЭННЕ ТЫДНЯ*

Закончыўся чэмпіянат Еўропы па футболе. На жаль, наша зборная ўжо які год выбывае з гульні амаль на самым пачатку адборачных матчаў. І вось у балельшчыкаў, здаецца, з'явілася надзея, што футбольныя справы ў нашай краіне наладзяцца. І прычынай гэтаму стаў прыезд легендарнага чалавека, імя якога — Эдуард Малафееў. У Мінск ён прыехаў некалькі дзён назад пасля таго, як бюро выканкама Беларускай федэрацыі футбола афіцыйна зацвердзіла яго на пасаду галоўнага трэнера. Першы адборачны матч да чэмпіянату свету-2002 года адбудзецца ўжо 2 верасня на стадыёне "Дынама" з камандай Уэльса. Часу на "раскачку" ў Эдуарда Малафеева няма. І ўсё ж хочацца верыць, што ён недарэмна ўзяўся за справу...

### *ЗДАЧА ТЫДНЯ*

Зброю здаюць не толькі ў Чачні, дзе ідзе вайна, але і ў нас. Як паведамілі карэспандэнту БЕЛТА з УУС Брэсцкага аблвыканкама за першыя два тыдні месячніка на добраахвотнай здачы незарэгістраванай зброі, які праводзіцца ў вобласці, добраахвотна здадзена 13 экземпляраў такога арсенала і каля сотні патронаў да яго. У той жа час за гэты перыяд зафіксавана каля дзесятка выпадкаў прымянення незарэгістраванай зброі. Дарэчы, штогод у вобласці канфіскуецца ў сярэднім ад 210 да 270 адзінак незарэгістраванай зброі. На захоўванне 25 тысяч ствалоў у жыхароў вобласці ёсць афіцыйныя дазволы.

### *ВАНДРОЎНІК ТЫДНЯ*

Апошнім часам у друку шмат пішацца пра "Літаратурны экспрэс Еўропа-2000", дзякуючы якому на працягу амаль двух месяцаў пісьменнікі Еўропы маюць магчымасць павандраваць. Але павандраваць любяць і могуць не толькі пісьменнікі, але і звычайныя людзі. Так, у Магілёве жыве чалавек, работнік Магілёўскага завода "Трансмаш", старшыня абласной Федэрацыі велатурызму Леанід Пазднякоў, які 27 мая адправіўся на сваім ровары ў паездку па Еўропе. На днях ён вярнуўся з вандроўкі, праехаўшы 6 тысяч кіламетраў і наведаўшы восем краін — Польшчу, Славакію, Германію, Аўстрыю, Швейцарыю, Бельгію, Галандыю і Францыю. Няслаба...

### *ЗНІКНЕННЕ ТЫДНЯ*

7 ліпеня ў Мінскі аддзел унутраных спраў па паветраным транспарце звярнуўся журналіст Павел Шарамет. Ён заявіў, што тэлеаператар Беларускага бюро ГРТ Дзмітрый Завадскі, які павінен быў сустрэць яго ў аэрапорце "Мінск-2", на сустрэчу не з'явіўся. Службовая аўтамашына, якой кіраваў тэлеаператар, была знойдзена на прывакзальнай плошчы аэрапорта. Па гэтым факце ў той жа дзень заведзена вышуковая справа, а 8 ліпеня ўзбуджана крымінальная па артыкуле 101 Крымінальнага кодэкса — наўмыснае забойства.

### *ПРАГНОЗЫ ТЫДНЯ*

Нядаўняя спякота, што была на ўсёй тэрыторыі нашай краіны, змянілася дажджамі. Але гэта толькі ў нас, а ў такіх краінах Еўропы як Італія і Грэцыя тэмпература і сёння дасягае 40 градусаў цяпла. Больш за ўсіх з-за надвор'я пацярпела Венгрыя, дзе ад моцнай спякоты і засухі згарэла амаль палова ўраджаю кукурузы. Спецыялісты ў галіне кліматалогіі звязваюць наяўнасць у Еўропе моцнай спякоты і іншых катаклізмаў з моцным уплывам на нашу планету Сонца. Як вядома, зусім нядаўна на сонцы адбыліся моцныя ўспышкі (бываюць раз у 11 гадоў), якія выклікалі геамагнітную буру на Зямлі. Сусветныя кліматолагі лічаць, што зараз мы назіраем толькі першую хвалю катаклізмаў. Другая, і больш моцная, хваля анамальных з'яў прыйдзе тады, калі на змяненні магнітнага поля Зямлі пачне па-сапраўднаму рэагаваць сусветны акіян. На тэрыторыі нашай краіны, па прагнозах сіноптыкаў, у ліпені спякоты не будзе. Праўда, жнівень абяцаецца быць цёплым і сухім. А як яно ўсё будзе на самай справе, пажывём — пабачым...

ПАДЗЕІ

# Літэкспрэс у Беларусі

Больш за 100 пісьменнікаў з розных краін свету завіталі ў беларускую сталіцу ў рамках міжнароднай акцыі "Літаратурны экспрэс Еўропа-2000", якая праводзіцца пад патранажам ЮНЕСКА, Еўрапейскай рады і Міжнароднага Саюза чыгункі, а з беларускага боку падтрымліваецца і здзяйсняецца Міністэрствам культуры Рэспублікі Беларусь, Дзяржаўным камітэтам Рэспублікі Беларусь па друку, Мінскім гарвыканкамам, Саюзам беларускіх пісьменнікаў пры актыўным удзеле Міністэрства замежных спраў Рэспублікі Беларусь. Падарожжа, ідэя і распрацоўка якога належыць літаратуразнаўцу з Нямеччыны, дырэктару літаратурнай майстэрні, доктару філалагічных навук Томасу Волфарту, пачалося 5 чэрвеня ў Лісабоне, прайшло праз шэраг буйных еўрапейскіх гарадоў і ў сярэдзіне ліпеня завершыцца ў Берліне, дзе мае адбыцца міжнародны кніжны фестываль.



*Запрашаюць у Дом Купалы*

9 ліпеня шматлікія госці і ўдзельнікі праекта наведалі купалаўскі мемарыяльны запаведнік "Вязынку", прайшлі сцяжынкамі вялікага песняра зямлі беларускай, удзельнічалі ў традыцыйным купальскім свяце. З вітальным словам да прысутных звярнуліся намеснік старшыні Саюза беларускіх пісьменнікаў Навум Гальпяровіч і галоўны рэдактар часопіса "Полымя" Сяргей Законнікаў, якія падкрэслілі вялікае значэнне гэтай падзеі для сусветнай літаратуры і культуры, для з'яднання народаў Еўропы ў агульны дом, для далейшага ўзаемаразумення людзей розных поглядаў і лёсаў на парозе трэцяга тысячагоддзя. Свае вершы чыталі Алесь Пісьмянкоў, Раіса Баравікова, Анатоль Вярцінскі, Генадзь Бураўкін, Аманда Айзпурыетэ, Інга Ліндквіст і іншыя. Адбыўся канцэрт з удзелам ансамбляў "Харошкі" і "Чараўніцы", Дзяржаўнага хору імя Г. Цітовіча, струннага квінтэта Беларускай дзяржаўнай філармоніі, дзіцячага ансамбля "Зубраня" Дома культуры Мінскага аўтазавода, паэтычныя творы прагучалі ў выкананні Марыі Захарэвіч. Удзельнікі "Літаратурнага экспрэса" наведалі хату-музей Янкі Купалы, выставу вырабаў майстроў народнай творчасці, пачулі беларускія народныя песні ў выкананні фальклорных гуртоў.



*Валянціна Салаўёва (Масква)*

10 ліпеня ў бібліятэках і літаратурных музеях Мінска адбыліся дыспуты, семінары, экскурсіі, сустрэчы беларускіх пісьменнікаў з замежнымі гасцямі. Рознагалоссе моў гучала ў Нацыянальнай бібліятэцы, у бібліятэках імя А. С. Пушкіна і Янкі Купалы, у літаратурных музеях Максіма Багдановіча, Якуба Коласа, Янкі Купалы. У музеі беларускай літаратуры адбылася творчая сустрэча, у якой узялі ўдзел вядомыя паэты Антаніна Хатэнка, Анатоль Вярцінскі, Уладзімір Дзюба, Уладзімір Паўлаў, крытык Серафім Андраюк, перакладчык Міхась Кенька, чэшскія пісьменнікі Йозеф Хрубы і Мірaслаў Гулл, паэт і тэлевядучы з Арменіі Давыд Мурадзян, дырэктар музея Леанід Хадкевіч. Госці азнаёміліся з экспазіцыяй, якая адлюстроўвае трагічны шлях беларускай літаратуры ў часе і прасторы, страты і набыткі, мінулае і дзень сённяшні. Падчас нязмушанай і шчырай гаворкі абмяркоўваліся роля і месца пісьменніка ў сучасным свеце, адказнасць творцы перад народам за слова напісанае і сказанае, уплыў крытыкі на літаратурны працэс, закраналіся разнастайныя пытанні перакладчыцкай і кнігавыдавецкай дзейнасці. Напрыканцы сустрэчы прагучалі вершы на беларускай, чэшскай, армянскай мовах, творы С. Рахманінава, Ф. Шапэна, М. Іфхакбаевай віртуозна выканала навучэнка мастацкага вучылішча імя М. Ахрэмчыка Алена Цэгалка.

Увечары ў Вялікай зале Дома літаратара адбыўся літаратурны вечар "Беларусь праз межы і стагоддзі", дзе выступілі міністр культуры Аляксандр Сасноўскі, в. а. старшыні Саюза беларускіх пісьменнікаў Вольга Іпатава, галоўны рэдактар штотыднёвіка "Літаратура і мастацтва" Алесь Пісьмянкоў, галоўны рэдактар часопіса "Полымя" Сяргей Законнікаў, намеснік галоўнага рэдактара часопіса "Вожык" Генадзь Бураўкін, замежныя госці, а таксама была наладжана выстава кніг беларускіх выдавецтваў.

**Марыя РУДОВІЧ**

*Фота Ул. КРУКА.*

СУСТРЭЧЫ

# Як паразумецца разнамоўным?

Неаднойчы спрабавала ўявіць, як бы я паўтара месяца раз'язджала з краіны ў краіну, з горада ў горад разам з сотняй разнамоўных калег. Не атрымліваецца. "Вар'яцкім" праект называюць самі ўдзельнікі, тым не менш, Літэкспрэс "Еўропа-2000" ад Лісабона праз Францыю, Бельгію, краіны Балтыі і Расію паспяхова дабраўся да нашай рэспублікі. Двухдзённае знаёмства не можа не быць фармальным. Сустрэча ў Палацы рэспублікі. Экскурсія па Мінску, тэатралізаванае свята ў Вязынцы няшмат давалі інфармацыі і ўражанняў. Арганізатары з нашага боку ўскладалі надзеі на сустрэчы гасцей з беларускімі пісьменнікамі. Замежнікаў размеркавалі паміж культурнымі асяродкамі — музеямі, бібліятэкамі, дзе рэй вялі кіраўнікі літаратурных выданняў.

Што патрабавалася для поспеху камунікацыі? Прыязная атмасфера, цікавая тэма для абмеркавання, магчымасць нефармальных міжасабовых кантактаў. Не ўсюды пералічанае мела месца. Кажуць, жывая гаворка адбылася ў Нацыяналцы (сустрэча з "Полымем"). Пілі каву і чыталі вершы ў Хадкевіча (аб'яднанне літаратурных музеяў), дзе ад "Культуры" вёў "круглы стол" А. Вярцінскі. А самае нечаканае адбылося ў музеі Максіма Багдановіча, куды прыйшлі прадстаўнікі "ЛіМа".

Здзівіла ўжо тое, што гасцей аказалася не чацвёра, а каля двух дзесяткаў. Ніякай цікавасці да штотыднёвіка і беларускай літаратуры яны не праявілі, і заяўленую тэму — "Мова мастацкай літаратуры і мова дыпламатыі" — скарысталі ў сваіх мэтах. Сустрэча сталася плацдармам для сутыкнення рознаскіраваных палітычных сіл. Падставай паслужыла выказванне рускіх пісьменнікаў, удзельнікаў Літэкспрэса, у расійскай прэсе адносна падзей у Чачні. Прагучалі цытаты з іх выступленняў, вось адна з іх: "Нам не трэба Чачня, нам трэба перамога ў Чачні". Прадстаўнік Украіны, малады паэт Андрэй Бондар зачытаў зварот да Пуціна з прапановай мірнага вырашэння чачэнскай праблемы. Ліст падпісалі 62 удзельнікі праекта (больш паловы). Расійцы, натуральна, ударылі ў хамут: як жа так, нас нават у вядомасць не паставілі! Правакацыя! М. Кураеў "ад імені Расіі" атэставаў акцыю як антыдыпламатычную і прыняў выклік. А. Варламаў, у сваю чаргу, доўга тлумачыў сваю пазіцыю па Чачні, называючы аўтаномію "рабаўладальніцкай тэрыторыяй". Ім пярэчылі. Тут, відавочна, сутыкнуліся два падыходы да вайны ў Чачні. Адзін сыходзіць са святой ідэі незалежнасці (асабліва дарагой для былых васалаў імперыі — прыбалтаў, украінцаў і г. д.), другі абапіраецца на канкрэтную практыку каўказскага народа, які змагаецца за права самавызначэння як умее. І кожны бок па-свойму правы! Здавалася, што не перамовы Пуціна з Масхадавым, а літаратары розных краін разам з "ЛіМам" павінны вырашыць праблему чачэнска-расійскага канфлікту.

Гаворка зацягвалася, расійскія арганізатары звярталіся да нямецкіх па тлумачэнні. У ролі "трацейскага суддзі" выступіў літаратуразнаўца Іван Чарота, але нават і ён не астудзіў гарачых галоў. Нарэшце прарвала хмару, якая спела больш месяца, ментальнае супрацьстаянне выявілася ў фізічным свеце, што само па сабе не так і кепска. У пастаянных раз'ездах, зменах гасцініц і выступленнях па розных кропках раней для гэтага проста не знаходзілася магчымасці. У выніку было прызнана, што сустрэча з "ЛіМам" аказалася самай цікавай...

...Пад вечар, калі ішла падрыхтоўка да заключнай літаратурнай імпрэзы, на студзеных крэслах у прыёмнай СБП зняможана прылегла шведская пісьменніца, ураджэнка Беларусі. Доўгая дарога ўсё ж давала пра сябе знаць. Сімвалам усяго літаратурнага экспрэса падалася мне гэтая карціна. "Еўропа-2000" ідзе да завяршэння і вынікі падвядзе ў Берліне.

**Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ**

ДАТЫ

# Камернае свята

У мінулую пятніцу быў адзначаны дзень нараджэння Янкі Купалы. Як і чакалася, мерапрыемствы з гэтай нагоды не набылі агульнарэспубліканскага маштабу і насілі хутчэй камерны характар. У прыватнасці, жыхарам Мінска пра Купалу нагадвалі ў скверы і музеі, якія носяць імя класіка беларускай літаратуры.

Арганізатарамі імправізаванага мітынгу ля помніка сталі Саюз беларускіх пісьменнікаў і ўсё той жа Літаратурны музей Янкі Купалы. Варта адзначыць, што ніякая рэклама мерапрыемству не папярэднічала. І журналісты ў той дзень вымушаныя былі асвятляць іншыя здарэнні: інфармацыю пра гэтую падзею ў жыцці горада далі толькі на восьмым канале нацыянальнага тэлебачання. У выніку згаданай недарэчнасці выступы сяброў Саюза беларускіх пісьменнікаў слухалі адно толькі група дзяцей з дзіцячага садка і некалькі дзесяткаў мінчукоў. Дзеля справядлівасці адзначым, амаль усім экскурсіў спадабался. Людзі гучна пляскалі ў ладкі. Перад прысутнымі выступілі намеснік старшыні СБП Навум Гальпяровіч, пісьменнікі Анатоль Вярцінскі, Мікола Чарняўскі ды іншыя. Казалі пра ролю Купалы ў беларускай літаратуры, чыталі яго і свае вершы. Апроч знакамітасцяў, аддавалі належнае класіку і зусім малодыя літаратары. Свае вершы дэкламаваў Зміцер Вішнёў. Але адсутнічала гукаўзмацняльная апаратура. Міжволі слухачам даводзілася напружваць слых. І калі добра пастаўлены голас спеваковў з фальклорнага ансамбля "Мінскі гармонік" напэўна было чуваць і ў другім канцы сквера, то кароценькая прамова адной паважанай жанчыны цалкам патанула ў мітусні натоўпу. А жанчына гэта, між іншым, пляменніца Янкі Купалы. Таго самага, чый дзень нараджэння адзначаўся 7 ліпеня. Ускладвыўшы кветкі да помніка паэту, супрацоўнікі літаратурнага музея запрасілі ўсіх наведаць з экскурсіяй сваю ўстанову.

**Вадзім ДОЎНАР**

МУЗЫКА

# Чарговае вяртанне Агінскіх

Па традыцыі ў пярэдадзень Купалля ў музеі матэрыяльнай культуры "Дудуткі" прайшоў чарговы фэст старасвецкай культуры. Як і пяць гадоў назад, ладзілі яго Яўген Будзінас і яго паплечнікі (хаця ў музея іншыя гаспадары — холдзінгавая кампанія "Інфабанк"). Праўда, у 1995 годзе, лічба гасцей, удзельнікаў свята (а яно яшчэ супала з міжнароднай канферэнцыяй "Музеефікацыя гістарычных тэрыторый) была больш за тысячу. Ды справа не ў колькасці... Паранейшаму, у "Дудуткі" прыехалі многія сябры Я. Будзінаса, дыпламаты і журналісты, тэатральныя рэжысёры і мастакі... І фундатары ў свята розныя. Найперш — прыватныя, камерцыйныя ўстановы. І, канешне ж, сам "Інфабанк".

І што самае галоўнае — у "Дудутках" гучала класічная беларуская музыка, вернутая "Беларускай капэлай" з цянётаў XIX стагоддзя. Да свята быў выдадзены нотны зборнік "Музыка сям'і Агінскіх". Гэта шостае па ліку выданне ў серыі "Музыка старажытных сядзіб". Паверце, пройдзе час — і кожная з кніг, кожны з гэтых нотных зборнікаў, пачатак якіх пакладзены ў 1995 годзе, будуць з'яўляцца самымі дарагімі рарытэтамі, унікальнымі для гісторыі Беларусі, для гісторыі сусветнай музыкі выданнямі. Мяркуйце самі, вось жа і Агінскія прыналежныя не толькі Беларусі, але і Польшчы, ды і ўвогуле Еўропе.

З прадмовы да зборніка "Музыка сям'і Агінскіх": "...Лёс распарадзіўся так, што Агінскія засталіся ў людской памяці як асветнікі, мецэнаты, аматары прыгожых мастацтваў. Князь Багдан Агінскі яшчэ на пачатку XVII стагоддзя заснаваў друкарню ў Еўі, Шычан Караль Агінскі стаў фундатарам Ві-лінскага касцёла кармелітаў босых, а Марцыян Міхал Агінскі быў патранамзаснавальнікам Менскай езуіцкай калегіі. Менавіта ў яго гонар у 1689 годзе была пастаўлена п'еса "Трыумфальная брама" — першы тэатральны спектакль у Мінску.

Сярод Агінскіх было нямала і тых, хто найбольшым замілаваннем дарыў музыку. Менавіта ў гэтым мастацтве Агінскія пакінулі свой, прыкметны, глыбокі след...

Музычная частка на чарговым фэсце старасвецкай культуры была ўсё ж цэнтральнаю. Кіраўнік фірмы "Дудуткі-Тур" Валерыя Кліцунова паабяцала і працяг свята: наступны фэст таксама будзе наладжаны ў гонар Агінскіх. Мяркуецца прыезд на Беларусь і нашчадкаў гэтага славутага роду, тых, хто і сёння мае ядомасць у музычнай культуры.

Некалькі слоў пра сам музей матэрыяльнай культуры "Дудуткі". Стаўшы турысцкай Меккай Беларусі, яе нават прыкметай, ён апошнім часам як быццам затрымаўся ў сваім развіцці. Хто яго ведае, можа, такі лёс ва ўсіх першапраходцаў?.. Сёння ўжо прыкладваюць разумныя людзі свае рукі, укладваюць свае грошы і да ўпарадкавання іншых сядзіб, іншых месцаў, што ўвабралі ў сябе гісторыю і культуру мінулых стагоддзяў. Ёсць такія спробы і на пухавіцкай зямлі. Пакуль што, цяжка ўявіць, што нехта ў сваім развіцці здольны абагнаць "Дудуткі". Але калі першы ў гісторыі сучаснай Беларусі прыватны музей матэрыяльнай культуры запаволіць сваё развіццё, то, безумоўна, нехта яго апярэдзіць.

Чаго хацелася б чакаць ад "Дудутак..."? Новых аб'ектаў, якія б узорам сваім (а значыць — дзеяннем, гатовымі вырабамі, адкрытай для наведвальнікаў работай майстроў, рамеснікаў) вярталі турыстаў, сваіх гасцей і наведвальнікаў у мінуўшчыну. Ці здарыцца такое?..

У "Дудутак", на крайні выпадак, ёсць усе падставы, каб многія гісторыка-асветніцкія праекты былі рэалізаваныя. Справа — за праектамі.

**Кастусь ЛЕШНІЦА**

*Фота Мікалая ЛЯВОНАВА*

# Шонберг па-беларуску

Ці не першы, хто пазнаёміў колішнюю савецкую публіку з асобай Арнольда Шонберга, быў наш зямляк Іван Салярцінскі. У пасляваенныя дзесяцігоддзі ад гэтага знаёмства, можна сказаць, не засталося і знаку. Новыя пакаленні айчынных меламанаў (і нават прафесійных музыкантаў) мала што ведаюць пра творчы свет аўстрыйскага кампазітара-наватара, педагога, тэарэтыка музыкі, дырыжора, мастака (больш за дзвесце жывапісных палотнаў!), крытыка. Дый маюць зусім ціплы слухацкі досвед у яго багатай спадчыне, што ўвабрала ў сябе супярэчнасці часу і — дваістага светапогляду самога А. Шонберга.

Ён кіраваў хорам рабочых і апрацоўваў творы іншых аўтараў. Ён быў прафесарам кампазіцыі ў Берліне і педагогам-музыказнаўцам у Лос-Анжэлесе (хаця лічыўся геніяльным самавукам, бо дыплома аб прафесійнай адукацыі не меў). Ён спасцігаў школу старых майстроў, пераймаў традыцыі Я. Брамса, Р. Вагнера, Г. Малера, Р. Штрауса і заснаваў метад дадэкафоніі, прапанаваўшы для атанальнай музыкі строгую сістэму. Рэалізаваўшы свой метад у творах пачатку 20-х гадоў, ён заўсёды падкрэсліваў сувязь гэтага метаду з традыцыямі нямецкай класічнай кампазітарскай школы і яго падпарадкаванасць мастацкім задачам.

Пачынаў як рэаліст. Знайшоў аднадумцаў, спадкаемцаў, паслядоўнікаў у сваіх эксперыментах, авангардных адкрыццях. Сярод яго знакамітых вучняў — А. Берг, А. Веберн, Г. Эйслер...

А яго афарызмы! "Каб не перажываць свой боль, мастак дорыць яму неўміручасць у мастацкім творы". Ці такі: "Чалавек — гэта тое, што ён перажывае ў сваім досведзе; мастак перажывае ў досведзе толькі сябе самога".

У сёлетнім, знамянальным для свайго калектыву сезоне (10-годдзе з часу стварэння) ансамбль салістаў "Класік-Авангард" пад кіраўніцтвам Уладзіміра Байдава наладзіў, сярод іншых імпрэз, і музычнае спатканне з А. Шонбергам. Праграма вечарыны асвяжыла эмоцыі заўсёднікаў сталічнай Залы камернай музыкі, настроіла на развагі: чаму колішніх артадоксаў бянтэжылі навацыі ультрамоднага кампазітара і ў той жа час авангардысты папракалі яго за артадаксальнасць?

Сапраўднымі шлягерамі падавалі ся Шонбергавы інтэрпрэтацыі вальсавай музыкі І. Штрауса, матыў вядомай песенькі "Арэлі" з тэнаровага "неапалітанскага" рэпертуару — "Фунікулі-фунікула" Л. Дэнца, "Стары гуляка" І. Золі. Лашчылі слых аранжыраваныя ім Шубертаў "Накцюрн" ды "Элегічная калыханка" Ф. Бузоні. "Калядная музыка" выклікала радасць сустрэчы з тонка выкарыстаным тут вядомым напевам "Ціхая ноч". Ніякага эпатажу не адчуў слухач у "Камернай сімфоніі" (інструментоўка А. Веберна)...

А вось "Спатканне" для камернага аркестра ўспрымалася сапраўднай лірычнай кульмінацыяй канцэрта: душу ахінула пранікнёная рамантычная музыка, якой папярэднічалі паэтычныя радкі. "Спатканне" — верш А. Шонберга ў перакладзе Васіля Сёмухі — трапятліва, кранальна, далікатна прачытаў малады музыкант, артыст ансамбля "Класік-Авангард", фаготыст Аляксей Фралоў.

Збалансаваную, як добрае меню, праграму завяршыў сапраўдны выбух музычнага гумару: "на біс" прагучаў "Марш паляўнічых". Выканаўцы тут не проста ігралі "гуляючы": яны артыстычна і са смакам імітавалі стракаты жывёльны свет, віртуозна пераймаючы ўласнымі галасамі галасы братоў сваіх меншых: пеўня ды каровы, сабакі ды барана...

Вясёленькая партытура! Нечаканы Шонберг... Бадай, так і не спазнаны за імкліва праміналы час музычнага спаткання на Залатой Горцы.

**С. БЕРАСЦЕНЬ**

АБСЯГІ

*ГРОДЗЕНШЧЫНА...*

## Горад у фотаздымках

Прывабным горадам, у якім адпачывае душа і цешыцца вока, паўстае Гродна на фотаздымках, зробленых удзельнікамі двух міжнародных пленэраў, арганізаваных мясцовым фотаклубам. Менавіта з гэтых твораў і складаецца новы буклет "Гродна на мяжы тысячагоддзяў", які выпусціў да трэцяга Усебеларускага фестывалю нацыянальных культур гарадскі выканаўчы камітэт. Буклет адлюстроўвае горад над Нёманам ва ўсёй яго прыгажосці. І не толькі для гасцей, якія не вельмі добра яго ведаюць, але і для саміх гараджан. Кожны, хто ўважліва прагартаў старонкі выдання, знойшоў для сябе нешта новае і нават вядомыя ўсім мясціны ўбачыў свежым вокам. "Гродна на мяжы тысячагоддзяў" склалі творы 27 аўтараў з Гродна і Мінска, Калінінграда і Марыянполя, Варшавы і Беластока... Сярод вядомых фотамайстроў — мінчанін Яўген Казюля, паляк Пётр Савіцкі, гродзенцы Міхаіл Анішчанка, Ігар Коршунаў, Аляксандр Ласмінскі. Прадмову да выдання зрабіў мэр Гродна Анатоль Пашкевіч і дацэнт Гродзенскага дзяржуніверсітэта Святлана Куль-Сяльверстава. Шкада, што буклет, зроблены на сродкі фестывалю, выйшаў нязвыклым накладам.

**Лілія НАВІЦКАЯ**

*БРЭСТЧЫНА...*

## Напісанае застаецца

Ужо адна з ранніх п'ес Міколы Арахоўскага — драма "Напярэдадні" — прынесла несумненны поспех аўтару: яе прызналі лепшай на рэспубліканскім конкурсе. За ёю былі драмы "Ку-ку!", "Машэка", "Лабірынт", пазначаныя філасофскай глыбінёй і яркай мастацкасцю. Яны публікаваліся ў часопісах і альманахах, былі пастаўлены беларускімі тэатрамі і тэлебачаннем. Дзякуючы самабытным творам М. Арахоўскі быў прыняты ў Саюз беларускіх пісьменнікаў, стаў лаўрэатам прэміі імя Кандрата Крапівы. Арахоўскаму, аднаму з вядучых драматургаў Беларусі (ацэнка Аляксея Дударава), сёлета споўнілася б толькі 50.

З нагоды юбілейнай даты ў вёсцы Сялец Бярозаўскага раёна, на радзіме драматурга, адбылася вечарына з удзелам работнікаў культуры, настаўнікаў і школьнікаў, калгаснікаў ды іншых землякоў, якія цёпла ўзгадвалі Міколу Аляксандравіча і чыталі ягоныя творы (пісаў ён, апрача п'ес, вершы, апавяданні, артыкулы, а таксама займаўся жывапісам). Асабліва прачулым было, зразумела, слова пра сына Вольгі Аляксееўны Арахоўскай. Удзельнікі вечарыны паглядзелі фрагменты п'есы М. Арахоўскага "Напярэдадні" ў пастаноўцы Бярозаўскага народнага тэатра, калектыў якога хадайнічае пра наданне тэатру імя таленавітага земляка.

## "Мушкецёраў" не толькі чатыры...

Справаздачнымі канцэртамі адзначае сваё дзесяцігоддзе народная студыя эстраднай песні пры Доме культуры Брэсцкага завода бытавой хіміі. Яна, па сутнасці, з'яўляецца своеасаблівай філіяй вядомага вакальна-інструментальнага гурта "Мушкецёры", кіраўнік якога спявак, музыкант і кампазітар Анатоль Хворост утварыў і ўзначаліў студыю. Сумесныя канцэрты багатыя і разнастайныя, таму карыстаюцца нязменным поспехам у аматараў песні. Зараз у заводскай студыі — 9 салістаў, сярод якіх ёсць лаўрэаты і дыпламанты шэрагу абласных і рэспубліканскіх фестываляў і конкурсаў: Мікалай Бойка, Міхаіл Малахаў, Ніна Карпяк, Аляксей Гураў... Нядаўня ж удзельніца самадзейнага калектыву Наталля Разліванава з'яўляецца цяпер спявачкаю Дзяржаўнага маладзёжнага тэатра эстрады ў Мінску.

Дарэчы, да юбілею, толькі ўжо 30-гадовага, рыхтуюцца і самі "Мушкецёры". У прыватнасці, яны распачалі працу над альбомам песень Анатоля Хвораста на вершы паэтаў Брэстчыны.

**Сымон АКСЕНІН**

*ГОМЕЛЬШЧЫНА...*

## Ля Манумента дружбы

У глыбіні Палесся, на мяжы Нараўлянскага раёна і Народзіцкага раёна Жытомірскай вобласці ўстаноўлены Манумент дружбы — сімвал еднасці беларускага і ўкраінскага народаў. Штогод тут праходзяць святочныя сустрэчы. У сёлетняй прынялі ўдзел дэлегацыі пяці палескіх раёнаў Гомельшчыны і некалькі раёнаў Жытомірскай і Кіеўскай абласцей. Пасля афіцыйнай часткі адбыўся гала-канцэрт самадзейных беларускіх і ўкраінскіх артыстаў, у праграме якога значнае месца занялі выступленні фальклорных ансамбляў. Тут жа працаваў і імправізаваны горад майстроў, дзе дэманстраваліся вырабы дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва.

## Жывапісец з Хойнікаў

Мікалай Асауляк — выпускнік мастацка-графічнага факультэта Віцебскага педінстытута. Шмат гадоў ён працуе педагогам у Хойніках, адначасова актыўна ўдзельнічае ў выставах. Ягоныя пейзажы ўпрыгожваюць шматлікія кампазіцыі, у тым ліку і ў Германіі. Днямі ў карціннай галерэі абласной арганізацыі Саюза мастакоў адкрылася новая выстава ягоных прац.

**Аляксей ШНЫПАРКОЎ**

*МАГІЛЁЎШЧЫНА...*

## "Магутны Божа"

У абласным цэнтры праходзіць традыцыйны, ужо 8-мы па ліку, фестываль духоўнай музыкі "Магутны Божа". Выканаўчае майстэрства ансамбляў і харавых калектываў з Беларусі, Украіны, Расіі, Польшчы ацэньвае журы на чале з народным артыстам СССР, лаўрэатам Дзяржаўнай прэміі Беларусі, прафесарам Віктарам Роўдам.

## Асвяціл і храм

У Асіповічах архіепіскап Магілёўскі і Мсціслаўскі Максім асвяціў Свята-Увядзенскі храм. Сем год спатрэбілася прыхаджанам і протіерэю Васілю Белавусу, каб сабраць неабходныя сродкі на будаўніцтва царквы.

**Алесь ПЯТРОВІЧ**

*ВІЦЕБШЧЫНА...*

## Гран-пры — спеваку з Македоніі

У конкурсе маладых выканаўцаў на "Славянскім базары ў Віцебску" ўдзельнічала 20 спевакоў з 17 краін. Журы ўзначальваў украінскі спявак і кампазітар Тарас Петрыненка. Гран-пры прысуджаны Ташэ Праеўскаму з Македоніі. Першае месца падзялілі Нэлі Чабану з Малдовы і Аляксандра Рахманькова з Расіі. Другое — Вардзі Варданян з Арменіі і Марыян Новіна з Славеніі. Украінка Алеся Азнобіна на трэцім месцы. На жаль, беларускім спявачкам на гэты раз не пашанцавала. Цікава, што на наступны (юбілейны дзесяты) фестываль будуць запрошаны ўсе лаўрэаты папярэдніх "Базараў...".

**Святлана ГУК**



## ЧАСАПІС

### Нашы ў Балгарыі

**Як паведаміла Пасольства Рэспублікі Беларусь у Балгарыі, да 3 ліпеня — Дня Рэспублікі ў Балгарыі ў выдавецтве "Панарама" выйшла ў свет Анталогія беларускай паэзіі, якая з'яўляецца акадэмічным выданнем і прызначана як для шырокага кола чытачоў, так і для філалагічных факультэтаў у Балгарыі і Беларусі. Завершана двухгадовая сумесная праца Пасольства Беларусі ў Балгарыі, таварыства дружбы "Балгарыя-Беларусь", Саюза беларускіх пісьменнікаў і Беларускага таварыства дружбы і культурнай сувязі з замежнымі краінамі. Аб'ём выдання 701 старонка.**

**Анталогія выдадзена на дзвюх мовах, балгарскай і беларускай, ахопліває перыяд ад сярэдневечча да нашых дзён, уключае пераклады 59 беларускіх аўтараў ад Кірылы Тураўскага, Міколы Гусоўскага і Францішка Скарыны да Янкі Купалы і Якуба Коласа і нашых сучаснікаў Вольгі Іпатавай, Сяргея Законнікава, Раісы Баравіковай і інш. Над перакладамі працавалі 13 вядомых балгарскіх перакладчыкаў.**

**У кнігу ўключана графіка беларускіх мастакоў Уладзіміра Савіча, Валерыя Славука, Алега Назаранкі, Уладзіміра Вішнеўскага, Рыгора Сітніцы, Раісы Сіплевіч і Юрыя Хімкі.**

**Анталогія выдадзена на спонсарскія сродкі 10 розных фірм і прыватных асобаў.**

**Н. К.**

### Сумоўе душ — сумоўе галасоў

**"Літаратурны экспрэс Еўропа-2000" "спыніўся" і на старонках майскага нумара часопіса "Полымя". "Сумоўе душ — сумоўе галасоў" — так назвала ўступнае слова да падборкі твораў замежных пісьменнікаў В. Іпатава, зазначыўшы: "Вялікая гэта адказнасць — прадстаўляць літаратуру сваёй краіны! Але, мабыць, усё ж такі толькі таленавітае мастацкае слова і ў сённяшнім свеце можа дапамагчы зразумець гісторыю і душу народа, яго памкненні і ідэалы, погляд на сучаснасць і мінулае. І мы, беларусы, таксама зможам пазнаёміць Еўропу з лепшымі творамі сваіх пісьменнікаў, з нашым мастацтвам". А гасцямі "Полымя" з'яўляюцца Р. Вагнер (Германія), А. Бондар, М. Рабчук, Ю. Андруховіч (Украіна), В. Салаўёва (Расія), С. Тонціч, А. Гаталіца (Югаславія), В. Захарыева (Балгарыя), А. Марэнчын (Славакія), Я. Алішанка (Літва), Інга-Ліна Ліндквіст, Х. Сандэл (Швецыя), К. Выраг (Швейцарыя), А. Айзпуруетэ, М. Чаклайс (Латвія), Г. Патэрсан (Вялікабрытанія), Ф. Бласбан (Бельгія), творы якіх пераклалі Г. Скакун, Л. Драньо-Майсюк, В. Рагойша, М. Кенька, І. Чарота, Я. Каршукоў, В. Коўтун, Л. Баршчэўскі, А. Гуцаў, А. Дапкюнас, Ю. Барысевіч.**

**Нумар не абмяжоўваецца "экспрэсаўскімі" матэрыяламі. Змешчана вершаваная падборка Р. Барадуліна "Лісты ў Хельсінкі да Васіля Быкава", вершы Э. Грахаўца, В. Бохан, Я. Чыквіна, апавяданні В. Ткачова, заканчэнне рамана В. Казько "Бунт незапатрабаванага праху". С. Кавалёў у артыкуле "Гамер Вялікага княства Літоўскага" расказвае пра М. Стрыйкоўскага. Прапануюцца дзённікавыя запісы У. Ліпскага "Глыток чароўнага пітва". Г. Кісялёў ("Прыцягненне Скарыны") запрашае яшчэ раз наблізіцца да таго, хто з'яўляецца адным з самых выдатнейшых беларусаў на ўсе часы. Творчая постаць Андрэя Мрыя прывабіла П. Васючэнку ("Трагедыя пісьменніцкага лёсу"). Т. Грамадчанка ("Служэнне праўдзе адзінай") рэцэнзуе том прозы В. Быкава, які выйшаў у серыі "Беларуская проза XX стагоддзя". Л. Зарэмба дзеліцца ўражаннямі ад кнігі паэзіі Міхася Шаховіча "Пад сузор'ямі" ("Мой лёс і я").**

### У ліку першых...




**У ліку першых перасяленцаў прыбыў з пацярпелай ад Чарнобыля Брагіншчыны ў Добрушскі раён Адам Варанец. За 14 паслячарнобыльскіх гадоў стаў тут уже сваім. Гэтак жа, як і ў родных Астраглядах, працягвае працаваць настаўнікам геаграфіі, але цяпер ужо ў сярэдняй школе вёскі Уць.**

*Фота Сяргея ХАЛАДЗІЛІНА, БЕЛТА*

ВЫСТАВЫ

# "Парыж, ты мой другі Віцебск..."

"Парыж, ты мой другі Віцебск..." — так гаварыў Марк Шагал, мастак, імя якога стала адным з сімвалаў XX стагоддзя. На жаль, знаёмства нас, землякоў майстра, з яго творчасцю было да апошняга часу даволі абмежаваным. Ніводны альбом ці каталог, нават выкананы на высокім паліграфічным узроўні, не мог перадаць моцнага эмацыянальнага гучання, якое вылучае творы Марка Шагала сярод іншых мастакоў. Выстава ж твораў Шагала упершыню адбылася на яго радзіме ў Віцебску толькі тры гады таму, калі ў 1997 годзе ўнучка мастака Мерэт Мейер-Грабер прывезла творы сярэдзіземнаморскага перыяду яго творчасці ў Нацыянальны мастацкі музей і віцебскі музей Шагала. У мінулым годзе ў Віцебску яна прадстаўляла выставу эстампаў, а таксама наведала Мінск падчас дэманстрацыі французскіх і беларускіх дакументальных фільмаў, прысвечаных яе славутаму дзеду. Сёлета Мерэт прапанавала беларускім гледачам новую экспазіцыю прыватнай калекцыі, якая належыць ёй і сястры Бэле і днямі адкрылася ў Нацыянальным мастацкім музеі. Гэта унікальная калекцыя з дзвацаці эскізаў да роспісаў плафона Парыжскай оперы, дзесяці літаграфій з парыжскай серыі 50-х гадоў і пяці манументальных габеленаў Івет Кокій Прэнс, створаных паводле матываў жывапісных твораў Шагала і часткова пад кіраўніцтвам.




Шагал вяртаўся ў Парыж некалькі разоў за сваё жыццё. Вяртаўся з радзімы, якая не прыняла яго авангардных вышукаў у 20-х гадах, вяртаўся з Амерыкі пасля заканчэння Другой сусветнай вайны. У Парыжы яму лёгка дыхалася, там ён стварыў многія знакамітыя творы, у кожным з якіх ён таксама вяртаўся — толькі цяпер ужо ў Віцебск, у горад свайго дзяцінства. І калі ў 1963 годзе ён прыняў прапанову міністра культуры Францыі Андрэ Мальро распісаць плафон Парыжскай оперы, ён не прамінуў знакамітых "віцебскіх" персанажаў. Шагалаўскі Парыж пазнавальна местачковы, зусім не мітуслівы і не сталічны. На эстампах мастака раскіданы букеты кветак, на небе лётаюць закаханыя, а Эйфелева вежа глядзіцца дзіцячай цацкай. І побач з прыцягальнымі вобразамі і алегорыямі зачароўвае вытанчаная палітра мастака, вібрацыя паўтаной, гнуткасць ліній, гармонія кампазіцыі.

На адкрыцці выставы прысутнічала ўнучка Шагала Мерэт Мейер з праўнучкай мастака Лізай. З вырашэннем фінансавых пытанняў, страхоўкай, транспартам, выданнем каталога, афішы, як і раней, дапамог саветнік па культуры і супрацоўніцтве Пасольства Францыі ў Рэспубліцы Беларусь Франсуа Ларан. На пытанне прэсы пра магчымую перадачу твораў Шагала яго нашчадкамі радзіме мастака, станоўчага адказу, на жаль, не было. Таму гледачы маюць магчымасць пазнаёміцца з арыгіналамі выдатнага майстра. Тым больш, што выстава працягнецца да канца лета.

**Наталля ШАРАНГОВІЧ**

*На здымках: На адкрыцці выставы выступае дырэктар Нацыянальнага мастацкага музея У. ПРАКАПЦОЎ.*

*Фота Я. ПЯСЕЦКАГА*

НАДЗЁННАЕ

# Каб не згубіць сабранае...

Гісторыя пішацца з дня ў дзень. Падзеі адбываюцца на нашых вачах. Але далёка не заўсёды яны аказваюцца засведчанымі ў друку. Прычыны розныя: пэўны руплівец — гісторык ці краязнаўца — адкладваў клопат напісання артыкула, публікацыю дакумента "на пасля", якое ўжо ніколі не наступіць. Гістарычнае сведчанне аказалася ў руках людзей выпадковых. Ды ці мала што здараецца ў жыцці...

Зразумела, калі дакументы, аўтографы, рэдкія выданні знікаюць у час войнаў ці рэвалюцый, іншых сур'ёзных катаклізмаў.

Як заўсёды, можна задаць пытаннем: "Хто вінаваты..." Безумоўна, вінаваты, у першую чаргу, мы самі. Вінаваты сваім несур'ёзным стаўленнем да ўласных збораў. Маўляў, жыць будзем яшчэ доўга — таму самі ўсё паспеем. Наіўнае перакананне каштуе дарагога. Забываецца, што памяць пра многіх краязнаўцаў доўжыцца пяць-дзесяць гадоў, пакуль яшчэ жывыя некаторыя з паплечнікаў. І ўсё... Наступнікі ўжо наўрад ці адкрыюць імя таго з папярэднікаў, з фондам альбо справай, зборамі якога ў архіве і не сустрэнешся.

Вінаваты ў некаторай ступені, магчыма, і сем'і. Але што шукаць вінаватых!.. Часам і да пісьменніцкай работы дома ставіцца абыякава. Піша сабе — няхай і піша. Абы друкавалі і плацілі. У выпадку з краязнаўцамі ўсё складаней. Па-першае, многія друкаваліся рэдка, нікідка — у часопісах, газетах (часта — толькі ў раённых). Значыць, рэзананс зробленага імі меншы, чым любога з пісьменнікаў, аўтара дзвюх-трох кніжак. Па-другое, і сям'ю тую (жонку, якая часцей за ўсё і не філолаг) зразумець можна: у спадчыне краязнаўцы, у адрозненне ад пісьменніцкіх папер, у большай ступені прысутнічаюць разрозненыя фрагменты, выпадковыя запісы, чужыя дакументы і г.д. Каб зразумець каштоўнасць, ацаніць вартасць сабранага, таго, што засталося, — трэба самому быць краязнаўцам, трэба, каб да сям'і былі блізкія людзі чуйныя, уважлівыя, здольныя ацаніць і дапамагчы, падказаць, якім чынам распарадзіцца тым, што засталося пасля смерці краязнаўца.

Дык што рабіць?.. Безумоўна, першачарговую ўвагу да прыватных краязнаўчых архіваў (а магчыма, і збораў пры жыцці саміх даследчыкаў мінуўшчыны) павінна, абавязана праявіць дзяржава. Прычым, зусім неабавязкова ствараць новыя ўстановы і інстытуты.

Нельга ўсё ўзваліць на плечы, напрыклад, Беларускага дзяржаўнага архіва-музея літаратуры і мастацтва. Многае маглі б зрабіць грамадскія арганізацыі, творчыя саюзы. Праўда, наўрад архіву ці архівам варта чакаць нейкай падказкі ад Беларускага краязнаўчага таварыства. Іншая справа — Саюз беларускіх пісьменнікаў. Безумоўна, ён не знаходзіцца ў настольні выдатным матэрыяльным становішчы, каб набыць у родзічаў памерлых літаратараў прыватныя архівы, але — падказаць, параіць, заўсёды мог бы. Ёсць прыклады стварэння грамадскіх краязнаўчых аб'яднанняў. Гэта, напрыклад, Віцебскі краязнаўчы фонд імя А. Сапунова (узначальвае яго вядомы віцебскі краязнаўца Аркадзь Падліпскі). Вось там у Віцебску, упэўнены, ёсць каму выступаць у ролі грамадскіх кансультантаў дзяржаўных архіваў.

А што маглі б зрабіць архівы, маючы на сённяшні дзень адпаведную тэхнічную базу? Банк звестак аб мясцовых краязнаўцах. З адрасамі, з указаннем тэм, у межах якіх працуе той альбо іншы мясцовы даследчык. Па вялікім рахунку, можна было б ужо і энцыклапедычны даведнік мець — "Краязнаўцы Беларусі. XX стагоддзе".

Камп'ютэрны банк звестак дазволіў бы трымаць на кантролі здабыткі прыватных збораў, стасункі краязнаўцаў з мясцовымі музеямі. А следам за інфармацыйным банкам архівы пашырылі б формы зносін з мясцовымі збіральнікамі гістарычнай памяці... Напрыклад, праз адрасныя метадычныя парады, праз аргументаваны доказ, дзе павінна знаходзіцца тая альбо іншая рэліквія, той альбо іншы дакумент.

Толькі ў апошні час пайшлі з жыцця пісьменнікі і краязнаўцы, якія руплівa працавалі ў архівах, ездзілі і хадзілі па Беларусі, — Леанід Пракопчык, Мар'ян Віж (Зайцаў), Анатоль Ярохін, з менеі вядомых — Аляксандр Пікулік з Голацка Пухавіцкага раёна... Дзе іх архівы?.. Што тычыцца А. Ярохіна, то вядома, што ў апошнія гады ён пісаў дакументальную аповесць пра пухаўчаніна, камандзіра аднаго з першых злучэнняў паветрана-дэсантных войскаў Узброеных сіл СССР Фёдара Смеянові ча. Дзе рукапіс?.. Дзе арыгінальныя здымкі?.. Так склаўся лёс А. Ярохіна, што ніхто з яго сяброў не ведае, дзе шукаць той рукапіс?.. Мо хто з родзічаў ці блізкіх Анатолю Паўлавічу людзей адгукнецца, падкажа, парадуе тым, што рукапіс не знішчаны?.. Чытаю ў Іраклія Андронікава: "Валодаць каштоўнейшай калекцыяй — быць у адказнасці перад гісторыяй. Нашчадкі не стануць унікаць у абставіны, пры якіх уладальнікам давялося развітацца з часткай калекцыі. Ужо не пра іх — аб усіх нас будуць меркаваць з асуджэннем: "не змаглі захаваць", "пагубілялі", "дзе былі тыя, каму па роду заняткаў трэба было, неабходна было праявіць клопат пра гістарычныя дакументы, — людзі культуры, гісторыкі, музейныя работнікі, архівісты?" Хіба мы не гаварылі пра тых, што жылі ў мінулыя часы і не захавалі для нас многіх выдатных помнікаў культуры?.."

Хіба не менеi каштоўныя калекцыі і прыватныя архівы краязнаўцаў?..

Важкі адрэзак свайго жыцця правёў за межамі Беларусі — у Ашхабадзе, Маскве і Тбілісі — празаік, публіцыст, краязнаўца Мікола Калінковіч, які загінуў у 1990 годзе. Пры жыцці пабачылі свет яго кнігі: у Ашхабадзе — "Не обрывается земная связь", "Имя мое — Свобода", "Возвращение рассветной рани", у Мінску — "Лунинец" (у сааўтарстве), "Палескія дні Аляксандра Блока". У 1990-м годзе, ужо пасля смерці, выйшла ў свет зусім новая, арыгінальная, *напісаная цалкам* М. Калінковічам кніга "Лунинец". Ужо завершанымі ці амаль цалкам завершанымі былі і іншыя кнігі, іншыя творчыя праекты М. Калінковіча — дакументальны раман "Керкинский бастион" (падзеі 1918 года ў Туркменістане), аповесць пра А. Грыбаедава на Беларусі і ў Грузіі (урыўкі друкаваліся ў брэсцкай абласной газеце "Заря"), аповесць "Ніколі, браткі, не забудзем" (пра Уладзіміра Самойлу, урыўкі з твора былі змешчаны ў "Звяздзе"). І гэта, відавочна, — толькі нязначная частка творчай спадчыны М. Калінковіча. А дзе ўсё астатняе?.. Відаць, у сям'і (засталіся жонка, дзве дачкі). Спадзяюся, што блізкія Міколу людзі самі стануць ініцыятарамі перадачы яго рукапісаў у дзяржаўны архіў.

Сумныя расповеды можна множыць. І за кожным з расповедаў — многія і многія пытанні. Ці апісаны і апрацаваны (а ўвогуле, ці ў дзяржаўных руках?) архіў пісьменніка і краязнаўца Яраслава Пархуты?

Поруч з захаваннем архіваў нядаўна памерлых краязнаўцаў вострa стаіць пытанне публікацыі многіх знаходак. Здавалася б, сённа дастаткова ў краіне выданняў, якія маглі б гэтым займацца. "Полымя", застаючыся ў першую чаргу літаратурна-мастацкім выданнем, неадночы друкавала архіўныя (з прыватных архіваў) матэрыялы, якія маюць дачыненне да краязнаўства. "Маладосць" зрабіла чытачам выдатны падарунак, надрукаваўшы невялікую частку спадчыны М. Улашчыка. Ёсць "Беларускі гістарычны часопіс", ёсць "Спачына..." Але няма часопіса "Беларуская мінуўшчына", ледзьве цепліцца "Падарожнік" (яно і зразумела — выдаецца адно толькі на прыватныя грошы). Няма штогодніка, які, безумоўна, рана ці позна звярнуў бы свой погляд на краязнаўчыя знаходкі. Паменела краязнаўчых кніжак у дзяржаўных выдавецтвах.

Не хацелася б займацца адно толькі канстатацыяй сумных фактаў. Хацелася б спраектаваць разважанні чытача ў рэчышча канкрэтных прапаноў. І адна з іх: бібліятэчнай сістэме краіны (а гэта значыць — пад патранажам Міністэрства культуры) сабраць па ўсіх раёнах Беларусі інфармацыю па наступных пазіцыях — прозвішчы краязнаўцаў, якія зараз жывуць і працуюць у тым альбо іншым рэгіёне, якімі асноўнымі тэмамі займаюцца, іх паштовыя адрасы. А пасля Нацыянальнай бібліятэцы імя Ф. Скарыны застанецца толькі выдаць такі даведнік. Гэты даведнік паспрыяў бы наладжванню кантактаў паміж прафесійнымі гісторыкамі і краязнаўцамі, паміж зацікаўленымі ў пашырэнні гістарычнага асветніцтва газетамі, часопісамі і краязнаўцамі. Ды і паміж архівамі і краязнаўцамі — таксама. Тады мо і рэалізавалася б адна высакародная задача — не згубіць аднойчы сабранае, аднойчы здабытае, аднойчы выратаванае.

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ**

Алесь ЧОБАТ

# Трансфармацыя

## АДНОСНА БЕЛАРУСКАЙ НАЦЫЯНАЛЬНАЙ ІДЭІ

*Любоў да радзімы не з'яўляецца вынікам атрыманых ведаў. Хутчэй наадварот — імкненне да ведаў ёсць вынікам любові да радзімы.*

**Кастусь ТАРАСАЎ**

Беларусь, натуральна, паявілася на свеце раней, чым беларусы. У часы караля Баторыя ці канцлера Сапегі гэтак менавалі Смаленшчыну, а на пачатку XIX стагоддзя таксама Віцебскую і Магілёўскую губерні. Тэрмін Літва адносіўся да Гродзеншчыны, Віленшчыны і Міншчыны. Пасля паўстання 1863 года "Літва" перасунулася на няславянскую Ковеншчыну, а тэрмін Беларусь распаўсюдзіўся далей на захад і дасягнуў Беластока.

Што да беларусаў, то суседзі ніколі не разглядалі іх як асобную нацыю: праваслаўных уважалі за адгалінаванне рускіх, а каталікоў за спецыфічных палякаў — першыя кепска гаварылі па-руску, другія яшчэ горш па-польску.

На асобны беларускі аспект дзейнасці правінцыйнага дыктатара К. Каліноўскага першым звярнуў увагу не хтосьці з яго паплечнікаў, але — о, парадокс! — сам Мураўёў-Вешальнік і ўтварыў "камісію палкоўніка Ратча", якая пачала піянерныя на такім узроўні (III Аддзяленне і Генеральны Штаб) доследы пяці беларускіх губерань як няпольскай, але і нярускай правінцыі. У тым жа часе вядомы русафіл прафесар М. Каяловіч (родам з пагранічнай сягоння Кузьніцы-Беластоцкай!) чытаў лекцыі... імператару Аляксандру II і яго найбліжэйшаму атачэнню: пра св. Еўфрасінню, праваслаўе ад 980 года, рускі дух і "рускую" мову ў ВКЛ і... справядлівасць вызвалення беларусаў і украінцаў Кацярынай II як адзінаверцаў. Формула Каяловіча, як і яго тэрмін "Западная Россия", трапілі не ў брыво, а ў вока — пачалі яны новую ідэалогію альбо "триединый русский народ" з велікаросаў, маларосаў і беларусаў. І з Каяловіча менавіта вышшаў не толькі "западноруссизм", за што нашыя гарачыя галовы запісалі прафесара ў "здраднікі Беларусі", але беларускі і украінскі сепаратызм — і то легальным шляхам.

У чым тут справа? У тым, што раней шавіністычныя гора-патрыёты і слухаць не хацелі пра Беларусь — была адна польская Літва. Скажам, Пестэль меў праект... на захад ад Дняпра і Дзвіны ўтварыць "дэмакратычную Польшчу", а праваслаўнае святарства адтуль вывесці ў Расію, аддаючы уніятаў касцёлу на перапрацоўку ў "палякі". Дарэчы, гэта першы праект этнічнай чысткі ў "цывілізаванай" Еўропе... І расійская арыстакратыя не жадала ніякага "триединства" (баяліся канкурэнцыі?), так што і Мураўёў, і Каяловіч хутка пайшлі ў адстаўку і зніклі з палітыкі. Іх ідэі, аднак, аказаліся больш трывалыя — неўзабаве паволі рушыла русіфікацыя, класічная каланіяльная палітыка. Коштам бюджэту будаваліся шматлікія цэрквы, мясцовыя эліты ("польскія"!) выцясняліся з адміністрацыі, перад усім з асветы etc.

Прыгадаем 1897 год. Першы перапіс у Расійскай Імперыі. Беларусы (і мова) упершыню фігуруюць асобна — гэта і ёсць першая афіцыйная пазнака беларусаў як асобнай нацыі. Не было б нічога падобнага, каб царызм не ўзяў на ўзбраенне ідэй незаслужана абхаянага "ўдзячнымі" нашчадкамі прафесара Каяловіча.

### ПРАБЛЕМА АДАМА

Але нашым Адамам, пачынальнікам беларускага роду, быў Францішак Багушэвіч. Не ў вершах тут справа і не ў завышэнні праз яго тагачаснага беларускага этнасу на некалькі мільёнаў чалавек. Геній Багушэвіча сканцэнтраваны ў адной фразе: "Не пакідайце ж мовы нашай — каб не ўмёрлі!" Гэта мела капітальнае значэнне, прагрымела паважна. Мова — гэта не нейкае там "нарэчие" альбо "gwara" (па-польску "гвара" і мова амаль тое ж самае), мова — гэта асобная нацыя. Свой лёс. Свая гісторыя і свая будучыня. Права на самавызначэнне. З гэтага ферментуецца рух эліт, нацыянальна-вызваленчая барацьба і паўстанне дзяржавы і нацыі.

Не магу ізноў прайсці міма тых "патрыётаў", каму даспадобы мець за "першага беларуса"... князя Рагвалода з Полацка ажно X стагоддзя. Маўляў, чым глыбей карані, тым большая пыха. Не надта вядома, ці быў ён хоць крывічом, славянінам, ці нейкім кандацьерам з разбойніцкіх дацкіх выспаў, адкуль і паявіліся тут вікінгі і заснавалі па Дзвіне і Дняпры "шлях з варагаў да грэкаў"; ці не акажацца, што Рагвалод ёсць перайначанае Роок с Вольф альбо Роокс Вальд, Кароль-Воўк ці Кароль Лесу?! І вялікі князь Аляксандр-Вітаўт вельмі б здзівіўся, калі б нехта сказаў яму, што ён беларус... Не было да XIX стагоддзя нават паняцця такога, як нацыя — бралася да ўвагі перш за ўсё вернасць гаспадару і манарху, таксама канфесійная прыналежнасць, але не паходжанне і мова. Потым ужо нас гэтак адрозніваді ў Еўропе: калі каталік, то ліцьвін, праваслаўны — русін, а каталік са Жмудзі — самагіцін. А ў Маскве гэтак пісалі заезных ад нас людзей: Митька купец литвин белорусец... Гэта значыць тое ж самае, што ў Еўропе: прыехаў загандляваць з Літвы, ёсць праваслаўнай веры.

Калі ўжо сам лёс Гісторыі менаваў нас беларусамі, то навошта зноў выдурняемся і лезем у нейкія "крывічы", "ліцьвіны" ці "грамадзяне ВКЛ" альбо "грамадзяне БНР"?! Гэта ж самажэрства альбо нейкая невядомая свету псіхічная хвароба...

### ПРАБЛЕМА АЎТАНОМІІ

Багушэвіч памёр у 1900 годзе. Не быў старым той віленскі адвакат, але схапіў запаленне лёгкіх падчас прагулянкі на лодках па Бацьку-Нёману. Два гады пазней паявілася падпольная газета "Свабода" — справа Вацлава Іваноўскага з "панскай" Лябёдкі пад Лідай, гарачай да экстрэмізму Алаізы Пашкевіч-Цёткі і разважных ды асцярожных братоў Луцкевічаў. А праз лічаныя месяцы паўстала і Беларуская Сацыялістычная Грамада.

Першая палітычная партыя беларусаў не магла не выступаць ад імя ўсяго народа (хоць і налічвала напачатку... усяго сем асоб) і не магла не вызначыцца са сваёй мэтай. А паколькі цяжка ўявіць нацыю без тэрыторыі, то выбар быў небагаты — альбо незалежнасць, альбо аўтаномія. Трэцяга варыянту не было. Палітычныя амбіцыі сканчаліся на аўтаноміі — пра незалежнасць маўчалі. Ну, а з кім было не будаваць? З непісьменнымі вясковымі мужыкамі? Фатальна бракавала нацыянальнай эліты, нават патрыятычных настаўнікаў пачатковых школ ці малодшых афіцэраў войска, не кажучы пра больш адмысловыя прафесіі.

А калі — аўтаномія, то ў межах Расіі альбо будучай Польшчы? Адвечная дылема беларускіх палітыкаў...

Пра Акт незалежнасці 25 сакавіка 1918 года ведаюць, нарэшце, "свядомыя" і "несвядомыя". Але прыгадаем, што было адразу пасля яго. Ужо на працягу 1918-19 гадоў грамадоўцы раскалоліся на тры фракцыі: сацыял-дэмакраты, сацыялісты-рэвалюцыянеры і сацыялісты-федэралісты. У кожнай з трох плыняў спецыяльна ніхто не палаў "любовью к России" — надта ж было там няпэўна, але адначасова ўсе дружна адкідвалі якое-колвек супрацоўніцтва з Польшчай! Памінаючы тут менш значныя прычыны (тактычныя памылкі ці асабістыя амбіцыі, "беларускую глупоту" etc), трэба падкрэсліць, што ў Польшчы той пары практычна ўсе партыі адкідвалі адметнасць Беларусі, кваліфікуючы яе толькі і выключна як "всходне земе польске".

А цяпер пра сам Акт 25 Сакавіка, які абвясціў незалежнасць Беларусі. Трэцяй Устаўной Граматай. Знаходзячыся ў падполлі, Рада Усебеларускага Кангрэса дзіўным чынам цягнула і адцягвала з той незалежнасцю, як быццам чакала... вынікаў кайзераўска-бальшавіцкіх перамоў у Брэсце і апамятання з боку Савецкага ўрада ў Маскве (ці не наабяцаў чаго народны камісар па нацыянальных справах І. Сталін?). А невядома яшчэ, ці быў бы той Акт 25 Сакавіка, калі б своечасова не прыехаў у Мінск з Вільні сам Іван Луцкевіч і не патлумачыў бы нашым раскірдашам-нязграбам з той Рады, што іх просьбы да Кіева пазычыць грошай ніхто з кіраўніцтва УНР слухаць не будзе — які гэта ўрад пазычыць грошы купцы цывільных?! Трэба спачатку прадэкляраваць Беларускую Народную Рэспубліку, абвясціць сябе яе часовым Урадам, а потым ужо ў другога ўрада грошы прасіць! І натуральна, з Кіева атрымалі пэўную суму на пачатак дзейнасці адміністрацыі, стварэнне друку, войска і дыпламатычнай службы. Украінцы пазычылі не за прыгожыя вочы і не за "братэрства", а таму, што бачылі ў існаванні Беларусі свой інтарэс.

Прапольскім палітыкам застаўся тады хіба адзін д-р Вацлаў Іваноўскі. Па-свойму ён меў рацыю. Ніводнаму еўрапейскаму народу Расія не спрыяла дагэтуль у цывілізаваным авансе. Не змяніў Іваноўскі сваёй пазіцыі да канца жыцця — заняўшы пасаду віцэ-мэра Мінска пад нямецкай акупацыяй, ён пайшоў на супрацоўніцтва з вярхушкай Арміі Краёвай і разведкай АК (рэзідэнтура ў Мінску ўся прыкрывалася яго Упраўай!), а таксама з "маскоўскімі палякамі" (намеснікам Іваноўскага быў Баляслаў Берут, пазней прэзідэнт камуністычнай Польшчы), разлічваючы атрымаць ці ад генерала Сікорскага, ці хоць ад Ванды Васілеўскай шырокую аўтаномію Беларусі ў межах паваеннай Польшчы.

Д-р Іваноўскі, інжынер-хімік з сусветным імем, паходзіў з вельмі багатай "крэсавай" шляхты і ніколі не чуў на сабе таго псіхалагічнага дыскамфорту, гэтак характэрнага для значна бяднейшых братоў Луцкевічаў. Іваноўскі не разумеў, што ў новапаўсталай у 1918 годзе Польшчы дэмакратыя, свабода, правы чалавека належаць толькі палякам. У штодзённым побыце. У аўры местачковага падкасцельнага нацыяналізму. Іваноўскі быў інжынерам, чалавекам справы, нацыянальнасць той ці іншай асобы яго проста не цікавіла, а яшчэ менш цікавіў яго нацыяналізм — як канструкцыя нетрывалая і малапрыдатная.

Так ці іначай, але... беларуская аўтаномія паўстала. І вырашыла гэта Расія. Так, "чырвоная". Так, "сталінская". Але другой Расіі тады не было — і другой беларускай аўтаноміі проста не магло быць.

### ПРАБЛЕМА НЕЗАЛЕЖНАСЦІ

Пакінем у спакоі эмоцыі на тэму "дзяржаўнасці" Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі. Была гэта аўтаномія — ад пачатку і да канца. Дарэчы, даволі шырокая менавіта ў 1921-29 гадах. Спрыяла таму бязлітасная барацьба групоўкі "расійскага дзяржаўніка" Сталіна ды "інтэрнацыяналіста-міжнародніка" Троцкага (а prоpо, Сталін, у 20-я гады абапіраўся менавіта на... нацыянал-камуністаў). Да таго ж, партыйным і савецкім установам фатальна бракавала спецыялістаў, а таму на службу прымалі нават... беларускіх сацыялістаў, якія перад тым са зброяй у руках выступалі супраць "чырвоных". Менавіта яны, замацаваўшыся ў ЦК КП Беларусі і адміністрацыі, дамагліся ад Масквы павелічэння тэрыторыі БССР у 1924-26 гадах аж да цяперашняй дзяржаўнай мяжы на ўсходзе — і гэта пры тым, што ОГПУ і ўплывовыя наркаматы ў Маскве былі супраць.

З высылкай Троцкага ў 1929 годзе Сталін павярнуў фронт і абрынуўся на ўчарашніх саюзнікаў, якія з "товарищей в национальных республиках" імгненна парабіліся... "нацыянал-дэмакратамі", хоць нагад ці той жа У. Ігнатоўскі ўяўляў якую-небудзь дэмакратыю па-за "рэвалюцыйнай". Пачаўся Вялікі Тэрор, затармазіўся і быў адкінуты назад працэс станаўлення беларускай асветы і культуры, былі расстраляны і высланы тысячы лепшых прафесіяналаў з новапаўсталай нацыянальнай інтэлігенцыі. І тым не менш культурна-асветніцкі здабытак у БССР аказаўся да 1939 года куды большым, чым пад патранатам Польшчы.

Знішчэнне аўтаноміі БССР перапыніў выбух вайны з Германіяй і катастрофа Чырвонай Арміі 1941 года. Вайна стала зацяглай, таму спатрэбілася партызанка на Беларусі, апора на мясцовыя кадры. Пазней гэта закаласавала шматлікімі мясцовымі камсамольцамі-партызанамі ў ЦК і ўрадзе, а з 1956 года беларусы апанавалі ўсё кіраўніцтва БССР па-за КГБ і арміяй.

Але былі гэта вясковыя дзеці. Тут праявіўся "западноруссизм" не ў інтэлектуальна-каяловічаўскай ("еще один русский народ", як пісаў у 1916 годзе Максім Багдановіч), але ў служывачынавенскай версіі. Саветызацыя 30-х і 50-х гадоў стварыла тып "выпускніка вясковай сямігодкі", які трапіў на "лёгкі хлеб" у горад і схапіўся за "великий и могучий", каб... не вяртацца назад. Справа была нават не ў русіфікацыі, але ў сервільным спосабе побыту і мыслення. Капітальныя ўцёкі праз беларускую сямігодку да "русскоязычного заочного техникума" і далей з прыступкі на прыступку нараджалі адных манкуртаў. Сярэднестатыстычны партыйна-адміністрацыйны дзеяч быў перад усім камуністам (з улікам нашай "спецыфікі"), а толькі потым беларусам.

Глабальная індустрыялізацыя (прыблізна з 1956-га па 1980-ы год) прывяла да таго, што не горад пацішку перамалоў і асіміляваў вёску, а вёска, гэтак гвалтоўна і масава лінула ў горад, што навязала яму... той самы талакоўска-кланавы спосаб побыту і мыслення.

Напярэдадні распаду СССР становішча на Беларусі выглядала наступным чынам: у межах БССР знаходзілася амаль усе этнічныя землі, нядрэнна выглядала ўсеагульная асвета і доступ да вышэйшай адукацыі, інжынерна-тэхнічная эліта знаходзілася на адносна прыстойным узроўні, значна вырас прамысловы і навуковы патэнцыял рэспублікі, да таго ж, БССР ад 1945 года была нават членам-заснавальнікам ААН і суб'ектам міжнароднага права; з другога боку — практычна была зліквідавана нацыянальная асвета, не існавала больш нацыянальнай эліты (за выключэннем маргінальнай купкі мастакоў і літаратараў), малалікая апазіцыя ("на кухне шёпотом") нават не мроіла пра ўпадак СССР і ўвогуле не разважала над праблемай незалежнасці Беларусі.

Склалася парадаксальнае становішча: чым болей Беларусь была падрыхтавана да незалежнасці палітычна і эканамічна, тым меней у сэнсе нацыянальнай і агульнай культуры.

У XX стагоддзе беларусы рушылі без сваёй нацыянальнай эліты як грамадскаўважнай праявы. Потым — пра гэта было вышэй — зведалі нацыянальную катастрофу. Калі нарэшце з неба звалілася незалежнасць, мы аказаліся здэнацыяналізаванай шэрай масай, дзе кожны сам за сябе, а ўсе разам даўно здэградаваныя да... чужой правінцыі.

Бедны побыт заўжды цягне следам убоства ідэі. З'яўленне незалежнай Рэспублікі Беларусь у 1991 годзе большасць з нас, у тым ліку і "наменклатура", успрынялі як нейкую метэаралагічную анамалію, напрыклад, снег і мароз у ліпені, і толькі чакалі, калі ж "тое скончыцца"... Ніхто не меў ані думкі пра будучыню, у тым ліку і лагер радыкалаў на чале з Пазняком. Запанаваў хаос, палітычныя сілы заняліся ратаваннем уласных месца, пасады, іміджу etc. Нічога дзіўнага, што ў 1994 годзе адбыліся не так першыя ў гісторыі Беларусі прэзідэнцкія выбары, як народная рэвалюцыя супраць сервільнай наменклатуры і "адраджэнскага" рамантызму. Такія вынікі выбараў былі лагічныя і заканамерныя...

Нацыянальна заклапочаныя радыкалы прыдумалі сабе манаполію на любоў да Айчыны, быццам руйнуючы пры гэтым яе ж шанцы на выжыванне. Яны не прыдумалі нічога свайго, не ступілі ані кроку далей за рамантыкаў часоў "Нашай Нівы" братоў Луцкевічаў, д-ра Іваноўскага і Янкі Купалы. Хоць становішча пачатку і канца XX стагоддзя дыяметральна супрацьлеглае — тады не было ні літаратурнай мовы, ні граматыкі, цяпер ёсць міжнародна прызнаны суверэнітэт. Падзел грамадзян Рэспублікі Беларусь на "свядомых" і "несвядомых" капае яму менавіта пад тую незалежнасць, якая ўжо ёсць. Прыярытэт мае мець не "патрыятызм" і не "свядомасць", а лаяльнасць да беларускай дзяржавы, вернасць яе суверэнітэту ў першую чаргу. Будзе ўсё, калі будзе Рэспубліка Беларусь — ясная справа, не адразу.

Вось вам і высновы:

1. На пачатку XX стагоддзя беларус — тое самае, што "тутэйшы". Не паляк і не рускі. Першая фаза нацыянальнай ідэі — утварэнне і павелічэнне нацыянальна свядомай і беларускамоўнай папуляцыі.

2. У канцы XX стагоддзя беларус — тое самае, што грамадзянін Рэспублікі Беларусь. Нацыянальнасць — гэта прыватная справа чалавека. Другая фаза нацыянальнай ідэі — суверэнітэт Беларусі, утварэнне і рост папуляцыі са свядомасцю грамадзянскай адказнасці за дзяржаву, з дзяржаўнай прыналежнасцю.

### ПРАБЛЕМА ЦЫВІЛІЗАЦЫІ

Сягоннашнія беларусы, зразумела, нацыя еўрапейская. Але... не ўцывілізаваная. Еўрапейскасць наша кідаецца ў вочы — і не толькі выстрыжанай вопраткай, фрызурамі і золатам на вушах і пальцах (зрэшты, буднім днём гэтага ў Еўропе не ўбачыш, толькі тут). Еўрапейскасць наша пацверджана параўнальным (таго ж парадку, хоць і горшым) узроўнем тэхналогіі, нават элементамі будучага інфармацыйнага грамадства ў дасягнутым індустрыяльным. Што ж да цывілізаванасці...

Гэтаксама кідаецца ў вочы адсутнасць якога-колвек грамадства, якіх-небудзь агульных рыс, нацыянальных інтарэсаў. Хіба па-за штодзённым клопатам пра... уласны страўнік. Наш грунт — сямейства, сваяцтва і зямляцтва. На лацінску фамілія, па-арабску аль-махія, па-сіцылійску (гэта трасянка арабскай і італьянскай) мафія. Беларусь сёння гэта аграмадны клан кланаў, псіхалогія побыту мала адрозніваецца ад вяскова-сярэднявечнай. Ну, і якое тут можа быць грамадства, у такім нерушы?!

*(Працяг на стр. 15)*

## "Чудесный котик"

**Станіслаў Валодзька, як ведае лімаўскі чытач, жыве і працуе ў Даўгаўпілсе. Але, знаходзячыся ў замежжы, не парывае сувязей з роднай Беларуссю. Часта наведваецца і ў Мінск, прымае ўдзел у розных літаратурных мерапрыемствах. А кнігі выдае ў Даўгаўпілсе. Выходзяць яны ў перакладзе на рускую мову.**




**Новую ж кнігу С. Валодзька сам пераклаў. Адметная яна і тым, што адрасавана маленькім чытачам, а таму і назву мае адпаведную — "Чудесный котик". Але гэта адначасова і кніжка-размалёўка. Аўтарам жа ілюстрацый з'яўляецца лімаўка Людміла Рублеўская. Малюнкі пададзены так, што дазваляюць дзеткам яшчэ лепш зразумець сэнс таго, пра што расказвае С. Валодзька, а пасля, узяўшы ў рукі каляровыя алоўкі ці фламастэры, расфарбаваць кожны з іх, як захочацца. Можна дзвюма-трыма фарбамі, а можна і ўсімі колерамі вясёлкі. Гледзячы, як каму і што падабаецца. А творы напісаны дасціпна, займальна, нясуць у сабе багата інфармацыі, спрыяюць пашырэнню кругагляду хлопчыкаў і дзяўчынак, іх вобразнаму мысленню, дапамагаюць знайсці адказы на многае з таго, што хвалюе і цікавіць "чамучак". Асобныя напісаны так, што дзеткі з'яўляюцца і як бы сааўтарамі. У гэтым лёгка ўпэўніцца, прачытаўшы твор, які даў назву кнізе:**

*На пороге уселся котик,*
*Моет лапкой ушко, ротик.*
*Улыбнулась мама:*
*— Кто-то*
*К нам придет сегодня в гости.*

*Вдруг — тук-тук! и — гости в хату,*
*И — гостинцы мне и брату.*

*— Котик, ты не забывай —*
*Вновь гостей к нам намывай!*

**Можна пазнаёміцца і з тымі, хто ў пэўнай ступені з'яўляецца героямі кніжкі: у пачатку зборніка змешчаны фотаздымкі Алежкі і Антошкі — сынкоў С. Валодзькі. Адчуваецца, што яны і натхнілі на напісанне некаторых твораў, як бы падказаўшы яму сюжэты, выпадкі, з'явы, што і знайшлі сваё паэтычнае ўвасабленне. Несумненна, і верш "На зло жаре" "ўзяты" С. Валодзькам з таго, што было на самай справе:**

*Каждый день*
*На зло жаре*
*Прямо с лейки*
*Во дворе*
*Моет бабушка внучат,*
*Поливает*
*Своих чад.*
*Говорит им:*
*— Молодцы!*
*Чтоб росли —*
*Как огурцы!*

**Ёсць у кніжцы і загадкі. Адметныя тым, што аўтар умее быць па-свойму арыгінальным. І ў "Хвастливой цифре" адказ лёгка знайсці ў самім тэксце:**

*— Кто ответить мне готов:*
*Сколько в радуге цветов?*
*Сколько всех на свете нот?*
*Сколько дней в неделе?*
*Вот!*
*Здесь я всюду! —*
*Говорила цифра семь*
*Говорила цифра всем.*

**Прыемна і тое, што кніга надрукавана на добрай паперы. А таму малюнкі можна расфарбоўваць, не баючыся, што папера прапусціць фарбу і з адваротнага боку ўжо нельга будзе размалёўваць. На жаль, гэтым грашаць многія айчынныя кніжкі-размалёўкі, для якіх выдаўцы часам выкарыстоўваюць нават і газетную паперу.**

**Юрась ВАЙСЁНАК**

ЮБІЛЕЙ

# Пялёстак за пялёсткам

Імя Уладзіміра Дубоўкі найперш звязваецца з вершам "О Беларусь, мая шыпшына". І ўвогуле, пра У. Дубоўку больш гавораць, што цалкам зразумела, як пра паэта. Аднак жа ён значны след пакінуў і ў дзіцячай літаратуры. Асабліва ў жанры казкі, напісаўшы ажно больш як 50 твораў.

Пачатак быў пакладзены ў дваццатыя гады. У 1927-м з'явілася першая казка У. Дубоўкі "Залатое дно". Твор вытрыманы ў фальклорных традыцыях:

***Калісьці князь багаты жыў,***
***якому ўсё было паддана.***
***Аднойчы студню ён зрабіў,***
***а ў ёй тры дны былі ўкапаны.***

***Адно мядзянае. Пад ім —***
***са срэбра чыстага другое.***
***Яшчэ ніжэй, пад тым другім,***
***паставіў князь дно залатое.***

Знайшліся тыя, хто задумаўся, а навошта князю такая дзіўная студня. Сярод іх аказаўся і Цікаўны. Яму старэнькі дзядок параіў схадзіць да сонца: "Яно адно ўвесь бачыць свет, яно адно і скажа праўду". Паслухаўся Цікаўны добрай парады і адправіўся ў дарогу. Нямала прыгод зведаў на сваім шляху. Не абышлося без іх і тады, калі сустрэўся з маці Сонца. Наўрад ці ўратаваўся б, але прыйшла на дапамогу сонцава дачка, сама зорка Мілавіца. Сустрэўся нарэшце Цікаўны з Сонцам, а яно адгаворвае: праўда наўрад ці прынясе яму шчасце: "Ты з ёй пазнаеш горкі сум, цябе абвесцяць там вар'ятам". Папярэджвае: "...ідзі, юнача, у добры час, — згарыш на попел ты ад праўды". Аднак Цікаўны настаяў на сваім. Тады сказала Сонца:

***Ты будзеш праўду знаць цяпер:***
***заўжды яна, як соль у вочы.***
***Яна закатуе цябе,***
***атруціць дні твае і ночы.***

Вяртаўся назад Цікаўны не адзін, а з Мілавіцай. Раскрыў усе князевы сакрэты:

***Прабʼём медзянае мы дно —***
***вада жывая край напоіць.***
***Пазбудземся мы ад паноў,***
***прабіўшы срэбнае, другое.***

***Калі прыдасца збіць ушчэнт***
***дно залатое — згіне крыўда.***
***Увесь народ, увесь наш свет***
***да панавання самі прыдуць.***

Тут У. Дубоўка, як бачна, акцэнтаваў увагу на сацыяльных, а таксама класавых аспектах, што стала праяўленнем тагачасных рэалій у краіне. Але ёсць у творы моманты, якія сведчаць: за пяро ўзяўся патрыёт сваёй Бацькаўшчыны, адданы сын Беларусі. Для прыкладу толькі адзін эпізод. Цікаўны, чакаючы Сонца, ходзіць па садзе, любуецца харавством дрэў. Ведаеце, пра што ён у гэты момант думае? Ды пра родную беларускую зямлю, а калі дакладней — пра Случчыну. Прыгадвае Цікаўны "дзяўчат слуцкіх", якія "ўзораў дзіўныя радкі кладуць на белыя тканіны". А ўбачыў таполі, усыпаныя грушамі, не прамінуў параўнаць: "Акурат, як дзе ля Слуцку нашы бэры..."

Па-мастакоўску асэнсаваў У. Дубоўка знакаміты сюжэт пра музыку, калі ў 1929 годзе напісаў казку "Музыка-чарадзейнік". За аснову абодвух сюжэтаў узяў два творы са зборніка А. Сержпутоўскага "Казкі і апавяданні беларусаў-палешукоў". А да жанру казкі зноў вярнуўся, калі пасля рэабілітацыі ў 1957 годзе пасяліўся ў Маскве. Пры гэтым выкарыстоўваў сюжэты з запісаў М. Федароўскага, асобныя пачуў у час вандровак па Палессі ў 1959 годзе. Не абыходзіў увагай і сюжэты з кітайскага, індыйскага фальклору. Дарэчы, аб гэтым прызнаваўся ў канцы аднатомніка сваіх выбраных казак "Кветкі — сонцавы дзеткі" (1963). Ды і ў пачатку кнігі пад загалоўкам значыцца: "Паводле народных матываў".

Але гэта творчае асэнсаванне і пераасэнсаванне фальклору, таму казкі У. Дубоўкі трэба ўспрымаць як творы аўтарскія. Вельмі выразныя, каларытныя паэтычныя малюнкі ў іх, паэт тонка адчувае слова. У той жа час свядома прытрымліваецца фальклорнай манеры. Не адмовіўся ад яе і ў "Старобінскай казцы — салігорскай былі", народжанай уласнай творчай фантазіяй:

***За старым, даўнейшым часам***
***елі людзі рэдзьку з квасам.***

***Ці для смаку, ці для змены***
***дадавалі трошку хрэну,***

***хоць была ў людзей гаворка:***
***"І без хрэну жыць нам горка!"***

Пасля ўступу, праўда, як бы адыходзіць ад казачных матываў, гаворыць пра колішняе жыццё-быццё народу: "Ён не толькі хлеба-солі спажываць не мог даволі, бо яе вазілі з Крыма, бо па соль ішлі з грашыма". Як быццам і не казка ўжо, а быль. Разумеючы, што гэта можа заўважыць і юны чытач, выкарыстоўвае ў творы магчымы дыялог:

***— Ну якая ж гэта казка?***
***— Пачакайце, калі ласка!***

***Мы цяпер мяжу згубілі:***
***дзе тут казкі, дзе тут былі...***

І паведамляе пра цуд, зроблены працавітымі рукамі салігорскіх калійшчыкаў:

***Вы пыталіся пра казку?***
***Вось вам казка, калі ласка!***

***Гэта казка стала явай***
***і вялікай нашай славай.***



*Ул. ДУБОЎКА.*

Хораша зарэкамендаваў сябе У. Дубоўка і як дзіцячы празаік, напісаўшы аповесці "Жоўтая акацыя" (1967), "Ганна Алелька" (1969), "Як Алік у тайзе заблудзіўся" (1974). Гэтыя творы можна аднесці і да жанру навукова-папулярных. Наколькі ён надаваў вялікае значэнне краязнаўству, далучэнню да прыроды, відаць з уступу да "Жоўтай акацыі" (героі аповесці школьнікі, якія пад кіраўніцтвам настаўнікаў займаюцца юнацкімі справамі). Пры гэтым У. Дубоўка ішоў ад уласнага маленства: "Як толькі я сябе помню, бацькі мае і старэйшыя людзі, суседзі прывучалі нас, малых, шанаваць усё жывое, што было навакол нас.

— Не тапчы травіцу, хадзі сцежачкай. Травіца вырасце. Яе скосяць — будзе сена кароўкам, каню...

— Не чапай, не ламай гэтага дубочка або сасонкі. З іх вырастуць вялікія дрэвы, пойдуць на добры спажытак людзям — або на хату, або на шафу...

— Асцярожна рві яблыкі. Не паламай, не адвіхні галінку. Дрэва будзе хварэць, на паламаным суку не будзе яблыкаў...

— Праз жыта нацянькі не хадзі. Калі патопчаш яго, будзе менш хлеба".

Аўтар працягвае спіс народных парад, пасля чаго сведчыць: "З таго менавіта часу расло ў мяне вялікае замілаванне да прыроды. Нават крапіву, нават жыгучку, якой, даводзілася, частавалі мяне (ды не аднаго мяне толькі!) за некаторыя грахі дзяцінства, забаранялася збіваць без дай прычыны пугаю".

# Сваяцтва постацяў

## НАБЛІЖЭННЕ ДА ПАРТРЭТА Уладзіміра ДУБОЎКІ

Ён нарадзіўся "там, дзе азёры", жыў "там, дзе кіпарысы", але найбольш — "там, дзе машкара і ўсялякі гнюс..."

Усё жыццё яму бракавала азёрнай лагоды і чысціні.

З дзяцінства адкрылася абачлівая мудрасць: у радасці схаваная не сама радасць, а горкія слёзы. І наадварот. З тым і бытаваў усе свае семдзесят шэсць гадоў.

Ніколі не наракаў, бо ведаў — наракаць няма на што і няма на каго. Наракаць на лёс паэту не выпадае, а наракаць на людзей — зусім пустое, бо людзі, завучыўшы на памяць евангельскія запаветы, ніколі іх не выконваюць.

Свае літаратурныя дні пачынаў лірыкам, а скончыў дзіцячым казачнікам; пачынаў эстэтычна, спавядаючы дастаткова модны на пачатку 20-х гг. імажынізм, а завяршаў вершаванае разгарненне этычна — шчыра і настойліва апавядаў дзецям пра дабро і зло.

Неаднойчы пісьмова і вусна сведчыў пра сваю любоў да паэзіі Янкі Купалы, але чытаў пераважна Байрана і Шэкспіра.

Сваім жыццём і творчасцю даводзіў, што характво аднаўляецца пяшчотаю і такім цудоўным парадкам, сам таго не заўважыўшы, вынайшаў самы надзейны спосаб аднаўлення характва.

Ён — першы з нашых паэтаў, які навукова ўсвядоміў, што Беларусь — краіна вербальная, краіна слоў, таму ягоныя артыкулы пра мову і цяпер гучаць, як паэмы.

Яго неверагодная фізічная цярплівасць



## "Залаты рог"

**З рога ўсяго многа — гэтую прымаўку згадваеш, калі знаёмішся са зборнікам твораў літаратараў Рагачоўшчыны "Залаты рог", выданне якога ажыццёўлена па ініцыятыве загадчыцы раённай дзіцячай бібліятэкі Нінэлі Падгурскай за сродкі раённага выканаўчага камітэта, а ўкладальнікамі з'яўляюцца М. Кавалёў (вядомы, як гумарыст, сатырык Міхась Сліва) і У. Немізанскі (на жаль, ужо нябожчык).**




Ад іншых кніг, што выходзяць на перыферыі, гэтая адрозніваецца тым, што ў ёй прадстаўлена шырокае кола аўтараў. І не толькі ўраджэнцаў Рагачоўшчыны, а і тых, хто нарадзіўся ў іншых месцах, але звязаў свой лёс з гэтым краем. Жыве тут цяпер ці жыў раней.

Дарэчы, "Залаты рог" меў папярэдніка — літаратурна-мастацкі альманах "Рагачоўскі розгалас", які выйшаў у 1996 годзе. А свайго роду эпіграфам да яго ўзяты чатырохрадкоўе лаўрэата Дзяржаўнай прэміі БССР, колішняй выпускніцы Рагачоўскага настаўніцкага інстытута А. Васілевіч:

*Дробна сеецца, сеецца дожджык...*
*Над Дняпром правісае імгла.*
*Я была маладой і прыгожай,*
*Я шчаслівай тут колісь была!*

Першы раздзел кнігі называецца "Наша спадчына". Дзякуючы яму многія адкрыюць для сябе новае імя — У. Дзедлаў, хоць для саміх рагачоўцаў, безумоўна, яно добра вядомае. Сапраўднае прозвішча У. Дзедлава Кігн. Уладзімір Кігн. Нарадзіўся ў 1856 годзе ў Тамбове (Расія), але дзіцячыя гады правёў у вёсцы Дзедлава Рагачоўскага павета. З Рагачоўшчыны была родам яго маці Елізавета Паўлоўская, таксама пісьменніца. У. Дзедлаў аўтар некалькіх кніг.

У зборніку "Залаты рог" прадстаўлены яго нарысавыя нататкі "Па Заходняму краю, старому і новаму", якія ў 1887 годзе друкаваліся ў часопісе "Дело". Змешчаны таксама вершы Р. Суніцы і М. Сурначова, якія не вярнуліся з франтоў Вялікай Айчыннай вайны, расстраляных фашыстамі А. Радзіёнава, І. Вераб'ёва.

У раздзеле "Паэзія" — творы М. Янчанкі, Ю. Арэстава, М. Купрэева, У. Немізанскага, М. Расолава, М. Чарняўскага і іншых.

Аўтары раздзела "Проза" — М. Атрасевіч, А. Васілевіч, В. Клімянкоў, А. Кордзікаў, В. Паўлаў, А. Паўлухін, М. Сліва і У. Шпадарук.

Родам з Рагачоўшчыны і В. Ткачоў, аўтар дзесятка кніг прозы і драматычных твораў. Спектаклі па творах В. Ткачова з поспехам ідуць у многіх тэатрах. І не толькі беларускіх. У раздзеле "Драматургія" прапануецца яго п'еса ў адной дзеі "Следчы эксперимент".

Падрастаюць на рагачоўскай зямлі і маладыя таленты. Іх першым творам знайшлося месца ў раздзеле "Галасы маладых".

Змястоўным атрымаўся і раздзел "Публіцыстыка". Асноўныя матэрыялы яго звязаны з падзеямі Вялікай Айчыннай вайны. Але адлюстраваны і іншыя моманты з багатай гісторыі краю, аб чым сведчыць і нататка дырэктара музея народнай славы г. Рагачова А. Івановай "Камісар рэвалюцыі", герой якога В. Цымерман. Ён загінуў у 21 год, падаўляючы ў Карме контррэвалюцыйны мяцеж. Яшчэ адна трагічная старонка — удзел сыноў Рагачоўшчыны ў афганскай вайне. Сярод іх быў і Мікалай Даманцэвіч ("Пад Кандагарам" А. Шведава), які сам папрасіўся туды. Загінуў, абясшкоджваючы міну.

Расказваецца пра справы мясцовых тэатралаў ("Рагачоўскаму народнаму — 30 год" Л. Бульбачкі). А яшчэ змешчана карэспандэнцыя П. Емяльяненкі "Падарунак рагачоўскім літаратарам", з якой даведваешся пра тую падтрымку, што аказвае сваім землякам вядомы рускі пісьменнік М. Расолаў: "Узрадаваў Міхаіл Міхайлавіч рагачоўскіх паэтаў і празаікаў тым, што паведаміў аб рэальнай магчымасці штогадовага выдання альманаха "Літаратурная Рагачоўшчына" (назва альманаха пакуль умоўная)". А значыць, ёсць спадзяванні, што добрая справа будзе прадоўжана. І зборнікі "Рагачоўскі розгалас" і "Залаты рог" папоўняцца чарговымі кнігамі, якія дадуць магчымасць яшчэ лепш адчуць, наколькі таленавітая рагачоўская зямля.

**Юрась ВАЙСЁНАК**

## ПАЭЗІЯ

### Кастусь ЖУК



## Княжа мой белы...

### Прадчуванне

*Яшчэ не растрачаны дні*
*Узнёсла-пяшчотнага лета,*
*А ўжо запалалі агні*
*На велічных дрэў мінарэтах.*

*Зірні, як шчыруе пчала:*
*Адчула, што блізіцца восень,*
*Якая астаткі цяпла*
*Дажджамі касымі закосіць.*

*Прагоніць гуллівасць раёў.*
*У дрэў украдзе пазалоту.*
*А, можа, і ў сэрца маё*
*Упляце павуцінку самоты.*

*Ды веру прагнозам чуцця —*
*На сум спадзявацца зарана,*
*Пакуль на сугрэве жыцця*
*Мая зелянее паляна.*

### Малітва да Купалы

*Наш бацька духоўны Купала, —*
*Даруй за грахі нам, бязбожным,*
*Што бедных шануем мы — мала,*
*А больш прывячаем — заможных;*
*Што ўсіх — хлебам-соллю страчаем,*
*А самі — і бульбіне рады...*
*Даруй халуям за маўчанне.*
*Але не даруй — за здраду.*

### Азёрная ідылія

*Святлынь... Дрысвяты*
*поўняцца святлом!*
*Вачэе бор. Салоўка свішча лоўка.*
*Мне мроіцца,*
*як тут гавеўся Броўка,*
*Як Караткевіч шчыраваў вяслом.*

*І я пасуся тут. Ем юшку ўсмак.*
*І запіваю півам*
*вар спакусны.*
*І асалода апякае вусны*
*То цеплынёй, то халадком няўзнак.*

*Браслаўскі край. Эдэм для ўсіх жывых.*
*Сюды і мёртвых душы*
*ці не мкнуцца?*
*Вось-вось Ярылу закарціць зірнуцца*
*У пеністы прыбой берагавы.*

*Бульбаш, я тут з жанчынаю — як Бог, —*
*І рай мне тут у будане пад кустам.*
*Шчаслівы,*
*быццам заяц у капусце,*
*Тулюся да яе азяблых ног.*

*Даруе возера чарговы грэх.*
*Даруюць бераг, бор і сам Ярыла.*
*Вянчай,*
*вянчай нас, мудрае свяціла,*
*Кідай у вір забаў, у вір уцех!*

*О, рай зямны! О непаўторны рай!*
*Шалее кроў у жылах —*
*не ад піва.*
*Найсамы сёння ў свеце я шчаслівы.*
*Прабач, каханая. Не дакарай.*

### Княжа мой белы...

Стогадоваму гаю

*Княжа мой белы,*
*бярозавы гай, —*
*Дай заблудзіцца*
*ў тваіх каланадах.*
*Не дакарай,*
*што трывожу твой рай,*
*Топчучы восень*
*на галах і лядах.*

*Прэласцю дыхае*
*жоўты падсціл.*
*Сонцам налітае*
*лісце у кронах.*
*Ты —*
*беларускай зямлі старажыл,*
*Княжа мой белы,*
*вятрам нескароны.*

*Гояцца*
*раны душы ў цішыні.*
*Цінькне сініца —*
*і сэрца спявае.*
*Мне дастаткова*
*тваёй цеплыні*
*І дабрыні,*
*мой бярозавы гаю.*

*Я прыпадаю*
*шчакой да стваЛоў,*
*Счытваю думкі*
*з бярОсты нясмела —*
*І размаўляю з табою*
*без слоў...*
*Не пакідай мяне,*
*княжа мой белы.*

●

*Поле, павячэраўшы дажджом,*
*Легла спаць пад бліскат бліскавіцаў.*
*Ды, пакуль кашляе ў небе гром,*
*Полю не заснуць. Яму не спіцца.*

*Валацуга вецер гоніць прэч*
*Пасмы рыжых, веснавых аблокаў.*
*Ты яму, вярбіна, не пярэч,*
*Лепш прыгні,*
*ссутуліўшыся, плечы.*

*Хай шалее вецер-маладзён! —*
*Ёсць на тое ў дзецюка прычына:*
*Ён сустрэцца*
*з бураю жадзён,*
*І яго суцішыць — немагчыма.*

### Алесь ЖЫГУНОЎ



## Дзень гаркаты

●

*Ёсць цішыня празрыстых туманоў*
*І дзіўная вільготная лагоднасць.*
*І ты ўжо адчуваеш неабходнасць*
*Сустрэцца з туманамі каб ізноў.*

*І ты ідзеш ад кавы, ад жанчын.*
*І ты ідзеш, збягаеш проста з ганку*
*На ўзбярэжжа ўзорыстых лагчын,*
*Дзе туманы блукаюць да світанку.*

*І дзе ж іх уратуюць берагі? —*
*Інакшага і племені, і роду.*
*І сам блукаеш прывідам тугі,*
*Забыўшы пра камфорт і асалоду.*

*А потым прыйдуць восеньскія сны,*
*Здаровыя, як ночы неад'емнасць.*
*Таму, відаць, люблю я туманы,*
*Што ёсць у іх якаясьці таемнасць.*

●

Марыі БАРАВІК

*О Божа мой, жанчына — паэтэса.*
*Як ёй стае яе жаночых сіл*
*Сярод хлусні і смутнага прагрэсу,*
*Сярод мужчын прапашчых і магіл,*

*Сярод пудовых прадуктовых сумак,*
*Што рукі адбіраюць да зямлі,*
*Гукаць у свет сваіх ружовых думак,*
*Дзе водар лета, соты і чмялі?*

*У свет, дзе ўсё так вабна і прыгожа,*
*Вядзе яна, і хочацца ісці.*
*Жанчына — паэтэса. О мой Божа —*
*Ёй помнік трэба ставіць пры жыцці.*

●

*Не спіцца дажджу,*
*І ён грукае ціха ў шыбы.*
*Не спіцца і мне,*
*Хоць ты верш неблагі напішы.*
*Я ранак чакаю*
*Пакутна-абвострана, нібы*
*Ён станецца збаўцам*
*Маёй натамлёнай душы.*

*То добра жыву я,*
*То плачу (мужчыны не плачуць),*
*То ў радасці ўвесь я,*
*То ў горкай згасаю журбе.*
*Вось ранак надыдзе,*
*І зайчыкі сонца заскачуць,*
*І я ўсміхнуся*
*Сабе, і вясне, і табе.*

*І выйду я ў людзі,*
*Дзе вецер, святло, аблачына,*
*Дзе час зазямляецца*
*У тоненькіх прожылках траў.*
*Ніхто не пазнае,*
*Што гэты вясёлы мужчына*
*Уночы адзін*
*За пісьмовым сталом паміраў.*

●

Францу СІЎКО

*Яшчэ ж учора быў я маладым,*
*Спякота зачароўвала і слота.*
*А сённека ўжо юнь сплыла, як дым*
*Кастра, што распаліла адзінота.*

*Адвеславаў, адбегаў, аддурэў*
*У дні сваёй шалёнай маладосці.*
*І сённека ўжо восень на дварэ,*
*Як быццам бы заслужанае штосьці.*

### Анатоль ЗЭКАЎ



### Чорны воран

*Кружыць-кружыць чорны воран*
*над Палессем родным нашым,*
*быццам кажа:*
*скора, скора*
*мы касцьмі у дол тут ляжам.*
*На клады ж і так ужо нас*
*адышло адсюль задужа,*
*хоць заплач па ўсіх уголах.*
*Ну, а ты ўсё, воран, кружыш*
*і ўсё каркаеш, што скора*
*нас не будзе ў гэтым краі.*
*Як прагнаць цябе мне, воран,*
*і куды прагнаць?*
*Не знаю.*

### Паркалёвыя ўспаміны

Сястрычцы Галі

*Давай той дзень успомнім, Галя,*
*калі з сельпоўскай крамы*
*адрэз квяцістага паркалю*
*дамоў прынесла мама.*
*Якія то былі абновы*
*табе*
*і мне,*
*і брату!*

*Ад успамінаў паркалёвых*
*аж пасвятлела хата.*

### Крыжы

*Ад крыжоў уцячы*
*аніяк немагчыма,*
*што стаяць, як мячы,*
*на прасторах Айчыны.*

*Хто ты ёсць, імярэк,*
*што тут ладзіў хаўрус свой*
*і застаўся навек*
*у зямлі беларускай.*

*Лез да нас ты пішчом,*
*лез — нібы ў павуціне.*
*А хто прыйдзе з мячом,*
*ад мяча і загіне.*

*Колькі іх тут ляжыць*
*на маёй на Радзіме!..*
*На магілах крыжы,*
*як мячы па-над імі.*

●

*Старарэчча Дняпрова,*
*што завецца ў нас Конніцай,*
*мне ў Мінску раптоўна*
*надвячоркам успомніцца.*
*І нібыта на вечнасць*
*думку я выпрабоўваю:*
*"Кінуў Днепр старарэчча,*
*бо знайшоў сабе новае".*
*То ж і ў нас так бывае*
*(няўжо памяць кароткая?):*
*старых жонак кідаем,*
*каб кахацца з малодкамі.*

●

*Неўпрыкметку, спакваля*
*старасць падбіраецца.*
*Пад нагамі і зямля*
*быццам бы гайдаецца.*
*Па той кладачцы-зямлі*
*сунуся —*
*не жартачкі!*
*Што чакае Там,*
*калі*
*Тут сарвуся з кладачкі?*

•

*Як ціха ў садзе спіць раса*
*Туманным ранкам на дасвецці!*
*Баіцца здрыгануцца сад*
*Сваім, ужо ачнутым, веццем.*

*І нават ветрыка павеў*
*Не хоча варушыць лістоту.*
*Яшчэ маўчыць птушыны спеў.*
*Яшчэ ляжыць на сэрцы цнота.*

*Ідзі, ідзі у майскі сад.*
*Ён храм, табой наноў адкрыты.*
*Ён думак патаемных клад,*
*Філосаф мудры, даравіты.*

*Світай душой, мудрэй і ты*
*Пад кронай задуменнай саду,*
*Пакуль душою не астыў,*
*Пакуль яшчэ прыродзе рады.*

•

*Белы вэлюм... Белы бэз...*
*Белы сад...*
*Я ніколі не вярнуся назад, —*
*У той слодычны эдэм на зары,*
*Дзе палалі тваіх шчок снегіры.*

*Ты русалкаю ішла па траве.*
*Пух пялёсткаў на тваёй галаве.*
*І вясна ў тваіх шалела вачах.*
*І спакуса на дрыготкіх плячах.*

*Белы вэлюм... Белы бэз...*
*Белы сад...*
*Ачмурэлы, я стаяў ля прысад.*
*Захмялелы, я глядзеў у той бок,*
*Дзе быў песняй кожны ўздых,*
*кожны крок.*

*Неба стомленым ад ласкі было.*
*Промень сонечны лагодзіў чало.*
*Ды ў прызнаннях я — зусім не мастак:*
*Пазіраў я на цябе — проста так.*

*Але мара ўслед ляцела мая.*
*Але ведаў я, што ты — гэта я,*
*Што не вернемся мы проста назад...*
*Белы вэлюм... Белы бэз...*
*Белы сад...*

*Хоць памыляўся і нядобра жыў,*
*І не ўтрымаў жар-птушкі ў далонях,*
*Усё-такі я сталасць заслужыў*
*Не толькі тым,*
*што зазімак на скронях.*

*Каля крыніц і векапомных дрэў*
*Мне выпала уволю нахадзіцца.*
*Таму і пасталеў, і памудрэў,*
*І маю права гэтым падзяліцца.*

## *Дзень гаркаты*

*Гронку рабіны трымаю ў руках,*
*Ну не рабінкі — адны вітаміны.*
*Толькі адно вы пазнаць не павінны:*
*Колькі гаркоты у гэтых радках.*

*Не, я з дэпрэсіі выйшаў даўно,*
*То ад рабіны такая гаркота,*
*Заўтра нядзеля,*
*сёння — субота.*
*Хоць панядзелак, усё мне адно.*

*Вось і вазьму і ўпаду я ў траву,*
*І прытулю да зямлі сваё грудзі.*
*Можа, мне лепей крышачку будзе,*
*Мо па-інакшаму я зажыву?*

*Хочацца ўжо не любві — дабраты.*
*Што ж не збіраецца сёння сябрына?*
*Цяжка табой апраўдацца, рабіна,*
*Калі надарыцца дзень гаркаты.*



*Фота Ю. ЗАХАРАВА*

ПРОЗА

Франц СІЎКО



# ПІКЕТ

АПАВЯДАННЕ

*Веры і Рэгіне К.*

Міхась Юр'евіч Чарнявец, настаўнік літаратуры ў старэйшых класах, падняўся з першага паверха на трэці, спыніўся ў калідоры ля акна — адпачыць. Апошнім часам ён вельмі памажнеў, і яго, асабліва ў такія во перагружаныя ўрокамі дні, як сёння, даймала дыхавіца. Да таго ж і ціск усё часцей падскокваў, што не дзіўна было пры гэтых умовах працы: дзяцей у класах шмат, пад сорак чалавек, паветра цяжкае, не прадыхнуць, гвалт, гармідар. А яшчэ ж сшыткі, планы, класнае кіраўніцтва, размовы з бацькамі вучняў, бясконцыя чароды правяральшчыкаў... Ды і кепскае, спехам, харчаванне: чай або кава ўранку, перасмажаная катлеціна ў школьнай сталоўцы на абед, тлустая, усухамятку, вячэра — здароўя не дадавала.

Пастаяўшы хвіліну-другую ў калідоры, Чарнявец адчыніў дзверы настаўніцкай. Там быў толькі Васіль Пятровіч, дырэктар. Ён стаяў ля стэнда з раскладам і нешта выпісваў сабе ў нататнік. Толькі Чарнявец раскрыў рот, каб паскардзіцца яму на невыносны шум у школе падчас перапынкаў, як у памяшканне бадзёрым крокам увайшла матэматычка Святлана Аляксееўна. Павітаўшыся, яна села ў крэсла, прыязна ўсміхнулася Міхасю Юр'евічу.

Сэрца ягонае забілася хутчэй, і невыпадкова: памяркоўная, заўсёды ветлівая матэматычка яму падабалася. Яна была не замужам, а ён, стомлены адзінотаю і неўладкаванасцю халасцяцкага побыту, якраз планаваў жаніцца. І лепшай кандыдатуры, чым Святлана Аляксееўна, для ажыццяўлення гэткага намеру, не бачыў. І яна, здаецца, была не супраць, каб пабрацца — калегі ўжо неаднойчы яму на тое намякалі. Канечне, прадметы яны розныя выкладаюць, але хіба гэта можа быць перашкодаю для ўзаемаразумення ды сумеснага жыцця?

— Ну, як там нашы дзесяцікласнікі? — звяртаючыся да Чарняўца, спытаў дырэктар. — Што зараз праходзяць па літаратуры?

— Сёння "Чалавкека ў футарале" разбіралі, — адказаў ён.

— Ого! І як прайшло?

— Так сабе, — не вельмі ахвотна сказаў Міхась Юр'евіч і зняў акуляры. - Уявіце, найбольш эмоцый выклікала ў іх вата ў вушах у Белікава.

Калегі пераглянуліся, дружна, бы па камандзе, заўсміхаліся. Але бачачы, што яму не да смеху, тут жа зноў зрабілі сур'ёзныя міны.

— Яны ж дзеці, Міхась Юр'евіч, — голасам, у якім адначасова чуліся і дакор, і перапрашэнне за недарэчную весялосць, сказала Святлана Аляксееўна і дакранулася да ягонай рукі. — І вам не след гэтак рэагаваць на іхнія паводзіны.

— Не след? — чырванеючы, прамовіў ён і падняўся з-за стала. І ўжо сабраўся з духам, каб запярэчыць больш грунтоўна, як празвінеў званок на ўрок.

Святлана Аляксееўна падхапіла пад паху стос сшыткаў, пагойдваючыся на абцасах, накіравалася ў калідор. Чарнявец са шкадаваннем праводзіў яе паглядам: усё ў матэматычцы, ад шпаркае, рашучае хады да вабнай, крыху знарок неахайнай высокай прычоскі, выклікала ў ім у гэты дзень пяшчоту і замілаванасць.

— Ой, не вароньце, шаноўны, — заўважыўшы, мусіць, ягоны лірычны настрой, сказаў Васіль Пятровіч. — А то і памраце халасцяком. Чацвёрты дзесятак, як-ніяк, варта падумаць...

Чарнявец склаў у партфель рэчы, таксама падаўся да дзвярэй. Урокаў у яго больш не было, але і размаўляць на тэму, якую зачапіў дырэктар, не хацелася. Да таго ж ён сёння яшчэ збіраўся наведаць фізрука Амбразёнка, да якога даўно ўжо абяцаў забегчы ў госці, але ўсё неяк не выпадала.

У калідоры на гэты раз было ціха. Ён зайшоў у самы дальні, цёмны, кут, азірнуўшыся, ці не бачыць хто староннні, дастаў з кішэні шматок ваты. Раздзяліў яго не дзве часткі, засунуў па чарзе з дапамогаю запалкі адну ў адно, другую ў другое вуха. І тае ж хвіліны зноў успомніў смех у класе, калі чыталі пра звычку Белікава хадзіць з ватаю ў вушах. Успомніў і сціяўся ад здагадкі: ці не з яго гэта яны рагаталі? Вядома ж, з яго! На душы зрабілася так прыкра, быццам хто прылюдна плюнуў яму ў твар. Прыкрасць вельмі хутка перарасла ў крыўду. Як можна кпіць і смяяцца з хворага чалавека! Ён месяц таму перахварэў на атыт, і зараз яму, каб пазбегнуць рэцыдываў, трэба вельмі, вельмі берагчыся.

На дварэ, нягледзячы на пачатак красавіка, было даволі сцюдзёна. Сонца не выглядвала каторыя суткі, пранізлівы сухі вецер, злосна гойсаючы між будынкаў, шпурляў у твар пыл і смецце, працінаў да касцей. Чарнявец наставіў каўнер плашча, пацепваючыся ад холаду, пашыбаваў да прыпынку.

Амбразёнак адчыніў яму сам. Сказаўшы штосьці на вуха жонцы, узяў Міхася Юр'евіча пад руку, павёў у свой пакой. І там доўга, ледзь не гадзіну, гаварыў, стараючыся разгаварыць і госця. Але дарэмна. Чарнявец сядзеў моўчкі і ўважліва, быццам што выглядваючы, сачыў з-пад акуляраў за таварышам — так уважліва, што той урэшце сумеўся. На шчасце, у пакой увайшла гаспадыня.

— Калі ласка, да стала, — сказала, запрашаючы ў кухню.

— Не-не! — Міхась Юр'евіч рашуча замахаў рукою. — Мне ісці трэба... Мяне чакаюць.

— Чакаюць? Ці не Святлана Аляксееўна? — соладка ўсміхнулася Амбразёнчыха.

— Якая Святлана Аляксееўна? — нібыта не разумеючы, што яна кажа, адказаў ён і выскачыў у прыхожую, адтуль, апранаючы на хаду плашч, — на пляцоўку.

Хацелася есці. Гэта Чарнявец адразу зразумеў, як толькі трапіў з цяпла на вуліцу, у халадэчу. І пашкадаваў ужо, што не застаўся ў Амбразёнкаў. Не так ужо кончa яму было адыходзіць. З другога боку... Пагаснуеш бо гэтак, а потым, хоцькі-няхоцькі, да сябе кліч. А там ці мала што вызыраць, панясуць па ваколіцы. Зноў жа, выдаткі. Словам, не гэтулькі наедку, колькі клопатаў. Тым больш, што дадому — рукой падаць, пяць-сем хвілін хады.

Ля падземнага перахода побач з ягоным домам таўклася купка людзей. Пяцёра мужчын і дзве жанчыны, прымасціўшы ўстыч газетнага кіёска дачны столік, нешта горача даводзілі прахожым. Тыя падыходзілі да стала, чыталі нейкую паперку, прачытаўшы, ставілі подпіс ці, наадварот, абураныя адыходзілі прэч.

Чарнявец падышоў бліжэй.

— Што гэта тут? — спытаў у кабеты, што гандлявала побач штучнымі кветкамі. — Мітынг, ці што?

— Пікет нейкі, — адказала тая і махнула рукой: маўляў, рабіць людзям няма чаго, вось і займаюцца глупствам.

Міхась Юр'евіч хацеў ісці далей, ды ці то цікаўнасць перамагла, ці то агульны настрой перадаўся, але ён незаўважна неяк для самога сябе апынуўся ля стала. Якое ж было ягонае здзіўленне, калі, падняўшы вочы, ён пазнаў у адной з пікетчыц... Святлану Аляксееўну.

Некалькі хвілін ён не мог вымавіць ні слова. У вачах у яго пацямнела, а сэрца затахкала так моцна, нібыта збіралася разарвацца на кавалкі.

— Вы... у кіпеце? — блытаючыся ад разгубленасці ў складах, вымавіў ён нарэшце.

— Я, — весела сказала жанчына і засмяялася. — Мы ўжо трэці дзень тут стаім. Далучайцеся і вы да нас.

— Трэці дзень?! — жахнуўся ён.

— Дык далучыцеся ці не? — працягвала дапытвацца Святлана Аляксееўна.

— Я... мне не выпадае, — адступаючы ад стала да ходніка, прамармытаў Чарнявец і роспачліва азірнуўся.

На ягонае шчасце, да пікетчыкаў падышла адразу вялікая група людзей, і ён, выкарыстаўшы гэта, апрометцю сігануў у пераход.

І потым увесь час, падымаючыся з перахода на вуліцу, і пасля, ідучы пад'яз стадыён да свайго двара, і ў кватэры, ладзячы немудрагелістых халасцяцкі абед, ён думаў пра матэматычку. Яна — у пікеце? Хто б мог падумаць! Вось табе і лагодная! А ўсе — жаніся, жаніся... Ажэнішся, а яна будзе во гэтак па пікетах шастаць? А ад пікетаў і да палітыкі недалёка. І самі пікеты розныя бываюць. Вось і гэты — добра, як дазволены, а як не?

Ён ведаў з газет, што дазволамі на праведзенне пікетаў займаецца гарадская адміністрацыя. Зазірнуў у тэлефонны даведнік, набраў патрэбны нумар.

— Які пікет? — жаночы голас на тым канцы провада прагучаў няўхвальна. — Хто пікетуе?

І тут толькі Міхась Юр'евіч успомніў, што ў спешцы не паглядзеў нават, які там, ля перахода, быў пікет. Гэта ўскладняла справу, і ён, каб не дадаць сабе яшчэ якую непрыемнасць, хуценька паклаў трубку на месца.

Рэшту дня ён правёў кепска. Настрой быў ніякі, у галаву ўвесь час лезлі думкі пра Святлану Аляксееўну. Яна, настаўніца, займаецца гэткімі справамі? Як яна можа?

Яшчэ горш было ўначы. Сніліся сны, і кожны быў страшнейшы за папярэдні. То Святлана Аляксееўна, мроілася, распаўсюджвае нейкія ўлёткі. То трызнілася, што па яе прыйшлі з міліцыі. То ўяўлялася, што яны бягуць удваіх па вуліцы, а за імі гоняцца на чорным варанку дзядзькі ў форме. Напрыканцы сснілася, што ён, Чарнявец, памёр, і ягоныя калегі, вяртаючыся з могілак, кажуць, якое гэта было шкадаванне — яго хаваць. А Святлана Аляксееўна, стоячы ў пікеце, збірае подпісы супраць ягонага ўваскрашэння.

Ачнуўся ён а шостай гадзіне. Доўга абмацваў сябе сяк і так, нарэшце, упэўніўшыся, што жывы, падняўся з ложка, пайшоў пад душ. Пасля душа папіў халоднага чаю, апрануўся, пасунуўся на трамвайны прыпынак.

У школе, як заўсёды, было тлумна. Унікаючы найбольш шматлюдных месцаў, Міхась Юр'евіч паныла перасёк калідор, увайшоў у настаўніцкую.

Святлана Аляксееўна, пунцовая ад хады (яна штодзень дабіралася на працу пешкі), стаяла перад люстэркам і папраўляла разбэрсаныя ветрам валасы.

— А, вы! — сказала, убачыўшы яго ў люстэрку, і дакорліва ўсміхнулася. — Што ж вы збеглі ўчора? Пікет быў такі ўдалы, мы чатырыста подпісаў сабралі за будаўніцтва ў мікрараёне новай лазні.

— Я... спяшаўся, — зманіў ён, гледзячы з непрыязнасцю на яе пахіленую набок і, як падалося яму, падобную да сарочынага гнязда, прычоску. Хацеў дзеля прыліку яшчэ што дадаць, але не здолеў. Быццам нешта абаралася ў ім пасля ўбачанага напярэдадні ля перахода, і пераадолець сябе, як бы таго ні жадалася, ён не мог.

— Вельмі шкада.

— Мне таксама, — уздыхнуўшы з палёгкаю, што размова нарэшце скончылася, сказаў Чарнявец і борзда накіраваўся да дзвярэй.

З хвіліны на хвіліну меўся празвінець званок, а яму яшчэ трэба было падрыхтаваць на дошцы сякія-такія запісы да чарговага ўрока аб "футаральным жыцці".



ЧАСАПІС

## Не ўсё так проста — узяў ды напісаў п'есу

*Нядаўна скончыўся Рэспубліканскі конкурс "на стварэнне п'ес для тэатра пад дэвізам "Дыялогі вякоў". Важнае для рэспублікі мерапрыемства доўжылася дзевяць месяцаў...*

**Пачнем з дэвіза: "Дыялогі вякоў". Хіба можна паставіць перад драматургам больш агульную, гіпатэтычную задачу, чым прапанаваць напісаць п'есу для конкурсу пад такой назвай? Зразумела, што мелі на ўвазе арганізатары: дэвіз выказвае пажаданне і, нават, папрок сучасным драматургам, чые творы не дасягаюць узроўню сусветнай драматургіі. Гэта значыць, пішуцца не на стагоддзі. Адсюль і заклік: "Пішыце так якасна, каб вашымі творамі можна было весці дыялог з мінулымі і будучымі пакаленнямі творцаў!". Але ж хіба можа такі лозунг падштурхнуць драматурга на якую-небудзь думку практычна? Усталёўваючы максімальна высокую планку, ці не прыгнятае ён усялякае творчае памкненне?**

**Цалкам лагічна, што першую прэмію на конкурсе не атрымаў ніхто. Журы проста не магло прысудзіць вышэйшую ўзнагароду конкурсу "Дыялогі вякоў" — любоўнай гісторыі (на двух акцёраў) "Адэль" Яўгена Таганава ці сентыментальнаму "Сняданку на траве" Алены Паповай. Гэтыя п'есы падзялілі 2-ю прэмію ў намінацыі "П'еса для драматычных тэатраў". Трэцюю — атрымалі Аляксей Дудараў з драмай "Крыж" і Генадзь Аўласенка з "Пупсікам".**

**Больш аднадушным было журы ў ацэнцы "п'ес для дзіцячага і юнацкага гледача". Відавочна, трапіў "у яблычка" Аляксей Дудараў, які напісаў п'есу "на вякі" пад шматзначнай назвай "КІМ". Другую прэмію атрымаў Мікалай Матукоўскі за "Сярэбраную табакерку". "Хведар Набілкін — адважны касінер" — так называецца казка Пятра Васючэнкі, уладальніка 3-й прэміі.**

**Не дасягнулі ўзроўню "міжвекавой" геніяльнасці п'есы ў намінацыях "для лялечных тэатраў" (2-я прэмія дасталася Георгію Марчуку за "Начнога госця", а трэцяя — Генадзю Аўласенку за "Вясёлых сяброў" і "Малпачку") і ў намінацыі "Інсэніроўкі" (2-ю і 3-ю прэміі атрымаў Уладзімір Савіцкі з "Шляхціцам Завальнем" паводле аднайменнага твора Я. Баршчэўскага і "Часам звера" паводле аповесці М. Зарэцкага.**

**Конкурс быў пабудаваны як падвядзенне вынікаў. Аднак ніхто не ставіць спектаклі ўмысна для фестывальных праглядаў, а тут конкурс — "на стварэнне п'ес". Можа, трэба было абумовіцца і — скласці рэйтынг "рэалізаваных", пастаўленых п'ес, ці арганізоўваць конкурс па ўсіх правілах: спачатку — адбор заявак (на І-м туры), потым — абарона праектаў, дыскусія з членамі журы, абмеркаванне магчымасці і мэтазгоднасці будучай п'есы (на 2-м туры), і нарэшце, напісанне п'есы ў сціслы тэрмін як пайнаварты заказ (на 3-м туры). А так журы давялося чытаць 91 п'есу!**

**І прысуджваць прэміі можна было б зусім не па гэтых сумных, нічога не адлюстроўваючых намінацыях. Папершае, усе фіналісты (не 20 узнагароджаных, як зараз, а ўсяго 10) павінны былі б атрымаць аднолькавую ўзнагароду, а рашэнне журы размеркавацца па наступных намінацыях: меркаванне рэжысёраў, думка акцёраў, меркаванне крытыкаў, прадзюсераў і гэтак далей. Хіба не было б каштоўна даведацца, якая з п'ес больш прывабліве артыстаў, якая — кіраўнікоў тэатраў? Калі б давялося ацэньваць не 91, а ўсяго 10, але напісаных з перспектывай пастаноўкі п'ес, можна было б значна пашырыць кола чытачоў. П'есы прайшліся б па тэатрах, ВНУ, спецыялізаваных часопісах. Потым — сабраць галасы. І — канчатковы вынік. Якая з п'ес атрымае ўсебаковае ўхваленне? І ўвогуле, чаму б на конкурсе не перамагчы цікавай п'есе для лялечнага тэатра, напрыклад? Няўжо гэтая "неспрavядлівасць не падштурхне драматургаў "з імем" пісаць лепш?**

**Андрэй АХМЕТШЫН**

МУЗЫКА

# У чым таямніца майстра?

***Дырыжор аркестра — дзівосная, чароўная прафесія. Яна вымагае ад музыканта найглыбокіх прафесійных ведаў, шырокай эрудыцыі. Невыпадкова, каб стаць дырыжорам, трэба мець дзве вышэйшыя музычныя адукацыі. Такія сучасныя патрабаванні, прытым толькі ў гэтай спецыяльнасці. Дырыжор — гэта і адукаваны музыкант, і чалавек, надзелены асаблівымі валявымі якасцямі, што дазваляюць яму прывабіць і павесці за сабой велізарны калектыў. Адным узмахам дырыжорскай палачкі! З гэтай нагоды, напрыклад, пра А. Тасканіні пісалі, што ён здзейсніў сваёй амаль гіпнатычнай сілай пераканання...***

***Можна сказаць, што ў руках дырыжора — лёс твора, лёс музыкі...***

Беларуская сучасная дырыжорская школа параўнаўча маладая. Ля яе вытокаў сталі знакамітыя І. Мусін, які пазней выехаў у Ленінград, і М. Шнейдэрман — абодва вучні буйнога савецкага дырыжора А. Гаука. Першыя захады па стварэнні нацыянальнай дырыжорскай школы былі зроблены І. Абрамісам (прадстаўніком першага пасляваеннага выпуску), які з часам вырас у буйнога тэатральнага дырыжора, што сумяшчаў артыстычную дзейнасць з педагагічнай працай у Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі. У яго класе займаўся і Аляксандр Сасноўскі — адзін з адметных сучасных музыкантаў, у рэпертуары якога сёння — больш за 30 спектакляў, ажыццёўленых у Дзяржаўным музычным тэатры Беларусі, сімфанічная музыка, творы сімфаджазавага жанру.

Аляксандр Сасноўскі вядомы найперш як дырыжор тэатральны. Менавіта ў Музычным тэатры (да нядаўняга часу — музычнай камедыі), дзе ён працуе з 1980 г., найбольш поўна раскрыўся яго творчы патэнцыял.

●

Да прафесіі дырыжора Аляксандра цягнула яшчэ ў музычным вучылішчы, дзе яго педагогам быў вядомы музыкант Леанід Іваноў. У Беларускай кансерваторыі таксама пашанцавала з настаўнікам: гэта быў знаны Іосіф Абраміс, які сумяшчаў працу дырыжора ў тэатры музычнай камедыі з выкладаннем у вядучай творчай ВНУ Беларусі. Закончыўшы тры курсы, Аляксандр вырашыў паспрабаваць свае сілы ў сэрцы дырыжорскага мастацтва — Ленінградскай кансерваторыі. На папярэднім праслухоўванні ён быў заўважаны вялікім І. Мусіным і пасля здачы экзаменаў прыняты на дырыжорскі факультэт (клас Э. Грыкурава і Ю. Цемірканава).

У гады ленінградскага студэнцтва адбыўся і ўдалы тэатральны дэбют. Ён упэўнена прадырыжыраваў спектаклем "Яўгеній Анегін" (без адзінай рэпетыцыі!), хаця быў толькі на ІІ курсе.

Падзеі разгортваліся ў тэмпе presto. Сасноўскага запрасілі ў Мінск дырыжыраваць "Сільвай" (уводзіў у спектакль яго "духоўны бацька" І. Абраміс), а хутка адбыўся і дэбют як дырыжора сімфанічнага аркестра ў Вялікай зале Беларускай дзяржаўнай філармоніі. Быў зроблены выбар на карысць прафесіі дырыжора музычнага тэатра, або тэатральнага дырыжора.

Далучэнне з маладых гадоў да актыўнай творчай дзейнасці дало выдатную магчымасць вызначыць свае далягляды, назапасіць рэпертуар. З часам былі набыты практычны досвед, прафесійныя навыкі, асвоены многія творы. Дапамаглі веды, атрыманыя ў студэнцкія гады.

А. Сасноўскі паспяхова закончыў Ленінградскую кансерваторыю, а потым і асістэнтуру-стажыроўку (клас прафесара Юрыя Цемірканава), стаў дырыжорам, а потым і галоўным дырыжорам Дзяржаўнага тэатра музычнай камедыі Беларусі (цяперашняга Музычнага), стварыў Сімфанічны аркестр у Брэсцкім тэатры драмы і музыкі, выкладае на кафедры аркестравага дырыжыравання БАМ.

Адна з найбольш значных удач А. Сасноўскага пры канцы 80-х у тэатры музычнай камедыі — "Клоп" В. Дашкевіча. Дырыжор арганічна "ўпісаўся" ў пастаноўку, выканаўшы функцыю не толькі маэстра за пультам, а й акцёра — удзельніка сцэнічнага дзеяння. Ён правёў спектакль на адзіным дыханні, раскрыўшы характэрную для музыкі гулліваць і выгадна адцяніўшы лірычныя эмоцыі. Дырыжор-інтэрпрэтатар выявіў тонкае адчуванне формы і драматургіі твора, пластычнасць, закладзеную ў музычным матэрыяле "Клапа".

Паступова творчая манера А. Сасноўскага пачала набываць устойлівыя рысы. Адна з іх — імкненне ўбачыць спектакль у розных ракурсах, пачуць хутчэй ледзь пазначаныя, чым выразна выяўленыя кампазітарам процілегласці. Адсюль імкненне надаць музычнай тканіне рэльефнасць, што характарызуе трактоўкі спектакляў "Вясёлая ўдава", "Фраскіта", "Ноч у Венецыі", "Цыганскі барон", "Лятучая мыш". А рэжысёрская вырашэнне "Джуліі" У. Кандрусевіча дазволіла А. Сасноўскаму актывізаваць дынаміку займальнага дзеяння, перадаць атмасферу элегантнага гумару, дзе ў музычна-драматургічным сэнсе кульмінацыяй робіцца фінал мюзікла. Дырыжору ўдалося выявіць характэрнае для музыкі багацце кантылены, яе незвычайнае спалучэнне з яркімі дынаміч-нымі кантрастамі і бліскучай віртуознасцю вакальных партый, выразнасцю рэчытатываў і рэплік. Высокая зладжанасць опернасімфанічнага (а дакладней: тэатральнасімфанічнага) ансамбля вызначыла поспех пастаноўкі "Джуліі".

Паспяховай была і пастаноўка другога мюзікла У. Кандрусевіча "Шклянка вады". Дакладнае адчуванне формы і драматургічнага працэсу — вынік нястомнай працы дырыжора над павышэннем прафесіяналізму аркестра, што зрабілася асабліва актуальным, калі ў склад трупы тэатра ўвайшоў ба-лет. Балетная музыка, як вядома, больш "патрабавальная" да аркестра. Аднак не толькі дзякуючы балету вырасла майстэрства аркестра, а менавіта майстэрства аркестра паспрыяла пастаноўкам балетных спектакляў на сцэне тагачаснага тэатра музычнай камедыі.

●

Быў у жыцці Аляксандра Сасноўскага перыяд, калі ён мусіў пакінуць пасаду галоўнага дырыжора. У тэатры быў крызіс, і малады дырыжор паехаў у Новасібірск, дзе працягваў выканаўчую дзейнасць. Гастраляваў з тамтэйшым тэатрам па гарадах Сі-біры, ладзіў сімфанічныя канцэрты. У 1994 г. ён вярнуўся на радзіму і зноў, заняўшы пасаду галоўнага дырыжора ў родным тэатры, распачаў з уласцівай яму энергіяй і неардынарнымі арганізатарскімі здольнасцямі ствараць новы рэпертуар. Наперадзе была новая мара, а значыць — і новая мэта. Разам з тагачасным дырэктарам С. Косціным пачаў займацца праблемай пераўтварэння тэатра ў Музычны.

Сасноўскі сур'ёзна і надзвычай адказна рыхтаваўся да новага рэпертуару. Перадусім сканцэнтраваў увагу на артыкуляцыйнай выразнасці духавых інструментаў, на культуры інтанавання струнных, а галоўнае — на выхаванні артыстычнасці і развіцці імправізацыйнай ігравой манеры ўсіх аркестрантаў. Пры гэтым дырыжор творча рос разам са сваімі калегамі: ярчэй праяўлялася маштабнасць яго мыслення і ўпэўненасць інтэрпрэтатара, больш выразным зрабіўся дырыжорскі жэст.

У той пераходны перыяд быў пастаўлены шэраг спектакляў (хаця іх значна менш, чым у 80-я — пач. 90-х), сярод якіх асаблівае месца займае "Капялюш Напалеона" О. Штрауса. У спектаклі ўдзельнічаў увесь "цвет" трупы, шэрагі якой, на жаль, прыкметна парадзелі. Сасноўскі актыўна спрычыніўся да пастаноўкі і ведаў сцэнічнае дзеянне да дробязяў. Яму ўдалося дамагчыся зліцця музычнага і драматургічнага вобразаў, сапраўды мастацкага ансамбля. Ён, як звычайна, вывучаў усе мастацкія "дробязі". Гутарыў і з мастаком, і з бутафорам, і з рабочым сцэны. Падчас рэпетыцыі нярэдка з'яўляўся на сцэне, дзе разам з рэжысёрам падказваў спеваку характэрны жэст, тлумачыў малазразумелыя месцы. Ён быў сапраўдным кіраўніком спектакля, звыкла ўдзельнічаючы ў яго стварэнні. Зноў пацвердзілася тая дзівосная сіла і неўтаймоўнасць тэмпераменту, якім надзелена мастацкая натура А. Сасноўскага. Як заўсёды, спектаклем ён дырыжыраваў энергічна і эмацыянальна.

Падчас працы над партытурай "Даратэі" Ц. Хрэннікава (нядаўняя прэм'ера) дырыжор дамогся кампактнасці, зладжанасці гучання, пастаянства ўнутранага пульсу і драматургічнай яснасці ўсіх ліній фактуры, пэўнай перспектывы музычнага развіцця.

Галоўнае для яго — паслядоўнае ўвасабленне аўтарскай задумы, выкананне ўсіх рэмарак, г.зн. захаванне прыроды кампазітарскага стылю. Аднак пры ўсім старанным выкананні стылявых нормаў і аўтарскага тэксту, пры ўсёй павазе да дырыжорскіх традыцый, А. Сасноўскі не прымае сціплую ролю пасіўнага інтэрпрэтатара. Яго пазіцыя — актыўная прысутнасць асобы выканаўцы, своеасаблівы дыялог з аўтарам.

Адсюль — знарочыстая гіпербалізацыя розных музычных элементаў і кампазіцыйных структур, імкненне да дынамізацыі формы і да т. п. Усё гэта дасягаецца на рэпетыцыях, дзе твор нараджаецца, адточваецца. Высокая патрабавальнасць у працы дазваляе дырыжору дасягаць належнага выніку, які, відома, вызначаецца многім: пачуццём ансамбля, прафесіяналізмам

ГОСЦІ

# Музыка стварае душу

"Функцыя музыкі — ствараць душу, ствараючы ўмовы для міфа, кораню ўсіх душ. Дзе няма душы, музыка стварае яе. Дзе яна ёсць — музыка ўдасканальвае яе", — у гэтых словах Яніса Крыстоў, вядомага грэчаскага кампазітара нашага стагоддзя, раскрываецца глыбокі сэнс грэчаскай музыкі, вытокі якой у манадыйнай музычнай культуры антычнасці.

Студэнты Беларускай акадэміі музыкі мелі магчымасць спрычыніцца да некаторых асаблівасцяў грэчаскай старадаўняй і сучаснай музыкі. Адбыліся лекцыі ("Мусіке і этас у Старажытнай Грэцыі", "Традыцыйная музыка Кіпра і сучасная кампазітарская творчасць") і майстар-клас ("Праблемы сучаснай кампазітарскай творчасці на прыкладзе музыкі Я. Ксенакеса") вядомага сучаснага кіпрскага кампазітара Фэйдраса Каваларыса.

Надзвычай творчая асоба — кампазітар, лектар, педагог — Фэйдрас нарадзіўся ў г. Ларытосе на Кіпры ў 1950 г. Калі быў студэнтам Лонданскага універсітэта, напісаў музыку да камедыі Арыстафана "Птушкі" ("The Birds", 1971), квінтэт "Дыханне лесу" ("Woodwind Qintet", 1972), арганізаваў першы канцэрт са сваіх вакальных твораў. Пасля трагічных падзей на Кіпры ў ліпені 1974 г. — дзяржаўны пераварот і напад туркаў на востраў — Фэйдрас піша вялікую колькасць песенных цыклаў на тэму трагедыі яго роднай краіны. У гэтых песнях, пазней выкарыстаных у шматлікіх канцэртах кампазітара, адлюстроўваецца музычныя традыцыі грэчаскай культуры.

З пачатку 80-х Ф. Каваларыс глыбока цікавіцца еўрапейскай музыкай. Разам з Лучыяна Берыо і Янісам Ксенакесам наведвае курсы і семінары ў Акантыс-цэнтры ў Францыі, з 1981 па 82 гг. займаецца ў класе Пауля Мефана ў Парыжскай Нацыянальнай кансерваторыі.

Між іншым, кампазітар сур'ёзна захапляецца і культурай Усходу. У 84 г. жыве і праводзіць даследаванні ў Індыі, затым два з паловай гады — у Кітаі. Пекінскай кансерваторыі, і адзін год у Японіі. У Бэйіне і Токіо былі канцэрты з твораў Ф. Каваларыса, напісаных для кітайскіх і японскіх інструментаў.

А шэраг твораў 80—90-ых гг. сінтэзуе ўсе яго ныя вопыты ў сферы музыкі: "Diastavosis" для флейты і віяланчэлі, "Parathesis" для квінтэта медных духавых, "Anakyklia" для саліста і дванаццаці музыкантаў і інш. У апошнее дзесяцігоддзе музыка Ф. Каваларыса атрымала шырокую папулярнасць у краінах Заходняй Еўропы, на Усходзе, у Амерыцы.

музыкантаў, ды найперш — невытлумачальным валявым імпульсам кіраўніка аркестра, яго энергіяй. Сасноўскі валодае гэтай сілай пераканання. Ён выкладае свае думкі ясна і проста, у даходлівай форме, звяртаючыся да яркіх вобразных метафар, а нярэдка — і па-рэжысёрску, замяняючы аповед паказам. Невыпадкова працэс пастаноўкі, а часам і сам спектакль, не абыходзіцца без яго ўдзелу ў якасці дзейнай асобы!

●

Вызначылася з часам яго новае "амплуа" — кшталту дырыжора-пастаноўшчыка. Дарэчы, такая практыка — даўняя. Вядома, што дырыжоры, надзеленыя артыстычным талентам, нярэдка займаюцца рэжысёрскай працай. Прынамсі, знаныя піцерцы Юрый Цемірканаў ды Валерый Гергіеў. Сасноўскі — вучань Цемірканава, які перадаў свайму гадаванцу "рэжысёрскае" адчуванне музычнай сцэны.

Дарэчы, і ў канцэртную музыку А. Сасноўскі ўносіць дух тэатральнасці.

Ягоная здольнасць яскрава ўзнавіць *тэатральна-відовішчныя* і *жанрава-характарыстычныя* якасці музыкі асабліва паказальная ў працы з сімфанічным аркестрам Брэсцкага тэатра драмы і музыкі. (Дарэчы, "форму" сімфанічнага дырыжора ніколі не страчваў: быў мастацкім кіраўніком і дырыжорам сімфанічнага аркестра Рэспубліканскага каледжа пры Беларускай акадэміі музыкі, дырыжорам аркестра БАМ). Схільнасць А. Сасноўскага да ахопу вялікіх сімфанічных палотнаў да суладдзя цэлага і частак, агульнай логікі музычнай кампазіцыі з дэталізацыяй асобных бакоў і, вядома, да захавання творчай індывідуальнасці кампазітара асабліва ярка выявілася пры выкананні 4-й сімфоніі Брамса, 40-й сімфоніі Моцарта, дзе панавалі строгасць і адухоўленасць, адпаведныя ўзвышанаму ладу партытур.

Музыка Портэра, Бернстайна, Гершвіна, папулярных амерыканскіх кампазітараў, напоўненая яркім эмацыянальным каларытам, у нашых канцэртах — рэдкасць. Аднак у А. Сасноўскага яна — неад'емная частка рэпертуару. Бернстайна дырыжор падносіць у кідка-дэкаратыўнай манеры, падкрэсліваючы асляпляльную маляўнічасць гармоніі, тэмбравыя эфекты. Трактоўка "Блакітнай рапсодыі" Гершвіна дыктуецца блюзавым характарам музыкі, які вызначае высакародную прыгажосць і элегантнасць дырыжорскага жэста.

У чым жа тайна, прыцягальнасць маэстра, які здолеў дасягнуць з тэатральным аркестрам высокіх мастацкіх вынікаў? Думаецца, не памылюся, калі вылучу ў яго творчай асобе высокую прафесійную культуру і культуру чалавечую. Гэты віртуоз дырыжорскай палачкі, надзелены надзвычайнай артыстычнай абаяльнасцю (артыстызм, як вядома, — адзін з важнейшых крытэрыяў ацэнкі дырыжорскага мастацтва), тэмпераментам і валявой памкнёнасцю, умее завалодаць увагай залы. І часам здаецца, што яго гранічна выразны жэст, заўсёды дакладны, эмацыйна насычаны, кіруе не толькі аркестрам, не толькі сцэнай, а й уяўленнем усёй аўдыторыі і гледачоў-слухачоў.

Сапраўдных мастацкіх адкрыццяў А. Сасноўскі дасягае ў творах, напоўненых рамантычнай страснасцю, яркім каларытам, напалам эмоцый. Яго натуры блізкія святочнасць, яркая тэмпераментнасць, імкненне зацікавіць і захапіць усіх і ўсё непасрэднасцю перажыванняў і мастацкіх вобразаў. Захапляе ягонае светаразуменне, дзе ілюзіі — гэта зусім не ілюзіі, а тыя ідэалы, якія неабходныя нам.

Да дырыжораў адносяцца *па-рознаму*. Можна захапляцца знешнасцю музыканта, яго артыстычнасцю, любавацца мануальнай тэхнікай... А можна даверыцца — і гэта, думаецца, самае каштоўнае. Такі душэўны давер публікі да дырыжора — адно з дасягненняў А. Сасноўскага. Наогул, дзякуючы яго дзейнасці аркестр Дзяржаўнага музычнага тэатра выйшаў у лік найбольш аўтарытэтных творчых калектываў краіны, якому па сілах і правядзенне конкурсаў, фестываляў, святочных канцэртаў. Нездарма А. Сасноўскаму ўдалося ажыццявіць важную і перспектыўную ідэю "Парада маладых дырыжораў", заручыўшыся падтрымкай Міністэрства культуры, упраўлення культуры Мінгарвыканкама і роднага Музычнага тэатра.

●

Канцэрты, спектаклі — гэта святы. А як жа складваюцца будні музыканта, як *дасягае ён такіх дзівосных вынікаў?*

Вядома, што жыццё артыста складаецца з рэпетыцый і выступленняў, прычым рэпетыцыі займаюць ільвіную долю часу. Сасноўскі — не выключэнне. Нягледзячы на сваю шматбаковую дзейнасць, галоўнай сферай прафесійных інтарэсаў лічыць Музычны тэатр. Менавіта тут ён адбыўся як музыкант і як дырыжор, менавіта з гэтым тэатрам ён падзяляе ўсе цяжкасці і радасці, тут яго дом і працоўнае месца.

Сказанае — не метафара. Жыллёвыя ўмовы галоўнага дырыжора далёкія ад ідэальных. Ён жыве з сям'ёй у аднапакаёвай кватэры, дзе немагчыма выдзеліць "куток" для вывучэння партытур, для праслухоўвання музыкі і прагляду відэазапісаў, а тым больш — для папярэдняй *дырыжорскай працы над творам*. Здаецца, што ў нашай краіне робіцца нормай гаротнае становішча артыстаў, што нярэдка з'яўляецца прычынай іх "зыходу" з Беларусі. І ці не таму нашае мастацтва м а л а ведаюць у свеце і таму м а л а цэняць, а калі і цэняць, то не як з'яву нацыянальнай культуры, а ў якасці прыватнай праявы нейкай іншай культуры, напрыклад, рускай? І парадаксальна, і... сорамна... Складваецца ўражанне, што такое становішча кагосьці задавальняе, інакш не зрабілася б кватэрная праблема ў дзеячаў культуры і мастацтва прыкрай традыцыяй. А менавіта ў мастацтве і культуры — і толькі тут! — ёсць незаменныя людзі. Магчыма, варта ў якасці эксперыменту абмяняць свае побытавыя ўмовы камусьці з тых, у чыіх руках знаходзяцца пытанні жыццезабеспячэння дзеяча культуры і мастацтва, на "дах над галавой" артыста? Тады можна і гаварыць на роўных...

А пакуль маэстра вымушаны "тварыць" на "службе", зазіраючы ў свой "дом", але не жывучы ў ім... Адсюль — і новыя праблемы...

Аляксандру Сасноўскаму, як усім артыстам, цяжка. А быў жа час, калі яго запрашалі ў тыя гарады, дзе і зарплата *была вышэйшая, і жыццё больш сытнае*. Што ж прымушала яго вяртацца і працягваць пачатае, завяршаць незакончанае? Любоў да айчыны (як ні гучыць гэта напышліва) і справа. Дырыжор жыве сваёй складанай і цікавай справай, сваім тэатрам, аркестрам. Такі ён ёсць...

**Таццяна МДЗІВАНІ**

# "Інтрада" адраджае гармонію

***Срэбныя трубы! Менавіта такое словазлучэнне ўжываем мы, гаворачы пра гэты дзівосны і чароўны інструмент — трубу...***

Падчас канцэрта, што адбыўся не так даўно ў Зале камернай музыкі сталічнай філармоніі, мы пераканаліся, што труба можа быць і сапраўды срэбнай, як у творах Баха, Брытэна ці Бартнянскага, але можа быць і аксамітна пяшчотнай, калі спявае яна *знакаміты рахманінаўскі "Вакаліз"*, і *далікатна-фарфоравай* у мудрагелістым Канцэрце Р. Шчадрына, і зіхоткай, як дыямент, у гучанні цацачнай з выгляду трубы-пікала. І *гарачай, як расплаўленае золата*, у гучных tutti ансамбля, які мае такую ж звонкую, як гук трубы, назву — "Інтрада"!

А раскрылі гэтую разнастайную палітру тэмбраў і колераў артысты "Інтрады": Яўген Лятэ, Дзмітрый Трафімовіч, Сяргей Петрашкевіч, Дзмітрый Макарэвіч, Аляксандр Антановіч, Раман Дакуніхін ды канцэртмайстар Кацярына Ракуць. Ідэя ж стварэння такога ансамбля трубачоў належыць, як вядома, прафесару Беларускай акадэміі музыкі Мікалаю Волкаву — музыканту і педагогу, цалкам адданаму сваёй справе.

Дэбют ансамбля "Інтрада" на IV Фестывалі "Музы Нясвіжа", як і яго выступленне на сёлетнім, пятым, як і на Фестывалі імя І. Салярцінскага ў Віцебску, і шматлікія канцэрты ў розных гарадах краіны не толькі ўразілі высокім прафесійным узроўнем маладых артыстаў (яно і не дзіўна, бо ўсё, за што бярэцца прафесар М. Волкаў, заўсёды адзначана вышэйшай ступенню якасці). Выступленні маладых трубачоў здзівілі агромністым стылявым дыяпазонам рэпертуару: барока, класіцызм, неарамантызм ці постмадэрнізм адчуваюцца імі з максімальнай дакладнасцю і да слухача даносяцца з максімальнай пераканальнасцю.

У згаданым канцэрце спачатку крыху здзівіла, што вёў яго не прафесійнік, накшталт легендарнага Уладзіміра Шаліхіна, а сам мастацкі кіраўнік "Інтрады". Але праз хвіліну было ўжо зразумела, што менавіта гэткая форма стасункаў з публікай і да месца, і, мала таго, надае канцэртнаму вечару атмасферу даверлівасці і адчуванне цэхавай еднасці.

Рэч у тым, што, як абвясціў прафесар М. Волкаў, канцэрт гэты стаўся своеасаблівым пасаджэннем Гільдыі трубачоў (пра што сведчыла і колькасць выканаўцаў-трубачоў у зале). Заўважым, вельмі ўдалым падаецца гэтае старадаўняе слова — "гільдыя". Ёсць у ім нейкая грунтоўнасць і трывалая надзея на падтрымку ды ўзаемадапамогу сяброў па цэху. А місію гільдыі беларускія трубачы бачаць, паводле слоў Мікалая Міхайлавіча, не ў бессэнсоўных зборах прывідных узносаў, а ў тым, каб знаёміць слухачоў з музыкай для свайго інструмента, каб іграць творы як старадаўнія, так і новыя (заахвочваючы пісаць для трубы сучасных кампазітараў, што з поспехам і робіць сам М. Волкаў).

Усе ўдзельнікі ансамбля "Інтрада" (як вядома, ён цяпер уваходзіць у структуру Дзяржаўнага канцэртнага аркестра Беларусі на чале з Міхалам Фінбергам) — выхаванцы Мікалая Міхайлавіча, прызнанага "каваля лаўрэатаў". Хто ж не памятае бліскучую ігру яго нядаўняга вучня, міжнароднага лаўрэата Андрэя Кавалінскага, які і сёння перамагае на прэстыжных конкурсах, але жыве ўжо далёка за межамі СНД. Дык вось, ужо і пасля А. Кавалінскага лаўрэатамі міжнародных конкурсаў сталі малодшыя вучні Мікалая Волкава, з якіх і створаны ансамбль "Інтрада".

Але прадоўжым пра канцэрт. Праграма яго складалася з музыкі розных эпох і ахоплівала чатыры дзесяцігоддзі: ад грацыёзнай, пазбаўленай жарсцяў і катаклізмаў сучаснага жыцця "Інтрады", Морыца фон Хессэна, што жыў у 16-м стагоддзі, да трагічна-ўзнёслага Канцэрта нядаўна памерлага таленавітага беларускага кампазітара Уладзіміра Дамарацкага.

Наогул, усё першае аддзяленне канцэрта было вытрымана на такой высока-пранізлівай ноце, што пачуцці, якія выклікала выкананая музыка, *былі блізкія да вызначэння: катарсіс*. А тое, што пад гэтым разумеецца, — палёгка праз пакуту, асалода праз смутак, — спраўдзілася, дзякуючы і стрыманаму драматызму *соль мінорнай прэлюдыі* І. С. Баха ў выкананні Сашы Антановіча, і поўнаму ўзнёслай жальбы "Вакалізу" С. Рахманінава, які літаральна праспяваў Дзмітрый Макарэвіч, і трагічнасці Канцэрта *У. Дамарацкага ў інтэрпрэтацыі Яўгена Лятэ...*

Нават эфектна бліскучы гендэлеўскі твор для трубы-пікала (гэты інструмент набыты для ансамбля дзякуючы намаганням Міхала Фінберга) у дасканалым выкананні Дзмітрыя Макарэвіча, як і першая частка віртуозна-майстэрскага канцэрта Р. Шчадрына, якую сыграў Дзмітрый Трафімовіч, не развеялі тую шчымлівую атмасферу, што стварыла ў зале глыбока тужлівая музыка У. Дамарацкага. Асабліва ўразіла ў яго канцэрце трагічная Пасакалля. Мала хто ведаў яе ў такім камерным варыянце, зробленым для трубы і фартэпіяна самім аўтарам. Але менавіта ў камерным гучанні твор набыў тую кранальную і пранізлівую даверлівасць, якая поўнай мерай данесла да слухача тугу развітання і вастрыню адзіноты. Ігралі Яўген Лятэ і Кацярына Ракуць: іх мастацкі густ, музыкальнасць, чуллівасць паспрыялі стварэнню такога музычнага вобраза.

Другое аддзяленне праграмы мусіла ўсё ж развеяць строгую засяроджанасць першага. Тут гучала ансамблевая музыка. І калі ў І-м аддзяленні ўсе выканаўцы былі салістамі — такімі рознымі, не падобнымі адзін да аднаго, кожны са сваёй індывідуальнасцю, са сваім уласным тэмпераментам і натурай, дык у 2-м яны ператварыліся-зліліся ў адзін дзівосны шматгалосны інструмент. Трэба сказаць, што тут да 5-ці труб далучылася яшчэ адна, выдатную ігру на якой прадэманстраваў Раман Дакуніхін. Мы пачулі знакамітую "Музыку на вадзе" Гендэля і чароўны Менуэт з "Навагодняй сюіты" Баха, узнёслы Канцэрт Бартнянскага і мініяцюры Чайкоўскага, нюансы ў інтэрпрэтацыі якіх нагадалі пра фальклорнае паходжанне трубы. Дарэчы, аранжыроўкі і пераклажэнні для ансамбля трубачоў — эфектныя, вынаходлівыя — робіць цудоўны музыкант Генрых Гедыльтэр. У апошні час (дзякуючы нястомнай ініцыятыве М. Волкава) з'явіліся і арыгінальныя творы для "Інтрады". Пра выкананне сюіты Г. Гарэлава "З нямецкага сшытка" артыстамі ансамбля можна сказаць толькі адно: бліскуча! Тры эскізы У. Каральчука ўразілі незвычайнай у наш час высакароднасцю музычнай мовы і ўзнёслай гатычнасцю ўсёй ансамблевай пабудовы.

Адным словам, канцэрт яшчэ раз пераканаў: у нас ёсць цікавы, таленавіты і вельмі арыгінальны (ці не дзіва — 5 труб!) ансамбль. Ён з'явіўся і жыве, дзякуючы творчай нястомнасці мастацкага кіраўніка і педагога Мікалая Волкава, насуперак праблемам і цяжкасцям існавання сучаснага мастацтва, насуперак песімістычнаму: "Каму ўсё гэта трэба?.." Патрэбна ж гэта тым, хто здольны слухаць ("маючы вушы, ды чуе"), каб у гучанні стройных гармоній "Інтрады" адчуць і ва ўласнай душы аднаўленне гармоніі — гармоніі, парушанай "злобай дня" і прыціснутай цяжарам штодзённых праблем. У самой назве "Інтрада" (у перакладзе — "уступ", "пачатак чаго-небудзь") ёсць нейкае абяцанне. Хай будзе гэта абяцаннем доўгага творчага жыцця. І хай яно спраўдзіцца.

**Г. С.**



*На здымку: ансамбль "Інтрада" з мастацкім кіраўніком прафесарам Мікалаем ВОЛКАВЫМ.*

Яго актыўная кампазітарская творчасць арганічна спалучаецца з педагагічнай і лектарскай дзейнасцю. Кола тэм ягоных лекцый цесна звязана з творчым досведам — "З культуры Усхода", "Яніс Ксенакес — знаёмства з працамі грэчаскага кампазітара", "Індыя — набажэнства і адкрыццё", "Я. Ксенакес — дух, музыка, свабода" і інш.

Беларускіх студэнтаў зацікавілі лекцыі пра музычныя традыцыі Старажытнай Грэцыі. На першай сустрэчы кампазітар імкнуўся раскрыць шматаспектнасць сэнсу слова "музыка" ("Мусікія"), якая разам з рытмам, словам і танцам была важным элементам лірычнай паэзіі старажытных грэкаў. Цікава разважаў кампазітар пра этас і яго значэнне ў грэчаскім мастацтве. На думку Ф. Каваларыса, этас — гэта маральныя паводзіны чалавека, абумоўленыя разнастайнымі музычнымі ўражаннямі. У сувязі з этычнымі ўяўленнямі пра мастацтва ён распавядаў пра лады, мелас і гармонію старажытнагрэчаскай музыкі, заклікаючы узбуджаць у чалавеку розныя псіхалагічныя настроі і ўплываць на фарміраванне характару.

На другой лекцыі мы пазнаёміліся з творчасцю Ф. Каваларыса, які прадставіў "Transcendence" — ранішнюю песню для сола скрыпкі, прысвечаную бацьку кампазітара, а таксама "Transcendence P" для дзвюх скрыпак і віяланчэлі. На заключнай лекцыі разгледаліся некаторыя творы Я. Ксенакеса, метафізічная прырода іх вобразнай сферы.

Знаёмства з грэчаскай культурай прадоўжылася ў Беларускай акадэміі музыкі і падчас сустрэчы з паслом Грэцыі, шаноўным спадаром Панаёцісам Гумасам. Ён распавядаў студэнтам пра прыгажосць народнай грэчаскай музыкі, якая ўвабрала ў сябе мноства іншых культурных традыцый. Спадар пасол прапанаваў паслухаць песні розных рэгіёнаў сваёй краіны: арыгінальныя запісы, зробленыя ў вёсках Пелапанэса, песні цэнтральнай часткі Грэцыі — Румелі, македонскія песні і інш.

**Наталля КАВАЛЬЧУК,**
**студэнтка Беларускай акадэміі музыкі**

## "Каралева белых прынцэс"



Аўтар новай кнігі для дзяцей "Каралева белых прынцэс" Уладзімір Ліпскі добра вядомы маленькім чытачам па ранейшых творах "Пра Андрэйку Добрыка і Чорціка Дуроніка", "Клякса-Вакса і Янка з Дзіўнагорска", "Марынчына казка", "Рыгоркавы прыгоды". Новая кніжка "Каралева белых прынцэс" выйшла ў выдавецтве "Юнацтва", дзякуючы фонду Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь па падтрымцы культуры і мастацтва.

Прадмова да кнігі, якую напісаў Віктар Казько, як і павінна быць у кнізе для дзяцей, таксама казачная. Дакладней, гэта — творчы партрэт Уладзіміра Ліпскага, напісаны ў форме казкі. Сам аўтар прадмовы сціпла вызначае яе як "нязграбную казку". З ім можна паспрачацца: казка атрымалася надзіва займальная і цікавая. "На Беларусі дзеда без жартаў і хітрыкаў няма", — сцвярджае В. Казько. І далей распавядае гісторыю пра "хітрага беларускага дзеда", які быў некалі маленькім хлопчыкам і ў яго было цяжкае ваеннае дзяцінства. Таму, стаўшы бацькам, а пасля — дзедам, Уладзімір Ліпскі шкадуе і песціць сваіх дзяцей і ўнукаў. Ды і не толькі сваіх. Ён узначальвае Беларускі дзіцячы фонд, якім актыўна кіруе на працягу многіх гадоў. "Хітры дзед" спасціг "чароўную ўласцівасць" чалавечага дабра. Дабро наша таксама хітрае, яно прымушае тварыць сустрэчнае дабро".

Хітрасць свайго таварыша па творчым цэху В. Казько бачыць яшчэ вось у чым: "Дзеці і ўнукі думаюць, што ён, дзед, расказвае ім казкі. А атрымліваецца зусім наадварот. Усе казкі, апавяданні і аповесці, змешчаныя ў кніжцы "Каралева белых прынцэс" — вашы. Бо самы хітры дзед без вашай фантазіі, вашага бачання свету і жыцця няздольны стварыць іх. Ён толькі ўважліва слухаў вас, занатоўваў пачутае. І рабіў выгляд, што прыдумляе і піша ўсё сам". Сапраўды, галоўныя героі твораў У. Ліпскага яго дзеці — Ігар, Марына і ўнукі — Антон і Маша. Да таго ж аўтар сам — адзін з герояў сваіх казак і апавяданняў. Разам з унукам дзед удзельнічае ў касмічнай гульні (казка-быль "Лятаючае крэсла"), аўтар — адзін з галоўных герояў прыдумкі "Крыша паехала" і казкі-забавы "Смешная вайна".

Дар пісаць для юных чытачоў асаблівы. Ён патрабуе шчырасці і адкрытасці, асаблівай ноты даверу.

Мова твораў для дзяцей У. Ліпскага простая і ў той жа час багатая і сакавітая, поўная тонкага досціпу (казкі-забаўлянкі "Нулёк", "Папугай Огого", "Фокус", "Чорт" і іншыя).

Гэты пісьменнік надзелены асаблівым талентам — талентам разумення дзіцячай псіхалогіі. Ён умее гаварыць са сваім чытачом па-сяброўску даверліва, без павучальнай дыдактыкі, што ў сваю чаргу нараджае ўзаемны давер. Аповесці, казкі і апавяданні У. Ліпскага, сабраныя пад адной вокладкай, сталі выдатным падарункам для юных чытачоў.

**Р. АЛЕНІНА**

## У Доме літаратара

<u>18 чэрвеня а 12-й гадзіне</u> ў бібліятэцы Дома літаратара адбудзецца літаратурная сустрэча, прысвечаная 70-годдзю з дня нараджэння Уладзіміра Караткевіча.

<u>20 чэрвеня а 16-й гадзіне</u> ў Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі адбудзецца юбілейная вечарына, прысвечаная 100-годдзю Уладзіміра Дубоўкі.

ВІНШУЕМ!

# Загорская з вёскі Загор'е

## Ніне ЗАГОРСКАЙ — 60

*А знаходзіцца гэтая вёска цяпер у складзе Баранавіцкага раёна. У ёй Ніна Загорская нарадзілася 16 ліпеня 1940 года ў сялянскай сям'і. Скончыла аддзяленне журналістыкі Беларускага дзяржаўнага універсітэта. Дзесяць гадоў працавала старшым рэдактарам на Брэсцкай студыі тэлебачання. А пасля была вучоба ў Мінскай вышэйшай партыйнай школе і накіраванне адказным сакратаром у рэдакцыю газеты "Зорька". Н. Загорская працавала таксама адказным сакратаром рэдакцыі літаратурна-драматычных перадач рэспубліканскага радыё, намеснікам галоўнага рэдактара літаратурна-драматычных праграм Беларускага тэлебачання, загадчыкам аддзела навукі і мастацтва часопіса "Полымя". З 1982-га года — галоўны рэдактар рэпертуарна-рэдакцыйнай калегіі Міністэрства культуры Беларусі.*

*У друку выступае з 1958 года. Выдала кнігі паэзіі "Радар" і "Явар". Асобныя яе вершы пакладзены на музыку. Добра вядомая і як перакладчык, крытык, аўтар шматлікіх публіцыстычных артыкулаў, у якіх закранаюцца праблемы нацыянальнага Адраджэння, духоўнасці, далучэння чалавека да вытокаў.*

*З юбілеем, шаноўная Ніна Сымонаўна! Жадаем Вам і надалей нязменнай бадзёрасці, маладосці, новых жыццёвых і творчых поспехаў!*

<u>Ніна ЗАГОРСКАЯ</u>



## Птушкі памяці

●

*Бачу —*
*Жабрацтва налягло*
*На грудзі майго народа.*
*Разорамі голаду*
*Спаласавала*
*Лікі*
*Адзінокіх бабуль.*
*Чорнай хмарай бамжоў*
*Аблягло*
*Гарадскія пад'езды.*
*Самагоннай каростай*
*Запляміла*
*Чыстую*
*Спакон веку*
*Сялянскую хату.*
*Хто...*
*Хто вінаваты?!.*

### Водгулле бальшака

*Стогне Дарога.*
*Вязе*
*Грузы грахоў.*
*Світае...*
*Пачынаецца*
*Дзень Пакаяння...*

### Някруглы юбілей сябра

*Пяць і тры — не трыццаць пяць.*
*Тры і пяць — святыя лічбы.*
*Пяць і тры... Гады рыпяць.*
*Палазы гадоў не спяць.*
*Да бацькоўскае сялібы*
*Птушкі памяці*
*ляцяць.*

### Удава

*Смутак. Жалоба. Жанчына.*
*Горыч. І скруха. Без слёз.*
*Страты зязюля лічыла —*
*Як панясці за плячыма.*
*Маці. Жанчына. Узрост.*

*Сын намалюе Дарогу.*
*Брата свайго. І прастор.*
*Рукі ў Малітве — да Бога.*
*Да пракаветных Зор...*
*І ні да кога другога.*
*Сніцца: у сэрца лязом —*
*Горкае, хіжае слова.*
*...Вяжа вузельчык замовы*
*Чарак пустых пераэоў.*

### Паваенная вёска

ВЕРШ У КНІГУ МАРЫІ ЖАБІНСКАЙ "ВЫШІНАНКА"

*Мама выразала выцінанкі.*
*Недастача... А душа жыла.*
*І з пасляваеннага жытла*
*Выганялі сум паўсюль сялянкі.*

*Перад Пасхай на сялянскіх вокнах*
*Расхіналі радасць занавескі.*
*Выцінанкі, выразанкі-песні*
*Шчасце ў нашы душы,*
*ў хаты неслі.*
*...Ластаўкамі маміныя рукі*
*Над паперай царавалі:*
*харасгво*
*Дзеялі пад Тройцу, Раждзяство...*
*Дзеялі прасветла і да Яна...*
*Творчы дух — народа акрыянне.*
*Мясаедам сытным і пастом —*
*Сонца ў хатах...*
*Мудравалі над лістом —*
*Нават над газецінкай да ранку.*
*І з-пад ножніц цуда-выцінанкі*
*Выляталі — як выпырхвалі з гнязда.*
*Час — жывы. Як жыватворная вада.*

*Мамы! Нашы мамы...*
*Паміж болем*
*Столькі радасці, па Божай Волі,*
*Вы дарылі нам у нашых хатах.*
*На маленькіх вокнах, як на кратах, —*
*Выразанкі. У акопах. У хацінах,*
*Дзе сіроты, дзеці-сіраціны...*

*У сялянскіх хатах і ў зямлянках*
*Свята Духу — Сонца-выцінанкі.*

●

*Паэты! Не пішыце аднадзёнак.*
*Вам слова дадзена, як інструмент душы*
*Не пустасловіць! Не грашыць!*
*Вядзіце блаславёныя*
*прасекі*
*Праз пушчы Часу*
*Словам*
*Да Вяршынь!*
*Паэты, не пішыце аднадзёнак...*

### Падарунак Гётэ

Г ё т э падарыў аднолькавыя пёры Міцкевічу і Пушкіну. Ва ўсіх пакоях, на кніжных паліцах, над пісьмовым сталом Жэні Янішчыц — партрэты Пушкіна

*Пяро, як эстафету, геній — геніям! —*
*Каб множылася праўда ў вяках.*
*Гамер. Шэкспір і Гётэ. Пушкін. Гейнэ.*
*Міцкевіч і Багрым — у сваяках!*

*Крыніца духу. Эстафета дум.*
*Прадслава-Еўфрасіння. Цётка. Леся.*
*Нерыс. Аспазія...*
*Непадуладныя суду.*
*Жалобная сляза з бязводнага Палесся...*

*Пяро — як эстафету... Геній — геніям!*
*А над усім —*
*як голас Хірасім,*
*Чарнобыляў —*
*радок, слязіна Жэніна...*

*...Званок: "Андрэй Янішчыц"... Жэнін сын,*
*І сын Панізніка. Не халасты. Ажэнены...*

### Касмічнае светаадчуванне

*У далонях планету люляю —*
*дарагое маё немаўля.*
*Дабрынёю*
*благаслаўляю*
*І жыццём —*
*каб жывая была!*

ПАМЯЦЬ

# Ведаў бы Пушкін...

Імя Аляксандра Пушкіна ўскосна звязана з Беларуссю. Ляжыць у навагрудскай зямлі яго ўнук Пётр, які памёр немаўляткам. На Бабруйшчыне супакоіўся прах унучкі вялікага паэта Наталлі Пушкінай (па мужу Варанцовай-Вельямінавай).

Лёс і жыццё апошняй дастаткова даследаваны, ёй неаднойчы прысвячаліся артыкулы ў друку, удзячныя беларусы ўшанавалі яе памяць помнікам на могілках у вёсцы Цялуша.

Крыху менш вядома пра сям'ю, у якую прыйшла Наталля нявесткай. Між тым яе свёкар Аркадзь Варанцоў-Вельямінаў і свякруха Марыя Паўлаўна былі калісь людзьмі вядомымі. Марыя Паўлаўна была памешчыцай, ёй належаў маёнтак Вавулічы (зараз вёска Дубаўка) пад Бабруйскам. Аркадзь Варанцоў-Вельямінаў займаў уплывовую пасаду старшыні Бабруйскага міравога з'езда. Праўда, у адрозненне ад жонкі, ён "...будучы своеўласным і вельмі крутога нораву, канчаткова заблытаўся ў справах...". Магчыма да гэтага яго давяла сквапнасць. Такую выснову можна зрабіць з наступнага дакумента:

"Гэтага 1870 г. верасня 14 дня Цялушскі сельскі староста пры запрошаных старонніх добрасумленных вёскі Плавушчага моста аднадворцы Антоне Ігнатавым Адахоўскім, лесніку Кірылу Рыгоравым Брацкаве і прыказчыку маёнтка Вавуліч Аляксандры Захаравым Калчэўскім у дадатак да акта 13-га верасня сведчылі стагі сена, што стаялі ва ўрочышчы Задубенне і належалі памешчыцы маёнтка Вавуліч Марыі Пятроўне Варанцовай-Вельямінавай. Знайшлі, што статкам скаціны, які належаў вёсцы Даманова Брожскай воласці і які свавольна пасвіўся на эканамічным сенакосе 12-га верасня, праведзена разарэнне сена і страты ўчынена на дваццаць вазоў у чым подпісы нашы сведчым. Сельскі староста Васіль Іваноў."

Дакумент сам па сабе не выклікае цікавасці. Такое бывае і ў наш час: уваб'юцца блудныя каровы ў калгасны стог ці пашу і бывай! Пакуль дабяжыць пастух з пугай — страты навідавоку. Цяпер за гэта нікога не караюць, а тады...

Справа нечакана для вяскоўцаў прыняла крымінальны абарот. Міравы пасрэднік першага ўчастка Бабруйскага павета М. Траццякоў замест таго, каб разабрацца ў сутнасці справы пагадзіўся з сельскім старастам у тым, што каровы раптоўна з'елі 4000 пудоў сена і "зірнуўшы ў столь" вылічыў пакаранне: калі лічыць у возе 20 пудоў і цану за пуд добрага сена 20 капеек, то жыхарам Даманова належала выплаціць на карысць памешчыцы 80 рублёў. Сяляне былі ў роспачы ад такога гвалту.

Між тым пастух Белазерскі пісьмова паказаў: сорак восем скацін статка былі далёка ад стога і не зрабілі шкоды. Гэта маглі зрабіць каровы з стараверскіх хутароў, што вакол Бабруйска, ці з іншых вёсак у іншы час. У супрацьлегласць гэтаму леснікі прад'явілі "рэчавыя доказы": на месцы злачынства было "арыштавана" шэсць галоў статка. Ці гэтыя каровы сена, ці проста трапіліся паблізу ад патраўленага стога — следчых не цікавіла. Сваю неахайнасць у ахове панскага дабра яны вырашылі спісаць за кошт сялян.

Калі справа па маёнтку жонкі лягла на стол Варанцова-Вельямінава, то ён, як старшыня, без цяжкасцяў працягнуў праз з'езд рашэнне аб пакаранні сялян, не звяртаючы пры гэтым увагі на іх пярэчанні. Зразумела, ён ведаў, як трэба было афармляць паперы ў такім выпадку, але асабістыя амбіцыі ўзялі верх над правасуддзем.

Уладальнікі "арыштаваных" кароў Ігнат і Валенцій Мінкевічы і ўжо памянёны пастух Белазерскі ў адчаі вырашылі звярнуцца па абарону ў Мінскую губернскую па сялянскіх справах установу. У скарзе яны даводзілі, што акт патравы падпісалі асобы, якія жывуць на зямлі памешчыцы і залежаць ад яе, у той час, як сведкі з боку сялян не былі запрошаны. Сяляне шчыра пісалі: сапраўды, здараецца, што часам каровы адбіваюцца, але ж ці магчыма, каб яны з'елі 20 вазоў сена!? Нават калі памяркоўна даваць гэты корм, то і за тыдзень ім не ўправіцца...

Трэба аддаць належнае тым чыноўнікам, што засядалі ў губернскай установе, яны здолелі цвяроза ацаніць сітуацыю, успрынялі доказы пакрыўджаных вяскоўцаў і адмянілі рашэнне міравога з'езда. Умовай працягу справы вызначалася складанне акта, падпісанага сведкамі з боку сялян. Але гэта было не ва ўладзе Варанцовых-Вельямінавых. На гэтым цяганіна і скончылася...

Наталля Пушкіна выйшла замуж за Паўла Аркадзьевіча Варанцова-Вельямінава і асела з ім у Вавулічах (Дубоўцах) праз дзесяць гадоў ад азначанага выпадку. Яе свёкар па-ранейшаму быў у сіле і не вельмі шанаваў сялян, але Павел усё больш цікавіўся гаспадаркай і, неўзабаве, стаў сам кіраваць мацярынскім маёнткам. Ён шчасліва пражыў у ім з каханай Наталляй аж да яе смерці ў 1912 годзе.

У памяці бабруйчан маладыя Варанцовы-Вельямінавы пакінулі куды больш значны след, чым старыя. І значнасць гэта была не ад іх багацця, а ад дабрыні. Добрае помніцца доўга...

**Віктар ХУРСІК**

ПЕРАКЛАДЫ

# САФОКЛ ПЕРАД СУДОМ

АПАВЯДАННЕ

Ян ЛЕНЧО

Стары баіцца. Не ведае, як скончыцца судовая справа: мяркуючы па ўсяму — не ў яго карысць. Як паведамілі яму добразычліўцы, скаржнік, яго сын Іофан, шмат папрацаваў над складаннем заявы ў суд, каб была яна найбольш пераканаўчай і доказнай. Кажуць, няма ў ёй ніводнага пункта, які б не быў падмацаваны бясспрэчнымі аргументамі. Больш таго, тыя ж добразычліўцы, якія дзесяцігоддзямі захапляліся ягонымі п'есамі і натхняліся імі, паведамілі, што пэўная частка элінаў не спачувае яму. Наадварот, абураныя тым, што знакаміты паэт, імя якога з павагай вымаўляе ўся Элада, які прымножыў у свеце славу Афін і стаў вышэй боскага Эсхіла, так нізка апусціўся і ганьбіць родны край, той край, што не раз ушаноўваў яго самымі высокімі ўзнагародамі. Яшчэ ж падкінулі старому думку, што непрыязнасць членаў суда мае і іншую прычыну...

І вось у дворыку, які шчыльна агароджаны з усіх бакоў, Сафокл чакае, пакуль яго не пазавуць у трыбунал. Яму вельмі цяжка. Калі сын Іофан, як скаржнік, правядзе ў судзе сваю рэзалюцыю, стары страціць, мажліва, апошнія радасці свайго ўжо нядоўгага жыцця.

Сафокл спасціг таямніцы людскіх сэрцаў як ніхто іншы ў Афінах і таму ведае — усё, пра што нашэптвалі яму добразычліўцы, праўда. Ён цудоўна ўсведамляе, як сёй-той з самаўпэўненых, крывадушных грамадзян выкарыстае зручны момант, каб прынізіць таго, каму дагэтуль змушаны быў аказваць пашану. Акрамя ўсяго, Сафокл разумее, што "прыстойныя" грамадзяне не ўпусцяць магчымасці прадэманстраваць уласную маральную бездакорнасць.

З нецярпеннем чакае Сафокл выкліку. Вельмі яму хацелася б, каб усё хутчэй засталося ў мінулым, толькі б скончылася як-небудзь. Чаканне ён разумее, як змарнаваны час. Вунь дома ў яго ляжыць пачатая п'еса, якую павінен закончыць праз пару дзён, бо хорегас не дае яму спакою — спяшаецца яе хутчэй паставіць. Праўда, Сафоклу застаецца дапісаць усяго некалькі рэплік і выкрасліць пару пустых фраз, але як заўсёды заключная праца над п'есай дастаўляла яму нямала пакутлівых мінут. Раптам ён злавіў сябе на думцы, што час недарэчнага чакання судовага разгляду справы можна з поспехам выкарыстаць і мысленна выправіць недапрацаваныя мясціны п'есы.

Тым часам члены суда, тыя, хто сёння вынесе яму прысуд, важна прагульваюцца па судовым дворыку і робяць выгляд, што не заўважаюць старога. Сафокл толькі паблажліва і мудра ўсміхаецца: ён ведае, як будзе гучаць сынава скарга і які прыгавор прапануецца вынесці суду. Усё даволі проста — пазбавіць яго юрыдычных правоў грамадзяніна і тым самым пазбавіць магчымасці распараджацца сямейнай гаспадаркай.

У сына для такога рашэння ёсць і доказы, і аргументы. Сафокл адчувае, што можа прайграць справу. Але ж у яго якраз у гэты момант пачынаюць нараджацца вершы. Вусны шэпчуць гучныя радкі, у якіх ганец паведамляе пра Эдыпаву смерць... Шкада, чыноўнік ужо выклікае на пасяджэнне суда.

Згорблены Сафокл няспешна заходзіць у залу. Пакуль суддзі рыхтуюцца да пачатку судовага разгляду, стары не звяртае ніякай увагі на фармальнасці і дасачыняе далей паведамленне ганца. Гэтае паведамленне, як ён ужо дакладна ўяўляе, будзе нейкай кульмінацыяй у п'есе, і кожнае слова тут мае значнасць, ад яго, можа, залежыць і поспех, і няўдача твора. Суддзі, якія з прафесійнай цікавасцю назіралі за выразам маршчыністага, засяроджанага твару старога, думалі, што ён такі маўклівы і напружаны з прычыны разгляду судовай справы. Але і Сафокл заўважыў дапытлівыя позіркі чыноўнікаў, і яму карцела зарагатаць, і ён ледзьве стрымліваў сябе, каб не выбухнуць смехам і не раздражніць суддзяў. Стары нават са шкадаваннем падумаў,што дарэмна не піша камедый накшталт Арыстафана і шчыра пазайздросціў яму. Каб мог пісаць камедыі, вось бы ўжо размаляваў гэтых надзьмутых і тупагаловых дурняў! Яны ж вунь як не лопнуць ад шчасця і пыхі, што могуць вырашаць лёс таго, перад кім яшчэ нядаўна схіляліся ў нізкім паклоне...

Дзякуй богу, фармальнасці ўсе скончаны. А шкада, што так хутка: няхай бы яшчэ якіх пару хвілін доўжылася гэтая камедыя. Цяпер выклікаюць скаржніка, яго сына. Іофан самаўпэўнена разглядвае суддзяў, але пазбягае пазіраць на бацьку. "І гэта Іофан, — з горыччу разважае Сафокл, — якога я нарадзіў, якому яшчэ маленькаму расказваў розныя казкі, якому памагаў пісаць першыя трагедыі, сын, якога я больш усяго люблю... Іофан, мой сын..."

Скарга — жорсткая, бязлітасная. Іофан разгарачыўся. Словы з яго вуснаў цякуць, як вогненная лава. У іх гаворыць злосць. І нянавісць.

Сафокл — слухае. Слухае абвінавачванне, у кожным слове якога — гнеў. З гэтых слоў і складваецца вобраз чалавека — брыдкага, капрызнага старога, які страціў сваю чалавечую годнасць і апусціўся да ўзроўню самай звычайнай жывёліны, трапіў у палон самых нізкіх інстынктаў і ганебна, безразважна ім аддаўся. "Няўжо гэта я, няўжо гэта мой вобраз?!"

Здзіўлена пазірае Сафокл на суддзяў, якія трымаюцца з падкрэсленай годнасцю і выразнай пераможнасцю, прагна ловячы кожнае злоснае слова Іофана. Настрой іх яўна ўзнімаецца, расце. Яны задавальняюць свой воўчы апетыт, усё, што адбываецца, успрымаецца імі з невыказнай асалодай.

"Што для гэтых людзей я?" — не можа зразумець азадачаны Сафокл.

"...і зусім страціў розум, — ледзь не крычыць Іофан, — напрач забыў, што ў яго ёсць дзеці, сям'я. Водзіцца нават з гетэрамі, балюе з імі, распусьнічае, траціць грошы, якія належаць сям'і. Калі так будзе працягвацца і далей, мы ўсе з-за яго разбэшчанасці, транжырства збяднеем, Сафоклавы сыны і ўнукі пойдуць жабраваць..."

"І гэта я, — сумна думае Сафокл, — гэта пра мяне... — Але ж не зусім пра мяне, бо няма такога чалавека, які б быў усяго толькі часцінкаю сябе самога. Гэта ж толькі кавалачак ад мяне. Я ж з'яўляюся, акрамя ўсяго, яшчэ і аўтарам "Антыгоны", "Электры", "Эдзіпа". Акрамя таго — я проста Сафокл. Які гэта мярзотны суддзя, калі ён сілкуецца сынавымі нагаворамі, як крыважэрны звер?"

У асобе кожнага чалавека — да гэткай высновы Сафокл даўно ўжо прыйшоў і выказаў яе ў многіх п'есах — можна ўбачыць бясконцую колькасць розных людзей. Але ж суддзя судзіць толькі аднаго з іх. Сафокл спрабуе ўбачыць у адным чалавеку мноства розных, часам супрацьлеглых па характары людзей. Чалавек не можа быць толькі добрым або злым. Ён аднолькава і добры, і злы. У гэтым яго таемнасць, а, мажліва, і веліч.

Іофан прыводзіць канкрэтныя імёны. Вядомая гетэра Філіна... Тая самая, у якой збіраецца цвет Афін і якая за свае пяшчоты патрабуе заўсёды добрую плату. Або Аглааніка, гэтая бессаромная шлюха — яна нават на людзях ганарыцца, што за адну ноч абслужыла аж пецярых кліентаў. Сярод наведвальнікаў быў, вядома і Сафокл.

Сафокл усміхаецца. Цяжка не пагадзіцца. Іофан гаворыць праўду. Ён наведваў прывабную Філіну. Не будзе аспрэчваць. І наогул плаціў ён досыць шчодра. З хваляваннем успамінае праведзеныя ў яе вечары. Чытаў ёй свае п'есы, з цікавасцю слухаў яе заўвагі, бо Філіна была надзвычай адукаваная і кемлівая, і звяртала ўвагу на такія рэчы, якіх сам ён ніколі не заўважыў бы, хаця і лічыў сябе мудрым, але ж у рэшце рэшт заставаўся мужчынам, а жаночая мудрасць зусім іншая... яна зыходзіць з іншых падыходаў, адносін і ўспрымання з'яў. Таму ніякі мужчына не зможа гэта цалкам зразумець і засвоіць. Заслуга Філіны якраз у тым, што яго п'есы атрымліваюцца такімі, якімі яны ёсць: яна дасканала вывучыла характар мужчын, дзякуючы свайму прафесійнаму занятку і ў яе заўсёды было што параіць Сафоклу. Адным словам, Філіна ведала мужчын так, як толькі можна іх ведаць. "Яна заслугоўвала ў сто разоў болей таго, што я ёй даў", — разважаў Сафокл. Расчулена ўспамінаў раскошныя вячэры ў Філіны. Менавіта тут ён атрымліваў тое, чаго так прагне сэрца кожнага мастака: шчырае захапленне прыгожай і разумнай жанчынай.

Іофан працягвае гаварыць...

Яго словы нельга аспрэчваць: усё адбываецца дакладна так, як апісвае. Але ў рэчаіснасці трэба бачыць не толькі знешні бок. Галоўнае ў ёй — сутнасць. Суддзі ж ніколі глыбока не заглядваюць у сутнасць рэчаў, іх цікавіць найперш знешні бок справы.

"Вось так, сын мой..."

Калі ў Афінах даведаліся пра абвінавачванні, якія сын прад'яўляў бацьку, папаўзлі чуткі, што гэта не проста так — нібыта сам Іофан дабіваўся ўвагі прывабнай Філіны, але тая адвергла яго заляцанні і аддала перавагу старому. Сафокл ведае, што пагудкі несправядлівыя. Той ніколі не меў такіх памкненняў, заўсёды быў узорам сямейнай вернасці і добрым бацькам сваім дзецям. Вось толькі, мажліва, слыў чалавекам сухім і залішне пурытанскі настроеным, чаму і не мог зразумець і даравацъ іншым іх слабасці. Яго памылкай было тое, што ён патрабаваў дасканаласці ад чалавека высакароднага і вялікага, з прычыны яго пастаяннага імкнення да гэтай дасканаласці.

І ўсё ж сынава раздражнёнасць і зласлівасць мае іншыя карані...

Іофан скончыў прамову.

Цяпер чарга сведкаў. Яны пацвярджаюць усё, што сказаў Іофан: месцы і дні неўтаймаваных п'янак, пачастункаў, сустрэч з гетэрамі.

Але ж Сафокл гэта ведае і сам. Сын, сын... Шкадаванне перапаўняе яго. Ён спачувае сыну, вельмі спачувае.

Пасля паказанняў сведкаў суддзя запрашае Іофана выказаць свае прапановы па скарзе. Сафокл не сумняваецца, якія зараз прагучаць прапановы... Думкі яго пацвярджаюцца: сын хоча, каб старога, непрацаздольнага бацьку пазбавілі права кіраваць гаспадаркай. "Мой бацька, — сцвярджаў ён, не мае ўжо ні патрэбнай моцы, ні колішняга розуму, якім у свой час захапляліся ўсе Афіны, ад усяго засталося адно нішто, ён здзяцінеў, памяць пакінула яго, не ўсведамляе, што робіць, такім чынам, не можа адпаведна разважаць і дзейнічаць".

Твары суддзяў аж ззяюць ад задавальнення. Па іх выразу ўжо можна меркаваць, які прыгавор яны вынесуць. Сафокл сумна ўздыхае. Ужо не будзе ў яго магчымасці наведваць прыгожую Філіну, сустракацца з іншымі гетэрамі...

Суддзя дае слова Сафоклу, каб той абараняўся або адхіліў абвінавачванні.

Стомлена ўстае са свайго месца Сафокл. Ён адчувае, што прайграў. Доказы, якія прывёў Іофан, пацвердзілі сведкі, іх нельга абвергнуць. Застаецца абвінавачванне, сутнасць якога — старасць, душэўная непаўнацэннасць, што прыводзіць да непрадказальных учынкаў. Як ад усяго сказанага адмовіцца, як даказаць несправядлівасць самой сутнасці абвінавачвання? І ўсё ж нешта дзіўнае, нейкая штучнасць тут ёсць... За іх, за гэтую неадпаведнасць фактаў і разважанняў, можна зачапіцца і адстаяць сябе. Не, яшчэ не ўсё прайграна... Твар Сафокла засвяціўся радасцю.

"Афінскія суддзі, — дрыготкім голасам пачынае Сафокл, — вы ведаеце, хто я. Ведаеце мяне ўсе. Ведаеце і пра тое, што я зрабіў для нашага грамадства. Ведаеце, што я выконваў абавязкі касіра нашай суполкі, і ніхто мне не даказаў тут, што я прысвоіў хоць нейкі кавалачак срэбра. Быў я і стратэгам у вайсковай аперацыі на востраве Самос, і самы вялікі чалавек, якога нарадзілі Афіны, незабыўны Перыкл, быў мной заўсёды задаволены. Прыгадайце гэта, суддзі!"

Не проста было гаварыць Сафоклу. Часам ён нібы спатыкаўся на словах, блытаўся ў іх. Заўсёды лічыў непрыстойным заняткам пахвальбу. Да таго ж ён ведае, што на самай справе ўсё адбывалася не зусім так, як гаворыць. Пасаду стратэга ў паходзе на востраў Самос ён атрымаў, дзякуючы поспеху сваёй п'есы "Антыгона": яна так уразіла і натхніла афінян, што яны палічылі магчымым даверыць Сафоклу кіраўніцтва войскам. Добра вядома Сафоклу і яшчэ адна акалічнасць: не вызваліў бы яго Перыкл ад пасады галоўнакамандуючага і не даручыў бы функцыі парламенцёра — знешне важныя, а ўвогуле нязначныя, вайсковы паход ганебна праваліўся б і Афіны маглі пацярпець паражэнне. Але ж пра гэта суддзі не ведаюць, бо на той час былі яшчэ дзецьмі.

Сафокл працягвае гаварыць далей:

"Успомніце таксама, паважаныя суддзі, як у Афінах запанаваў культ Бога Асклепія, якому столькі грамадзян былі ўдзячны за сваё выздараўленне. Калі б не я, вы да сённяшняга дня не паважалі б гэтага Бога..."

Трошкі аддыхаўся.

"Успомніце, суддзі, колькі добрага, карыснага зрабіў я для нашага грамадства!"

І хоць Сафокл адчувае, чаго менавіта цяпер ад яго ўсе чакаюць, ён наўмысна не ўспамінае пра свае ўсе 90 трагедый, якія прынеслі яму найвялікшую славу. Не ўспамінае іх, бо гэта само сабой зразумела, а працягвае так:

"Але ж не ў гэтым справа, суддзі! Уяўляю ўсё так добра, як і вы: ранейшыя заслугі нічога не вырашаюць, гаворка ідзе аб іншым. Аб тым, як заявіў скаржнік, што я слабы духам і нават стаў дурнаватым, а таму не магу адказваць за свае ўчынкі".

Сафокл зноў прыпыніўся.

"Мяркуйце самі, суддзі, ці праўда гэта? Зрабіце для сябе вывад пасля таго, што зараз пачуеце!"

Суддзі не хаваюць свайго здзіўлення. А як здзіўлены сам Іофан! Што гэта ўсё азначае?

"О, Антыгона! Ты, дзіця сляпога старога, — куды мы прыйшлі, хто жыве ў гэтым краі..." — пачынае дэкламаваць Сафокл.

І голас яго перастае быць дрыготкім, няўпэўненым, ён робіцца моцным — куды мацнейшым, чым у Іофана. За вершамі ідзе верш, словы — як вароты да самых глыбокіх тайн чалавека.

Суддзі разумеюць: Сафокл дэкламуе свайго "Эдыпа ў Калоне", п'есы, над якой цяпер працуе і якая ўжо аб'яўлена на бліжэйшы тэатральны сезон. І суддзі ўяўляюць усё, што чытае стары Сафокл, карціны, нібы жывыя, паўстаюць перад іх вачамі.

Няшчасны стары і сляпы Эдып прыязджае з дачкой Антыгонай у незнаёмы край. Аб усім распытвае аднаго тутэйшага жыхара і даведваецца, што зусім недалёка Афіны. Ён тлумачыць сваё становішча бяздомнага і просіць дазволу пасяліцца тут. Аднак сход старэйшын не выказвае ніякага жадання задаволіць яго просьбу. Але потым прыходзіць другая дачка Эдзіпа, Ісмена. Яна расказвае пра сваркі, якія не аціхаюць у родных Тэвах, пра нялады паміж Эдыпавымі сынамі...

Вершы — захапляюць. Па ўсхваляваных тварах суддзяў можна меркаваць, як яны перажываюць за няшчаснага Эдыпа, за яго лёс.

"А цяпер прашу вас, шаноўныя суддзі, трошкі адпачыць, — просіць Сафокл, — што зробіш, стары, стаміўся ад дэкламацыі".

Яму — дазваляюць. Адпачываючы, Сафокл косіць вокам на сына і чытае ў яго вачах шкадаванне.

"Іофан, сын мой..."

Сафокл раптам пачынае ўспамінаць. З гэтых успамінаў яму робіцца зразумелым, адкуль сапраўдныя карані сынавай скаргі. Іофан змалку быў сведкам славы бацькі, поспеху ягоных п'ес на сцэне. Той неверагоднай славы, якая адчыняла яму дзверы ў самыя вышэйшыя колы грамадства. Іофану было тады гадоў 10-11. Аднойчы нехта з гацей Сафокла звярнуўся да яго сына з пытаннем, якое так любяць задаваць дзецям дарослыя: "А кім ты хочаш быць, калі вырасцеш?" І пачуў у адказ: "Я буду пісаць трагедыі, як мой тата". Дапытлівы госць пад агульны смех зноў спытаў: "А навошта?" "Таму што таго, хто піша трагедыі, усе паважаюць", — адказаў Іофан, які сёння, пасля многіх дзесяцігоддзяў, падаў у суд на бацьку скаргу.

Сафокл устаў:

"Я ўжо адпачыў, шаноўныя суддзі, і магу весці расказ далей — з таго месца, дзе скончыў. Слухайце!

Эдып адкрывае тайну пракляцця, якое выпала на яго долю, апавядае пра свой горкі лёс. Потым з'яўляецца афінскі цар. Ідзе размова з царом. Спагадлівы цар вырашае, што Эдып можа застацца ў Афінах. Хор пачынае спяваць:

"На самую прыгожую зямлю ты трапіў, чужынец..."

Суддзі — удзячны: каго ж не захопіць апяванне яго роднай зямлі?

Але прыходзіць каварны Крэон, які настойвае, каб Эдып вярнуўся ў мясціны, адкуль ганебна быў выгнаны, да родных Тэб. І калі Эдып не пагаджаецца, ён загадвае прывесці да яго Антыгону, любімую дачку Эдыпа, якая заставалася яму вернай увесь час.

У Сафокла нават задрыжэў голас... Яму зноў цяжка гаварыць, і ён просіць суддзяў дазволіць адпачыць крышку.

(Працяг на стар. 14—15)

*Штотыднёвік "Літаратура і мастацтва" працягвае друкаваць матэрыялы, прысвечаныя "Літэкспрэсу Еўропа 2000".*

Вось Ты і ўладаеш найвялікшым талентам запальваць людзкія сэрцы — "Восстань, пророк!" Адзін палымяны верш Твой варты сотняў тамоў.

А цяпер Ты — беларускі Рабіндранат Тагор. Пішы, што пішацца, у Тваіх руках усё няўміручае.

Ад усяго сэрца жадаю Табе найвышэйшага творчага ўздыму, да якога Ты ўсё больш набліжаешся".

"26 снежня 1970 г.

Дарагі братка Уладзік!

Дзякуй за ліст ад 24.XII.70 г., за віншаванне з Новым Годам і добрыя пажаданні.

Засмуціла нас вестка, што і Марыя Пятроўна і Ты пакрысе хварэеце, а часам — нават і цяжка нядужаеце.

А словы твае "Адным словам — падыйшла зіма майго веку" сцісканулі сэрца..

Зімы ў паэтаў не бывае — дух іх, і асабліва Твой, не старэе. Ты ўсё яшчэ малады Волат, Асілак, і слова Твайго, песень Тваіх чакае Бацькаўшчына, прагна чакае.

Неяк у Маскве, у 1944 годзе, выпадкова сустрэўся я на станцыі метро "Бібліятэка Леніна" з Максімам Танкам. Гаманілі пра аднаўленне Беларусі, адкуль ужо прагналі фашыстаў. Гаманілі пра беларускую паэзію і яе будучыню праз 50—100 гадоў.

"Хто застанецца незабыўным з беларускіх паэтаў?" І Максім Танк сказаў: "Купала, Колас, Багдановіч, Дубоўка"...

А надоечы я задаў такое ж пытанне аднаму з беларускіх літаратараў — "Хто застанецца незабыўным з беларускіх паэтаў у 2050 годзе?" І ў адказ пачуў тыя ж імёны.

Дык ці ж маеш Ты права думаць пра сваю зіму? Ты павінен сказаць яшчэ сваё вялікае слова, стварыць яшчэ не адну няўміручую "Шыпшыну". Братачка дарагі, пішы вершы, ніхто лепш не напіша. Усе чакаюць, Будучыня чакае, моладзь чакае, каб павучыцца ў Вялікага Майстра, у Старэйшага, самага таленавітага.

Перамажы самога сябе, свой часовы настрой. Пішы новыя вершы. Побач з сумам, гаркатой, палынамі будуць у іх прарочыя радкі, няўмiручае, самае Тваё істотнае, крышталёвае, матэрыялізаваныя ў слова душа, талент, самае лепшае.

Не маўчы, дарагі Уладзік.

Ласкава Цябе цалую.

Твой Гурык."

"8.VII.71

Вёска Дварэц на Дняпры, Рэчыцкага раёну.

Дарагі, любы Уладзік!

Ад усяго сэрца віншую Цябе з Днём нараджэння, у які мо і прыйдзе да Цябе мой ліст.

Жадаю Табе, братка, перш-наперш трывалага здароўя, каб не чапіліся да Цябе ніякія хваробы, ні цела, ні духа.

І каб быў Ты заўсёды на Узвышшы, маладым і мудрым, каб нішто з мінулай гаркаты не засціла Табе залатую будучыню нашай Бацькаўшчыны.

І каб стварыў Ты ня рэквіем беларускаму слову, а песню песняў, няўміручы паэтычны гімн нашай будучыні, нашага народу, яго Росквіту, Шчасця і Славы.

Многа прыгожага падараваў Ты Беларусі. А падаруеш яшчэ больш! Як Байран, як Пушкін, як Есенін, як Міцкевіч, як лепшы з лепшых беларускай паэзіі, літаратуры.

Моцна Цябе абыймаю, цалую.

Вітання ласкавага і віншавання Марыі Пятроўне.

Твой Гурык."

"10 ліпеня 1973 г.

Дарагі Уладзік!

Ад усяго сэрца віншуем Цябе з днём нараджэння. "А дні бягуць, а дні бягуць угрунь"... Не агледзішся, а ўжо ўсе сівыя валасы, толькі душа не сівее, больш трывалая, чым цела. Пялёсткі пачуццяў і думак застаюцца жыць у прыгожым Слове. Ты ўзняў нашае Беларускае Слова на п'едэстал Няўміручасці, Харашства, сапраўднай Паэзіі.

Дык жадаем Табе ўсё новага і новага ўздыму, вялікага хвалявання, новых вялікіх твораў.

А перш-наперш трывалага здароўя і Табе і Марыі Пятроўне, мудрай радасці, шчасця".

"21.VII. 73

Дарагі, любы, братка Уладзік!

Сардэчна дзякую Табе за два лісты ад 16.VII.73, за Твае ласкавыя адносіны да Максіма, яго творчасці, лёсу, да яго сям'і.

Вялікае гэта свята для родных Максіма. А Твае пажаданне аб хуткім складанні поўнага збору твораў — цудоўнае, але, мусіць, пакуль што недасяжнае.

Успомніў Ты "Строму" і паўстаў Твой вобраз таго часу як жывы, — столькі ў Табе было добрага ў той сумны кругабег.

Гэта ж было 50 год назад!

...Пра дзевасіл чытаў. Першыя ідэі часта застаюцца невядомымі...

Абыймаем Цябе і Марыю Пятроўну.

Прывітанне Вам ад Л.В., усей нашай сям'і і мяне.

Твой Гурык."

5 мая 1970 г. Г. Гарэцкі быў у Маскве, дзе сустрэўся з сябрам. Яны вырашылі сфатаграфавацца і праз некаторы час У. Дубоўка прыслаў гэты здымак, на якім з сумным гумарам зрабіў надпіс:

***"Ай, дзяды! Гляньце, колькі на іх сівізны!***
***А нядаўна ж былі маладымі яны:***
***Удваіх накруцілі сто сорак гадоў...***
***Застаецца капа да двух круглых вякоў.***
***Паднацісні́м, браток, ды... ў Заціўшны Куток...***

*Масква. Ул. Дубоўка".*

Г. Гарэцкі свае кароткія ўспаміны пра некаторыя сустрэчы з У. Дубоўкам завяршае, углядаючыся ў гэты фотаздымак:

"З фотакарткі ўзіраецца мудры Чалавек, з ласкавым поглядам маладых вачэй, з пышнай сівой барадою і добрай чупрынай сівых валасоў.

Здаецца, што гэта Чараўнік Жыцця, пераапрануты Юнак, які пазнаў усе таямніцы жыцця і не згубіў ні веры ў яго, ні цікавасці. Трагічную згубу сына Аліка, які падарваўся на міне, Уладзімір Мікалаевіч і Марыя Пятроўна перажывалі цяжка і доўга, але мужна.

Дубоўка праз усё жыццё пранёс нязгасны аптымізм, любоў да людзей і прыроды, да новага ладу жыцця, да ўсяго Прыгожага, паэтычнага, да Беларусі, да беларускага слова, да Чалавека:

***"А колькі б дзе ні вандраваў,***
***хоць добра ўсюды і прыгожа, —***
***мяне цягнула да Пастаў,***
***хацелася пабыць ля Доўжа"***
1958

***"У песнях мне шумеў чарот***
***пра нарачанскія азёры.***
***У казках казачны народ***
***насіў лятункі аж на зоры...***
***Які б цяжар ні быў калі,***
***на сэрцы гаркага якая,***
***ад гэных песень і быліц***
***яны крышыліся, знікалі"...***
1958

Творчы імпэт збіраўся ў душы Дубоўкі дзесяткамі год і ён выбухнуў полымем пасля ўзвароту на Беларусь. Але пошукі літаратурных жанраў даліся Дубоўку не адразу і нялёгка. Мне здаецца, што найбольш яскрава выявіліся яны ў "Пялёстках" і "Казках", у грамадзянскай лірыцы.

Зарана адышоў Дубоўка ў "Заціўшны Куток", не сказаўшы свайго велічнага і апошняга слова".

**Радзім ГАРЭЦКІ**

адзін чалавек сярод прысутных застаўся абыякавым — нібы п'еса яго зусім не кранула... І гэтым чалавекам быў ягоны сын, Іофан. Пазіраючы на сына, Сафокл зноў ператварыўся з магутнага, легендарнага Эдыпа ў звычайнага, згорбленага старога, падсуднага.

Нейкі момант Сафокл маўчыць. Але вось чуецца яго рашучы, моцны голас:

"А зараз вырашайце, афінскія суддзі, ці можа чалавек, які напісаў гэтыя вершы, быць нямоглым прыдуркам!"

Суддзі ідуць параіцца. Сафокл стомлена апускаецца ў крэсла. Ён зусім знясілены ад дэкламацыі вершаў. Але ўспаміны не даюць яму спакою...

Калі Сафокл атрымаў першую прэмію за сваю апошнюю п'есу, усе яго віншавалі. Дома ў гонар гэтай падзеі наладзілі прыём. Дзіўна, але нават Іофан віншаваў бацьку. Але ў добрых словах, голасе сына Сафокл, які вывучыў таямніцы чалавечай душы, адчуў усё тую ж згубную зайздрасць і нянавісць.

Сафокл дасканала ведаў трагічныя лёсы многіх людзей даўняга часу, увекавечыў неперамажную моц лёсу ў жыцці чалавека з яго бездапаможнасцю. Зараз яму здавалася, што перад ім разгортваецца сапраўдная трагедыя таго, каго ён так шчыра любіў...

"Іофан, сын мой..."

Суддзі вяртаюцца на свае месцы. Раіліся яны не дужа доўга. Пэўна, адразу ж прыйшлі да згоды. Старшыня аб'яўляе прыгавор: Сафокла апраўдваюць... Сафокл усім дзякуе, нізка кланяецца і цяжкім старэчым крокам павольна пакідае залу. Ну, вось, усё скончылася, выйграў... І далей у яго будзе магчымасць сустракацца з Філінаю, адорваць яе, прымаць яе ўдзячнае захапленне. Так, ён выйграў працэс судовы і шчаслівы, што ўсё абышлося. Але ж Сафоклу шкода сына, які застанецца ў ценю яго славы і будзе яшчэ больш няшчасным, чым іншыя, бо не рэалізаваў свае мары. І Сафокла ўжо зусім не радуе ягоная перамога.

Ён ідзе вячэрнімі Афінамі, якія ўслаўляюць яго і якія ўслаўляе ён сам. З гэтым горадам будзе назаўжды звязана і яго, Сафокла, імя. Слава — неўміручая, яна непадуладна часу, жыве тысячагоддзі. Але ж чалавек, які зазірнуў у самыя патаемныя куточкі людскіх сэрцаў, не можа не адчуваць вялікую спагаду да іншых, нават да тых, хто жадае яму благое... І хто ведае, ці не таму так глыбока ён вывучыў людзей, што валодае боскім пачуццём спагады, міласэрнасці? Мабыць, існуе такое кола, якое, не мае ні пачатку, ні канца, у якім блукае кожны, хто нарадзіўся ў ім, з якога няма выйсця. І пакуль Сафокл ідзе па вуліцы і ветліва адказвае на паважлівыя прывітанні афінян, ён, стары, разважае, што гэтае кола — кола пакут, але яно ж і кола неўміручасці.

"Іофан, сын мой... як бы я табе памог?"

**Пераклад са славацкай мовы**
**Яўгена КАРШУКОВА**

# Трансфармацыя

*(Працяг. Пачатак на стр. 5)*

Гэтакі застыглы Край у XXI стагоддзі чакае цывілізацыйны шок. Бо — што значыць цывілізацыя? Гэта дынамізм, рух, падсвядомая агрэсія (акурат так, не іначай) — і рана ці позна, хоць бы з прычыны геапалітычнага знаходжання, а — рушаць стаячыя воды Беларусі. І чым пазней, тым страшнейшай паводкай.

Структура сваяцка-сямейнага клана незвычайна трывалая, бо трымаецца на сталым і перманентным змаганні з ворагам — каб суседні клан не адабраў "мой" кавалак. Беларусы не любяць багатых (у гэтым мы падобныя да рускіх), але беларусы і люта ненавідзяць бяднейшых за сябе (у гэтым мы абсалютныя антыподы рускім). Беларусы сёння гэта нацыя дробных уласнікаў — ні багацця, ні галоты. Менавіта дробнасць — асноўная нацыянальная рыса: дробная ўласнасць, дробная палітыка, дробная культура, дробныя мары, дробныя парахункі і дробнае жыццё. Але — калі знікне з поля зроку хоць які вораг?! Тады клан... не ведае, што рабіць. Грызе сам сябе і нарэшце гіне ў аднначассе, на працягу аднаго пакалення.

А еўрапейская цывілізацыя пры ўсім дынамізме і падсвядомай агрэсіі мае такую рысу, што нічога не дамагаецца гвалтам. Хочаш жыць, "як у Еўропе" — добра. Не хочаш? Яшчэ раз добра... "Жыць у Еўропе", аказваецца, гэта — думаць і рабіць, як у Еўропе, а не — мець такія ж "тавары і паслугі". Нікога не цікавяць там "асаблівасці нацыянальнага менталітэту", "цяжкая гістарычная доля" ці "несвядомая свядомасць". Дарэчы, да "беларусізацыі" Еўропа адносіцца з такой самай насцярожанай агідай, як да "русіфікацыі" ці "саветызацыі". Бо гэта калектывізм, гэта прыярытэт клана над чалавекам. Еўрапейская ж цывілізацыя ад часоў Марціна Лютэра і пазнейшых каталіцкіх пазітывістаў накшталт Джаванні Боска збудавана на прыярытэце чалавека над кланам, на шанаванні права меншасці. Пад гэтае права трапляюць і прыватная ўласнасць, і дэмакратычныя свабоды, і абмежаванне ўлады і дзяржавы канстытуцыйным правам, і нават... нацыянальна-моўныя клопаты... Але нашай кланавай "свядомасці" гэта на сённяшні дзень — цёмны лес, мы так і перасыпаем з пустога ў парожняе "супольнасць", "адказнасць", "патрыятычны абавязак", "грамаду", "талаку", "калектыў", "народ" etc.

## ПРАБЛЕМА КУЛЬТУРЫ

Найпрасцейшая дэфініцыя культуры гэта неабавязковая чалавечая дзейнасць. Ад недахопу культуры ніхто яшчэ не памёр — як ад недахопу хлеба. Толькі — ці такое жыццё можа зрабіцца больш якасным? Мы ніяк не можам зразумець, што не для таго літаратура і мастацтва, каб павялічваліся надоі і ўраджаі. Культура — гэта інвестыцыя не ў тавар, а ў чалавека. Гэта трохі падобна на тое, як расце лес...

Абыякавыя да нас Злучаныя Штаты і куды бліжэйшая Германія хоць і багацейшыя краіны свету, але неяк не знайшлі сродкаў, каб мець міністэрства культуры — і тым не менш сталі гігантамі і ў культурным накірунку. У бедных жа народаў, у тых жа беларусаў, абавязкова мае быць міністр культуры са сваім міністэрствам і яго перыферыйнымі прычындаламі — з такім разуменнем культуры, што правільней менаваць яго міністрам забаў і адпачынку, міністрам дажынак і славянскіх базараў.

Праблема знікнення нашай культуры не абмежавана праблемай знікнення адной літаратурнай мовы. Бяда ў тым, што наш духоўны ўзровень так і затрымаўся недзе там, перад вайной 1914 года. Скажам, на літаратурную творчасць мы па-ранейшаму глядзім як на абавязак служэння — клану ці Айчыне, апазіцыі ці ўладзе, ці хоць бы сваёй "незалежнай" літаратарскай "вольнай суполцы". Не захапляемся словам як такім, не шануем нават свайго подпісу і свайго слова — і нехта дасць веры, што шануем чужое?! Прымітывізм і хамства растуць на адным полі. Духоўны жабрак заўжды патэнцыяльны агрэсар. "Служэнне народу (Айчыне, ідэі etc)" непазбежна вядзе да жабрацтва, а жабрацтва — да агрэсіі супраць цэлага свету. І гэта пад "талерантным" лозунгам "Нам і так добра!"...

## ПРАБЛЕМА ЧАЛАВЕКА

Калі шчыра, то чалавек можа мець толькі адну сапраўдную свабоду — свабоду выбару. Як толькі зроблены які-кольвек выбар, далей на галаву высыпаюцца адны абавязкі. Таму лепш не быць беларусам — занадта шмат гэта цягне абавязкаў і не дае ніякага прасвету, не гаворачы пра карысць.

Адпачнём хвіліну і... пагаворым пра "полякув гродзеньскіх" — для ілюстрацыі праблемы. Гадоў дзесяць спрабуюць яны збудаваць сваю кадравую моц шляхам высылання "млодзежы польскей" на вышэйшыя вучэльні ў Польшчы. І што? Дзяўчаты хутка ідуць замуж у багацейшай Рэчы Паспалітай — і толькі іх потым на Крэсах і бачылі! Хлопцы, праўда, часам вяртаюцца, не ўсе валяць проста на Захад і ажно за Вялікую Салёну Ваду з занядбанай Беларусі. Восенню 1997 года прафесар NN з Варшавы ўсё дапытваўся, як гэта так, што з шасцідзесяці сямі абсальвэнтаў вярнулася працаваць у "звёнзку" і "будаваць Польшчу на Беларусі" толькі... два? Ніяк прафесар не даваў веры, што польская інтэлігенцыя была выбіта ў 1939-45 гадах, рэшткі выехалі ў наступныя дзесяць гадоў, а засталіся... такія, як усе. А здавалася, як гэта проста — Польшча дапаможа. Натуральна, дапамагае. Але — што атрымаецца з тае дапамогі, залежыць выключна ад тутэйшага чалавечага матэрыялу.

Дарэчы, тое ж датычыцца спадзяванняў на "помощь России" "паважаных ветэранаў усіх войнаў" і "сопляков" з РНЕ. А зрэшты — і спадзяванняў "адраджэнцаў" на дапамогу Еўропы... у справе беларусізацыі. У. Някляеў, як вынікае з яго нядаўняга інтэрв'ю "Czasopisu", расчараваўся ў еўрапейскай дапамозе беларусізацыі на... другім месяцы знаходжання ўсяго толькі ў той самай Варшаве.

Каб дагнаць час, беларусы мусяць зрабіцца, прынамсі, роўнымі бліжэйшым суседзям. Якасцю асобы — а не шчыльнасцю клана. Напрыклад, земляроб не вытрымае канкурэнцыі з местачковым гандляром ці кваліфікаваным фабрычным работнікам. На зямлі жыць цяжэй — працуе земляроб рукамі, а не галавой. А медыцына сцвярджае, што любы малаўжываны чалавечы орган дэгенерыруе, атрафіруецца — а мозг у першую чаргу. Мы паміраем у нейкім бяспамяцтве, у летаргічным сне штодзённых клопатаў.

Часамі ўсплывае тое адвечнае пытанне: як доўга вытрымае Рэспубліка Беларусь у сітуацыі чорнай дзіркі Еўропы? Што ж, пару пакаленняў яшчэ будзе мець — пакуль не распаўсюдзяцца натуральным шляхам веды пра іншы чалавечы побыт, пра цэлы той навакольны свет, пра іншы спосаб жыцця, а не тыранію і рабства.

І яшчэ дзве высновы:

1. Пачатак XXI стагоддзя. Беларус — носьбіт і абаронца беларускай часткі культуры ў агульнасусветнай цывілізацыі.

Трэцяя фаза нацыянальнай ідэі — пошук свайго месца на свеце і прырост папуляцыі з уласнай культурнай свядомасцю.

2. Канец XXI стагоддзя (калі нехта дажыве). Беларус — творца беларускай часткі культуры ў агульнасусветнай цывілізацыі.

Чацвёртая фаза нацыянальнай ідэі — уваход у сусветную культуру і пашырэнне творчаздольнай папуляцыі.

## НОВЫЯ ПАКАЛЕННІ

Новыя пакаленні будуць мець тыя ж праблемы, што і мы. Толькі будзе іначай, ім будзе лягчэй — зрэшты, як і нам за пакаленнем нашых бацькоў. Але — ці значыць гэта, што мы свой час і сваё жыццё змарнавалі? Не думаю. Канешне, у сэнсе бесклапотнага ціхага існавання змарнавалі шмат, бо гэтага проста не мелі, а самыя спрытныя, каторыя стараліся "нашым і вашым", мелі нядоўга — цяпер невядома, каму выйшла горш — але ж гэта было такое "марнаванне", дзякуючы якому менавіта наступныя пакаленні крочаць на цэлую дыстанцыю далей.

І будзе гэта ўжо не з абрыдлымі ахвярамі і бесталковым гераізмам, але з падвойнай карысцю — для сябе і для Айчыны.

Айчына тады мае будучыню, калі яе грамадзяне маюць будучыню. Хіба гэта коратка і выразна тлумачыць пададзеныя зломы, завароты і меандры беларускага Лёсу.

*(чэрвень, 1998 — кастрычнік, 1999)*
*г. Гродна*

**Калектыў рэдакцыі часопіса "Бярозка" выказвае спачуванне намесніку галоўнага рэдактара Алесю БАДАКУ ў сувязі з напаткаўшым вялікім горам — смерцю бацькі.**

# Цэпеліны "Новае неба"

Сёння беларускай рок-музыцы, як паветра, патрэбна агульная кансалідуючая творчая праца, ажыццяўленне агульных канцэртных ды фанаграфічных праектаў. Такое супрацоўніцтва, апроч іншага, павінна генерыраваць новыя творчыя ідэі і прыцягваць да іх увагу ўсё новых і новых беларускіх і замежных слухачоў, прадзюсераў ды мецэнатаў. Музыкі разумеюць неабходнасць новых музычных ідэй. Таму і з'яўляюцца такія неардынарныя з'явы, як праект "Песнярок" з каверамі вядомых песень ансамбля "Песняры", калядны праект "Святы вечар", супольны праект розных беларускіх артыстаў "Народны альбом" і альтэрнатыўныя "Вольныя танцы"...

У рэчышчы пошукаў арыгінальных музычных ідэй, новага гучання і новы кампакт-дыск "Цэпеліны" гурта "Новае неба" ды яе лідэра рок-спявачкі Касі Камоцкай. Але адразу трэба зрабіць удакладненне: у якасці акампаніруючага ансамбля тут выступаюць сола-гітарыст В. Корань, бас-гітарыст А. Паўловіч, бубнач А. Быкаў — больш вядомыя слухачам як індытрыо "Уліс". Ад "Новага неба" ў запісе "Цэпелінаў" бралі ўдзел, акрамя Касі, Юля Глушыцкая (віяланчэль) і Лявон Вольскі (дадатковы вакал).

Відавочна, што гэты творчы альянс і стаў той ідэяй, вакол якой закруціўся праект "Цэпелінаў". Музыкі-"ўлісаўцы" забяспечылі "цэпелінаўскі" шчыльны гітарны гук альбома, а Кася і яе сябры па "Новым небе" — вакальныя партыі ды акустычна-інструментальны карунак некаторых кампазіцый альбома. Напрыклад, такіх, як знакамітая кабарэтова-тэатралізаваная "Котка", што створана на верш А. Глобуса. Дарэчы, паэтычныя прыхільнасці Касі Камоцкай на альбоме вельмі заўважныя і акрэслены колам знаных аўтараў "першай беларускай газеты з рысункамі" — "Нашай Нівы". А гэта вершы Адама Глобуса, Таццяны Снітко, Анатоля Сыса, Міхала Анемпадыстава ды польскай нобелеўскай лаўрэаткі В. Шымборскай у паэтычнай версіі А. Камоцкага. У гэтым сэнсе К. Камоцкая не здраджвае сваім прыхільнасцям і аддае перавагу стварэнню паэтычных кампазіцый, своесаблівых мона-спектакляў на вершы знакамітых беларускіх і еўрапейскіх паэтаў: "Бомба" паводле В. Шымборскай, "Новае неба" на верш А. Глобуса, "Месяц Верасень" на верш Л. Сом.

Але на альбоме ёсць і такія творы, якія смела можна аднесці да ўзорных у беларускім рок-н-роле. Цвік альбома — жорсткі гітарны драйв і кантрастнасць кампазіцыі ў галоўным творы альбома — у "Цэпелінах", закліканых нагадаць і "ледзепелінаўскую" рок-легенду, і легенду паветраплавання — графа Фердынанда фон Цэпеліна, угодкам пералёту якога і прысвячаецца згаданы кампакт-дыск.

Грунтоўнасцю задумы адрозніваецца і "Восеньская калыханка для краіны" (верш Т. Снітко), якая не толькі не закалыхвае, але тое і робіць, што імкнецца разбудзіць, растрывожыць сумленне тых, хто пакуль спіць, але каму яшчэ неабыякавы лёс "краіны ў барацьбе" ды "спадарыні зямелькі" — Беларусі.

Гітарыст ды саўнд-прадзюсер альбома В. Корань ім-кнецца зрабіць "Цэпеліны" цэльнымі па гукавой канцэпцыі ды разнастайнымі па музычнай афарбоўцы. Таму ў "Калядцы" гітара Кораня нагадвае дуду — гэты наш нацыянальны адпаведнік шатландскай валынкі. У тытульнай кампазіцыі "Цэпеліны" гук гурта адпавядае альтэрнатыўным крыніцам сіетлаўскага "гатунку", а вось у "Ластаўцы" Вячаслаў, на жаль, цытуе сам сябе, ужо перыяду супер-хіта "Радыё "Свабода"... З гэтай раскладкі, з вялікай доляй упэў-ненасці, можна меркаваць, што новы альбом "Уліса" будзе ў нечым падобным на "Цэпеліны". Прынамсі, па гукавой архітэктуры...

Крытыка і слухачы даўно прызналі Касю Камоцкую, "Новае неба" ды "Уліс" за беларускія мега-зоркі, якія маюць свае сталыя слухацкія аўды-




торыі, свае нязменныя творчыя прынцыпы ды канцэпцыі. З гэтага вынікае дуалізм праграмы, якая створана рок-спявачкай, блізкай да бардаўскай песні, але для аматараў незалежнага альтэрнатыўнага рока. Ці, калі падабаецца, наадварот. А такая раздвоенасць не спрыяе стварэнню арганічнасці гэтай працы. Таму пройдзе яшчэ нямала часу, пакуль мы зразумеем дарэшты, што важнейшае для слухачоў "Цэпелінаў" — выкшталцонасць вакалу ды кампазіцыі Касі, ці дынамізм, драйв "Уліса".

А да таго часу слухаем гэты роўны, моцны, як грукатматораў дырыжабля, кампакт-дыск. "Цэпеліны" ў душы, "Цэпеліны" ў небе...

**Анатоль МЯЛЬГУЙ**

# Суфлёр

ПАДКАЗКІ—АНОНСЫ—ПАРАДЫ АД "ЛіМа"

**ЭКРАН**

**Беларускае тэлебачанне**

*18 ліпеня, аўторак, 9.10* — "Тэлевізійны дом кіно" прадстаўляе прызёраў міжнароднага фестывалю "Залаты віцязь-2000".

*16.45* — "Купалаўцы: погляд праз час", тэленарыс да 80-годдзя Нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы.

*21.50* — "Шагал, Шагал...", спектакль Беларускага дзяржаўнага акадэмічнага драматычнага тэатра імя Якуба Коласа.

*22.55* — госцем "Музычнага салона" Элеаноры Язерскай будзе кампазітар Ігар Лучанок.

*19 ліпеня, серада, 16.00* — "Ёсць на свеце старана такая", тэленарыс да 600-годдзя горада Валожына.

*20 ліпеня, чацвер, 8.15* — тэлефільм "Замкі Беларусі".

*22 ліпеня, субота, 8.00* — у "Кнігазборы" пра "Подых навальніцы" Івана Мележа, аднайменны фільм і пра сустрэчы з пісьменнікам раскажа артыстка Зінаіда Бругарская, пра "Слоўнік іншамоўных слоў" у 2 тамах — ягоны складальнік, доктар філалагічных навук Аляксандр Булыка. Апрача таго, гледачы пазнаёмяцца з кнігай С. Смайлза "Самаразвіццё". Дарэчы, як сказалі ў рэдакцыі літаратурна-драматычных праграм, такі ранні эфір праграмы будзе толькі на наступным тыдні. Далей вернецца звычайны час — а 12-й.

*23 ліпеня, нядзеля, 15.10* — "Беларускі дом" прапануе тэлевандроўку ў Тураў з нагоды 980-годдзя гэтага старажытнага горада, знаёмства з вышывальшчыцай Кацярынай Суржык з Лоева, што на беларуска-ўкраінскай мяжы, і з гарадзенскім мастаком Міколам Лук'янавым, а таксама расповед пра адну з самых старых у Беларусі Добрушскую папяровую фабрыку.

**ВІДЭАКЛУБ ТБМ**

*15 ліпеня, субота, 18.00* — фільмы Петры Прохазкавай і Яраміра Штэціны "Ніхто нічога не мусіць чуць" пра веснавыя падзеі 1999 года ў Беларусі і "Адваротны бок свету" снежаньскія падзеі таго ж года ў Чачні.

**РАМПА**

Калі ёсць грошы, то можна схадзіць на гастрольныя спектаклі санкт-пецярбургскага тэатра імя Ленсавета.

*15 і 16 ліпеня* — "Кароль, дама, валет" У. Набокава.

*17 і 18* — "Самадуры" К. Гальдоні.

*19 і 20* — "Жак і ягоны пан" М. Кундэры.

*21 і 22* — "На тлумным месцы" А. Астроўскага.

*23 і 24* — "Калігула" А. Камю.

## Беларуская нацыянальная школа-гімназія N 111

**ЗАПРАШАЕ НАВУЧЭНЦАЎ У І—11 КЛАСЫ І ПРАПАНУЕ:**

- ❑ паглыбленае вывучэнне англійскай мовы з падрыхтоўчага класа
- ❑ другую замежную мову — нямецкую — з 6-га класа
- ❑ вывучэнне на выбар адной са славянскіх моў (балгарская, польская, сербская)
- ❑ фізіка-матэматычную плынь з 10-га класа
- ❑ навучанне асновам камп'ютэрнай граматы
- ❑ заняткі ў спартыўным комплексе і басейне
- ❑ навучанне музыцы (фартэпіяна, баян, гармонік, цымбалы, дудка, флейта ды шэраг іншых).

**НА БАЗЕ ШКОЛЫ-ГІМНАЗІІ ПРАЦУЕ ЎЗОРНЫ ФАЛЬКЛОРНЫ АНСАМБЛЬ "ДУДАРЫКІ"**

*Беларуская нацыянальная школа-гімназія знаходзіцца ў Мінску на вул. Васняцова, 10.*

*Па даведкі звяртайцеся праз тэл.: 245-01-33, 245-04-51, 245-21-37.*

## Сярэдняя школа N 84

З паглыбленым вывучэннем матэматыкі

**ЗАПРАШАЕ ЎСІХ, ХТО ЖАДАЕ АТРЫМАЦЬ АДУКАЦЫЮ НА РОДНАЙ МОВЕ**

У беларускіх класах школы працуюць настаўнікі вышэйшай і першай катэгорыі.

*Месціцца школа ва Уруччы на вул. Панамарова, 11. Па даведкі звяртайцеся праз тэл.: 286-81-00, 286-81-50.*

# Смех — не жартачкі

*Дзве беларускія вёскі, Малыя і Вялікія Аўцюкі, іх жыхары аўцюкоўцы аб'явілі сябе сталіцай смеху, жартаў, анекдотаў. Кінулі выклік гарадам Габрава ў Балгарыі і Адэсе на Украіне. 14, 15, 16 ліпеня тут адбудзецца III Усебеларускі фестываль народнага гумару "Аўцюкі-2000". Пройдуць конкурсы "Хто ў хаце гаспадар", "Гуляй душа з усмешкай", "Гудзець дык гудзець", "Анекдот — у народ". На ўзлеску пад дубамі, ля рэчкі Закаванкі, можна пабываць на старажытным кірмашы, а калі пашанцуе, то і выйграць пеўня вясковага ці куру гарадскую, дыпламаванага барана ці ганарлівага парсючка. Ладзіцца казачны гарадок дзіцячых забаў. Можна набыць кнігу Уладзіміра Ліпскага "Аўцюкоўцы" і пакатацца на кані "Ліпскі", паглядзець жаночы футбол вясковых каманд, пакаштаваць квасу з аўцюкоўскага бульбулятара, сустрэцца з мудрымі і вясёлымі каласкамі ды калінкамі, якія вечна гаруюць і заўсёды жартуюць.*

*Гасцямі фестывалю будуць кампазітар Ігар Лучанок, спявак Іван Краснадубскі, парадысты Уладзімір Радзівілаў, Георгій Волчак, тэатр "Хрыстафор", паэты Генадзь Бураўкін, Сяргей Законнікаў ды шмат іншых творчых асоб. Едуць замежныя дэлегацыі, творчыя калектывы з усіх абласцей Беларусі і г. Мінска. Трапіць на фестываль можна праз прыгарад Аўцюкоў, раённы цэнтр Калінкавічы, але пры гэтым абавязкова трэба прайсці праз "Вясёлую мытню", дзе ад вас запатрабуюць валюту — дасціпны жарт ці анекдот, выдадуць візу і паставяць пячатку на любую частку цела.*

*Арганізатары фестывалю гумару Міністэрства культуры рэспублікі, Гомельскі аблвыканкам, Калінкавіцкі райвыканкам і Беларускі дзіцячы фонд. Ім — давер. У іх і правер, што не зразумей.*

*Калі будзеце ехаць у Аўцюкі — забудзьце пра мацюкі. Бярыце добры настрой ды мех для смеху.*

Уладзімір ЛІПСКІ

### Дзіўныя сны

Веру, дзіўныя сны бачаць каласкі ды калінкі ў Малых і Вялікіх Аўцюках.

Васілю Сонінаму снілася, што ён ружы касіў касой і насіў ахапкамі сваёй залётцы.

Міша Зосін прысніў, што да яго ў хату прыйшла спявачка Варум і прызналася: "Міша, я ўся твая!.."

Хлопцы сустрэліся, раскалі свае сны. Раптам Вася і кажа:

— Міша, чаму мяне не паклікаў, як Варум да цябе прыходзіла, хаця б паўзіраўся зблізку.

— Вася, я забег да цябе, а жонка сказала, што ты пайшоў ружы касіць...

Дзіўныя сны, веру, могуць прысніцца толькі дзівакам, на якіх, кажуць, трымаецца ўвесь свет. І Аўцюкі таксама.

### Практычныя аўцюкі

Паслалі аўцюкоў, мужа і жонку, выкасіць траву на той паляне, дзе будзе праходзіць фестываль.

Паехалі сельсаветчыкі праверыць, як аўцюкі выканалі заданне. Глядзяць, і вачам сваім не вераць: паляна выкашана лапікамі, падобна на жырафу. Абураюцца:

— Што робіце?.. Чаму астатнюю траву не косіце?..

— Яе, каласок, наша карова есці не будзе...

### Не зразумелі...

Два аўцюкі здурнелі, укралі веласіпед у мазыраніна. Гоняць яго ў сваю вёску. Раптам адзін кажа:

— Не магу болей. Ногі адвальваюцца.

Яго напарнік па зладзействе прызнаецца:

— А ў мяне рукі адвальваюцца...

Аказваецца, як паехалі пад гару, пярэдні напружана націскаў на педалі, а задні — тармазіў, баяўся, што пакоцяцца ўніз...

### Аўцюкі ў Пекіне

Дайшло ўжо да таго, што аўцюкі ў Кітай трапілі.

Як было?

Паехалі два аўцюкі ў Маскву. І селі не ў свой поезд. Праспаліся, глядзь у акно, — Пекін.

Выходзяць на перон. Іх радасна сустракаюць кітайцы:

— Здарова, аўцюкі!

Прыемна аўцюкам, што іх пазналі ў Пекіне, а яны дзівяцца з кітайцаў:

— Чаго вы так пазажмурваліся? Сонца ж няма...

### Хто лепш брэша

Сустрэліся на фестывалі аўцюковец, спаравец і габравец. Аўцюковец — тоўсты, спаравец — тонкі, а габравец — лысы.

Габравец прызнаецца:

— Гэта я, сябры, так злысеў на фестывалі ў Аўцюках. Як толькі смешна робіцца, вырываю валасіну.

У спараўца свая споведзь:

— А я ад смеху так схуднеў на тым фестывалі, аж кішкі да рэбраў прысохлі. Ледзь не ў шчыліну ўціскаюся.

Слухаў, слухаў аўцюк дый кажа:

— От, сябры, складна брэшаце, аж есці захацелася...

ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА
ЛіМ
ГАЗЕТА ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ БЕЛАРУСІ

ЗАСНАВАЛЬНІКІ

**Саюз беларускіх пісьменнікаў; рэдакцыя газеты "Літаратура і мастацтва"**

**ВЫХОДЗІЦЬ З 1932 ГОДА**



**АДРАС РЭДАКЦЫІ:**
220005, Мінск, вул. Захарава, 19

**ТЭЛЕФОНЫ:**
прыёмная рэдакцыі — 284-8461
намеснікі галоўнага рэдактара — 284-8525, 284-7985
АДДЗЕЛЫ:
публіцыстыкі — 284-8204
пісьмаў і грамадскай думкі — 284-7985
літаратурнага жыцця — 284-8462
крытыкі і бібліяграфіі — 284-7985
паэзіі і прозы — 284-8204
музыкі — 284-8153
тэатра, кіно і тэлебачання — 284-8153
выяўленчага мастацтва, аховы помнікаў — 284-8462
навін — 284-8462
мастацкага афармлення — 284-8204
фота-карэспандэнт — 284-8462
бухгалтэрыя — 284-8462



**Набор і вёрстка камп'ютэрнага цэнтра тыднёвіка "ЛіМ"**

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах

Друкарня "Беларускі Дом друку" (г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 77)

Індэкс 63856.
Наклад 2812
Нумар падпісаны ў друк 13.07.2000 г. у 17.30.
Рэгістрацыйнае пасведчанне № 715
Заказ 3561.

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12